E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 16 (21) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА КАСТРЫЧНІК 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

# Папа Іаан Павел II:
## *«Я прамаўляю ад імя тых, хто пазбаўлены голасу»*

Што зрабіў папа за дваццаць пяць год свайго знаходжання на Святым прастоле? Ці стаў мір лепшым? Ці пабольшала ў ім шчасця? Чым будзе памятны Іаан Павел II для вернікаў і для гісторыі?

Папа адыграў выключную ролю ў разбурэнні камуністычнай імперыі, наогул у разбурэнні таталітарнай сістэмы. Яно пачалося з яго роднай краіны, Польшчы. Польскі касцёл цвёрда стаяў на баку народа, і дзякуючы гэтай мужнасці прагнілы аднапартыйны рэжым мусіў саступіць уладу. Менавіта польскія падзеі каталізавалі развал «лагера міру і сацыялізму». Ужо толькі за ідэалагічную падтрымку дэмакратычных сілаў і працэсаў імя Іаана Паўла II назаўжды застанецца ў гісторыі. Мільёны людзей атрымалі магчымасць удзельнічаць у адраджэнні веры, зноў зрабіць дамамі духоўнай малітвы храмы, занятыя пад майстэрні, клубы, склады.

Сёння на свеце мільярд каталікоў. Папа нікога не можа прымусіць да веры ў Бога і даверу да сябе. Яму вераць, шануючы яго дух. На сустрэчы з ім у часе апостальскіх візітаў у розныя куткі свету збіраюцца мільёны людзей. «Я прамаўляю ад імя тых, хто пазбаўлены голасу», – сказаў неяк папа. Ён быў і застаецца заступнікам слабых, абяздоленых, пакрыўджаных за свае перакананні.

Папа Іаан Павел II перакананы працаўнік вайнаў, і яго пазіцыя істотна ўплывае на тое, што іх менш, чым магло б быць. За 25 гадоў свайго пантыфікату папа здзейсніў 102 пастырскія падарожжы, у тым ліку ў былыя савецкія рэспублікі – Арменію, Грузію, Казахстан і Азербайджан. Ён двойчы наведваў Польшчу, быў на Украіне і ў Літве – самых бліжэйшых суседзяў нашай краіны. Нешаноўная ўпартасць маскоўскага патрыярхату, экзархіяй якога абвешчана тэрыторыя Беларусі, перашкаджае візіту Іаана Паўла II да беларускіх каталікоў. Можна толькі пашкадаваць, што наш урад выказаў такую залежнасць ад пазіцыі ўсходняга суседа, і нашы людзі не змаглі пачуць голас аднаго з самых аўтарытэтных і духоўных людзей сучаснасці.




## 60-я ўгодкі трагедыі мінскага гета



**21 кастрычніка 1943 года ў Мінску былі расстраляны апошнія пяць тысяч насельнікаў мінскага гета. А ўсяго за два гады немцы знішчылі ў гэтым гета 100 тысяч чалавек. Тут загінулі і мінскія габрэі і шмат дэпартаваных габрэяў з Германіі ды іншых краін Еўропы. З былых вязняў мінскага гета выжылі каля 300 чалавек. Жалобныя мерапрыемствы прайшлі ля помніка нямецкім габрэям (на вуліцы Сухой) і ля мемарыялу «Яма». На мітынгу, які тут адбыўся, выступалі былыя вязні, прадстаўнікі габрэйскіх арганізацый, цыганскай суполкі, прысутнічалі паслы Германіі, ЗША, Вялікабрытаніі, Літвы, АБСЕ. У жалобных урачыстасцях прыняў удзел ачольнік Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Філарэт**

# Дзяды-2003



2 лістапада наш народ будзе адзначаць Дзяды. Традыцыйна адбудзецца шэсце ў Курапаты. Прадстаўнікі КХП БНФ падалі заяўку на правядзенне такога шэсця і на мітынг памяці ў мемарыяле, і Мінгарвыканкам яе задаволіў. Збор удзельнікаў шэсця запланаваны а 12-й гадзіне каля Акадэміі навук, адкуль калона рушыць на Курапаты. У гэты ж дзень будуць ушанаваны і іншыя мясціны масавых рэпрэсіяў у Мінску – у Лошыцкім парку, у парку Чалюскінцаў, на Кальварыйскіх могілках. Падобныя жалобныя мерапрыемствы пройдуць і ў іншых нашых гарадах. Апроч магілаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў і ахвяраў вайны, ёсць яшчэ і вядомыя пахаванні ўдзельнікаў паўстання 1863 года, якім мы таксама павінны аддаць даніну пашаны. І ў кожнага чалавека ёсць родныя продкі, якія ўжо адышлі з гэтага свету да дзядоў і душы якіх чакаюць добрага ўспаміну, удзячнага слова, шчамлівага сардэчнага пачуцця. Не забудземся аддаць ім належны гонар.

Вінцук Вячорка
*Ніхто, акрамя нас саміх*
*Выступ на з`ездзе ТБМ*
*стар. 5*

Станіслаў Жыгорскі
*Непатрэбны досвед*
*Урывак з аповесці*
*стар. 7*

Тацццяна Вабішчэвіч
*Арсеннеўская восень*
*Роздум над вершамі*
*стар. 8*

Анатоль Грыцкевіч
*Янычары ў Беларусі*
*Гістарычны нарыс*
*стар. 10, 16*

Вячаслаў Дубінка
*Шукальнікі скарбаў*
*Эсэ*
*стар. 12*



# Заява дэлегатаў VIII з`езда ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»

**Шанаванне роднай мовы – адзін з найбліжэйшых шляхоў да дабрабыту і дэмакратыі**

Перад нашым народам зноў паўстаў маральны і палітычны выбар. Адны клічуць нас на Усход, другія заклікаюць рухацца на Захад, у дэмакратычную еўрапейскую супольнасць. Але мы жывем у сваёй краіне, на сваёй зямлі і павінны самі вырашаць уласныя пытанні.

Апошнія сацыялагічныя апытанні сведчаць, што каб жыць вольна, заможна і годна, большасць грамадзян Беларусі абіраюць свой шлях, звязаны з арыентацыяй на будучую аб'яднаную Эўропу.

Але нешта нам моцна замінае, і ўжо шмат год стаім на месцы. Руху наперад перашкаджае наша непавага да сябе, да сваёй мовы і культуры. Носьбітаў гэтай непавагі можна бачыць на дзяржаўных трыбунах, на экранах тэлевізараў, яна праяўляецца на старонках дзяржаўных часопісаў і газет, у метро, на чыгунцы, у школах і ВНУ. Пакуль мы не палюбім сваё - сваю мову, сімволіку, традыцыі і культуру – зменаў да лепшага не адбудзецца. Мы ўжо выказалі сваю думку падчас перапісу насельніцтва ў 1999 г., калі амаль 7 мільёнаў грамадзян Беларусі назвалі сваёй роднай беларускую мову. Аднак трэба замацаваць сваю пазіцыю ў штодзённым жыцці.

Дык давайце палюбім сваю родную мову і гісторыю, скажам свой шчыры дзякуй усім, хто гаворыць, піша і думае па-беларуску, запаўняе на роднай мове анкеты і бланкі, аддае сваіх дзяцей у беларускія школы і класы, чытае лекцыі і вучыцца па-беларуску ў ВНУ, выпісвае беларускамоўныя газеты і часопісы, набывае беларускія кнігі, аўдыё- і відэакасеты, ужывае беларускую мову ў рэкламе і гандлі, у міжнародных і міжасабовых стасунках.

Мы вітаем пазіцыю Еўрасаюза, дзе абвешчана роўнасць моў усіх удзельнікаў, незалежна ад колькасці насельніцтва той ці іншай краіны, і дзе кожная мова з'яўляецца адначасова і нацыянальнай, і агульнаеўрапейскай каштоўнасцю.

Мы выказваем сваю шчырую ўдзячнасць амбасадарам ЗША, Германіі, Францыі, Японіі, Літвы, Кітая і Польшчы, якія ўжываюць беларускую мову ў сваёй працы, і заклікаем да гэтага ўсіх прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу.

Мы раім сённяшнім уладам перастаць змагацца з беларушчынай, бо яна ўсё роўна выжыве і застанецца.

Жыве беларуская мова! Жыве вольная, незалежная, дэмакратычная і заможная Беларусь!

# Зварот дэлегатаў VIII з'езда ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» да грамадзян Беларусі

Шаноўны суайчыннік!

Хто б ты ні быў – жанчына ці мужчына, дарослы ці малады, селянін, студэнт, рабочы, настаўнік, вайсковец, інжынер ці бізнесовец – ведай, што найлепшы твой твар, вопратка твая, душа твая – беларуская мова.

Калі ты чуеш яе – ці то сучасную літаратурную, ці змешаную «трасянку», або мясцовую дыялектную – знай, што гэта ўсё яна – наша беларуская мова. Не адварочвайся, а прымі яе, бо яе месца ў тваёй краіне. І не падчарка яна тут, а паказвае на спрадвечнасць беларусаў на сваёй зямлі. Нашы бацькі, дзяды і прадзеды нямала зрабілі, каб беларуская мова была прызнаная як роўная сярод іншых моў свету.

Будзь і ты разам з тымі, хто думае пра яе будучыню. Размаўляй па-беларуску, бо заўтра наша мова табе, тваім дзецям і ўнукам стане неабходнай. Размаўляй па-нашаму, каб людзі бачылі тваю вернасць сваёй мове. Размаўляй з прыветнай усмешкай, з пяшчотай на вуснах – і тваёй мовай захочуць гаварыць іншыя. І не саромся недасканалай гаворкі. Мова – жывая тканка, прырастае там, дзе крынічыць людское жаданне. Ведай: учора ты яшчэ не гаварыў па-беларуску, сёння размаўляеш на «трасянцы», а заўтра будзеш гаварыць на чыстай літаратурнай мове.

А людзі, што служаць дзяржаве на чынавенскай пасадзе, табе дзякуй скажуць, бо будуць вучыцца ад цябе. А блізкія і далёкія суседзі адчуюць тваю самапавагу і будуць яшчэ больш цябе паважаць.

З беларускай мовай нам жыць у XXI стагоддзі!

*12 кастрычніка 2003 г.*

# Зварот дэлегатаў VIII з'езда ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» да палітычнага кіраўніцтва краіны

Цягам апошніх гадоў ідзе актыўная дэбеларусізацыя тэлевізійнай прасторы Беларусі. Імклівa расце колькасць тэлевізійных каналаў Расійскай Федэрацыі, якія вольна вяшчаюць як праз тэлевізійны эфір, так і праз кабельныя сеткі нашай краіны. З удзелам дзяржаўнага капіталу заснаваныя рускамоўныя «Агульнанацыянальнае тэлебачанне» і «Сталічнае тэлебачанне». Дзяржтэлерадыёкампанія амаль цалкам спыніла вяшчанне на беларускай мове і непаважна заяўляе, што родная мова беларусаў можа выкарыстоўвацца толькі ў спецыялізаваных праграмах і для вузкай аўдыторыі. Такім чынам, 73,6% грамадзян Беларусі, для якіх родная мова – беларуская, сталіся ў нашай дзяржаве «вузкай аўдыторыяй» і амаль не маюць на тэрыторыі ўласнай краіны вяшчання на сваёй мове.

На наш погляд, дзяржавай не выконваюцца палажэнні Сусветнай дэкларацыі лінгвістычных правоў, у якой дэкларавана, што кожная моўная супольнасць мае права выкарыстоўваць сваю мову, падтрымліваць і ўмацоўваць яе ва ўсіх сферах культуры. Ажыццяўленне гэтага права павінна быць поўным, каб не дапусціць пераважнага ўздзеяння чужой культуры на тэрыторыі моўнай супольнасці.

Ігнаруюцца таксама палажэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у артыкуле 14 якой запісана: «Дзяржава рэгулюе адносіны паміж сацыяльнымі, нацыянальнымі і іншымі супольнасцямі на аснове прынцыпаў роўнасці перад законам, павагі іх правоў і інтарэсаў». У той самы час вяшчанне на беларускай мове ў краіне складае менш за 7% ад агульнага эфірнага часу.

Мы, удзельнікі з'езда Грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны», патрабуем:

– аднавіць тэлевізійныя трансляцыі на беларускай мове;

– прыняць шэраг нарматыўных актаў, якія б забяспечвалі рэальную роўнасць дзвюх асноўных моўных супольнасцяў і рэгламентавалі вяшчанне на дзяржаўнай беларускай мове адпаведна лічбам перапісу насельніцтва;

– зыходзячы з гэтага, абавязаць кабельных аператараў уключаць у пакет праграм адпаведную колькасць беларускамоўнага эфірнага часу.

*12 кастрычніка 2003 г.*

# Рэзалюцыя дэлегатаў VIII з'езда ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны» пра сітуацыю вакол Нацыянальнага ліцэя імя Якуба Коласа

З'езд ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны» выказвае сваю глыбокую заклапочанасць з нагоды ліквідацыі Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь установы адукацыі «Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа» – адзінага ў свеце беларускамоўнага ліцэя. Усё гэта адбываецца на фоне далейшага скарачэння колькасці беларускамоўных базавых і сярэдніх школ у Рэспубліцы Беларусь, на фоне адсутнасці прагрэсу на дзяржаўным узроўні ў вырашэнні пытання аб адкрыцці Нацыянальнага універсітэта.

Мы заяўляем рашучы пратэст супраць гвалтоўных дзеянняў уладаў у дачыненні да педагагічнага калектыву, выкінутага з дзяржаўнай сістэмы адукацыі, і да навучэнцаў ліцэя, якія выбралі праграмы і методыкі сваіх настаўнікаў. Выкарыстанне АМАПу і іншых сілавых структур, запалохванне навучэнцаў, іх бацькоў і педагогаў – не метад вырашэння педагагічных пытанняў і праблем арганізацыі беларускамоўнай адукацыі.

Мы выказваем сваю падтрымку ўсім, хто па-сапраўднаму клапоціцца пра далейшы лёс навучэнцаў ліквідаванага ліцэя і працягвае самаахвярную працу па захаванні ліцэя на грамадскіх пачатках у цяжкіх умовах: ліцэістам, іх бацькам, педагогам, кіраўніцтву ліцэя і ўсім неабыякавым людзям.

Выказваем упэўненасць у тым, што Нацыянальны ліцэй захавае свае структуры і зробіцца падмуркам Беларускага нацыянальнага універсітэта, які мог бы распачаць працу на грамадскіх пачатках пры ўмове яго падтрымкі беларускай і міжнароднай грамадскасцю.

12 кастрычніка 2003 г.

# Зварот дэлегатаў VIII з'езда ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны» ў Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь

Мы, дэлегаты VIII з'езда ГА «ТБМ імя Ф.Скарыны», глыбока абураныя выцясненнем дзяржаўнай беларускай мовы з праграм Першага нацыянальнага тэлеканала, якое паслядоўна і груба праводзіць апошнім часам кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі. Яго нядаўнімі рашэннямі мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, наогул пазбаўлены магчымасці атрымліваць тэлеінфармацыю на роднай мове.

Незразумелая для нас пазіцыя старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова ў гэтым пытанні, як сведчыць яго інтэрв'ю газеце «Звязда» 8 кастрычніка г.г., з'яўляецца свядомай і непарушнай. Апраўдваючы свае дзеянні, Я.Рыбакоў спасылаецца не на законы нашай краіны, не на вынікі апошняга перапісу насельніцтва Беларусі, а на апытанне лабараторыі «Новак» усяго... 1.097 чалавек, з якіх, дарэчы, толькі 282 выказаліся за перавод інфармацыйных выпускаў на рускую мову. Гэта, па нашым перакананні, ніяк не можа быць сур'ёзнай падставай для палітычных змен у вяшчальнай практыцы.

Мы лічым, што сваімі апошнімі рашэннямі кіраўнікі Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі замахваюцца на наша святое права на атрыманне інфармацыі на роднай дзяржаўнай мове, і просім даць гэтаму ацэнку, вызначыўшы адпаведнасць дзеянняў кіраўніцтва НДТРК Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь законам аб мовах і аб сродках масавай інфармацыі нашай краіны.

*12 кастрычніка 2003 г.*

**ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» працягвае гістарычныя семінары для моладзі!**

*23 кастрычніка*
**«Менск у часы сталінскіх рэпрэсіяў»,**
**вядоўца – пісьменнік Кастусь ТАРАСАЎ**

*24 і 31 кастрычніка*
**«Гісторыя ўзнікнення і развіцця беларускіх партый і рухаў у Менску на працягу XX стагоддзя»,**
**вядоўца – гісторык Віктар СКАЛАБАН**

*29 і 30 кастрычніка*
**«Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска»,**
**вядоўца – гісторык, прафесар Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ**

**Семінары адбудуцца па адрасе: вул. Румянцава, 13 (праезд да станцыі метро «Плошча Перамогі»)**
**Пачатак а 18-й гадзіне**

# Корпус беларускай мовы

14 кастрычніка у Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны адбылося пасяджэнне «круглага стала» «Праблемы рэпрэзэнтатыўнасці і стварэнне корпуса беларускай мовы». У працы прымалі ўдзел прадстаўнікі Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі, ТБМ, Скарынаўскага цэнтру, Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. Гаворка вялася пра тое, што беларусы значна адсталі ад большасці славянскіх краін у сферы стварэння нацыянальнага корпуса і пэўна назаўжды ад вядучых сусветных дзяржаў. Нашыя навукоўцы мараць пра тое каб зрабіць корпус памерам хаця б 10 мільёнаў словаформаў. У той час, як амерыканскі нацыянальны корпус (праца над якім вядзецца ўжо шмат гадоў) будзе ўтрымліваць 100 мільёнаў словаформаў. Прычым ў стварэнні гэтага інфармацыйнага рэсурса ўдзельнічаюць універсітэты Берклі, Нью-Йоркскі і інш. Фундуюць буйнейшыя кампаніі: Microsoft, Sony і інш. - усяго 24 кампаніі. Удзельнічае ў працы некалькі тысяч чалавек. Кожны спонсар выдзяляе ад 27.000 да 40.000 долараў (на тры гады). Створана лічбавая бібліятэка. Згодна з заканадаўствам ЗША ўсе буйнейшыя выдавецтвы абавязаны перадаваць тэксты распрацоўшчыкам корпуса. У Беларусі нават не створаны цэнтр па архівацыі электронных тэкстаў на беларускай мове. Не вырашаны шэраг арганізацыйных і фінансавых пытанняў. Удзельнікі пасяджэння, абмеркаваўшы канцэпцыю рэпрэзэнтатыўнасці корпуса і шэраг праблем, якія ўзнікаюць на шляху выканання гэтай важнай справы, прынялі Рэзалюцыю і даручылі арганізатарам «круглага стала» звярнуцца ў шэраг дзяржаўных і грамадскіх арганізацыяў.

**Ул. кар.**

## Рэзалюцыя ўдзельнікаў «круглага стала» «Праблемы рэпрэзэнтатыўнасці і стварэнне корпуса беларускай мовы»

Мы, удзельнікі «круглага стала», адзначаем надзвычайную ўвагу ўсіх славянскіх краінаў да стварэння корпусаў нацыянальных моў, якія ўяўляюць вялікія масівы тэкстаў у электронным выглядзе, спецыяльна апрацаваных для шматмэтавага выкарыстання. Так нядаўна ва Украіне была аб'яўлена дзяржаўная праграма па стварэнні корпуса; ствараюцца фундаментальныя і спецыялізаваныя корпусы для польскай, славацкай, сербскай, харвацкай, балгарскай, чэшскай, эстонскай, вугорскай, румынскай і славенскай моваў; вельмі пасяхова вядзецца праца над чэшскім корпусам, які з'яўляецца самым распрацаваным сярод славянскіх краінаў і налічвае звыш 100 млн. тэкставых слоў. Звяртаем увагу на тое, што ў эпоху інфарматызацыі і пераходу на камп'ютэрныя тэхналогіі ўзнікла пільная неабходнасць стварэння Нацыянальнага корпуса беларускай мовы. Такі корпус дазволіць падняць лінгвістычную навуку на якасна больш высокую ступень, пераводзіць яе з інтуітыўнага на рэпрэзэнтатыўны ўзровень, дазволіць выкарыстаць яго для ўкладання новых слоўнікаў, стварэнні акадэмічнай граматыкі сучаснай беларускай мовы, даследванні мовы і стылю пісьменнікаў, сацыялінгвістычных даследах і навучанні мовам. Корпусны падыход мае сродкі і методыкі, якія могуць даць значны эфект пры правядзенні такіх даследванняў не толькі ў мовазнаўстве, але і іншых навуках, перш за ўсё грамадскіх, прынясе значную карысць грамадству ў цэлым. Зважаем, што ў грамадстве асэнсавана пільная неабходнасць стварэння Нацыянальнага корпуса беларускай мовы, пра што сведчыць абмеркаванне гэтага пытання на VIII з'ездзе Грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны». Праблематыка стварэння корпусаў славянскіх моваў абмяркоўвалася на XII і XIII Міжнародных з'ездах славістаў (Кракаў, 1998 г.; Любляна, 2003 г.). Аднак на дзяржаўным узроўні ў Беларусі гэтай праблемы надаецца недастаткова ўвагі.

У сувязі з тым, што гэтая задача не можа быць вырашана асобнымі навуковымі калектывамі, а ў яе вырашэнні зацікаўлены шмат якія ўстановы і арганізацыі, лічым неабходным прыняцце зацікаўленымі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі скаардынаваных дзеянняў па вырашэнні гэтага пытання. Звяртаемся да Міністэрства інфармацыі Беларусі, Фонда інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь, Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу, Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу, Камітэта па навуцы і тэхналогіях пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны» ў рамках пошукавай тэмы правесці ў 2004 годзе на базе Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дзе распрацавана канцэпцыя корпуса беларускай мовы,»круглы стол» прысвечаны пытанню прыняцця праграмы сумесных дзеянняў у межах краіны, забеспячэння супрацоўніцтва і арганізацыі працы па стварэнні Нацыянальнага корпуса беларускай мовы.

# Тузаніна каля Тузлы

**Чаму Расія вырашыла выдаткаваць мільёны даляраў на дамбу ў Керчанскім праліве?**

Як вядома, напрыканцы верасня Расія пачала будаўніцтва дамбы ў Керчанскім праліве ад Таманскай паўвыспы да касы Тузла, якая належыць Украіне. Гэтыя дзеянні расійскі бок тлумачыць экалагічнымі пралемамі, якія ўзніклі пасля таго, як 80 год таму касу разрылі браканьеры, а цяпер мора падмывае берагі. Украіна выказала пратэст у сувязі з будаўніцтвам дамбы на сваёй тэрыторыі. Усе папярэднія дзесяцігоддзі праблема «спаўзання берагоў» Расію не хвалявала. МЗС Расіі патрабавала ад Украіны доказаў таго, што Тузла сапраўды належыць ёй. Са свайгобоку МЗС Украіны абвінавацілa Расію ў ў замаху на тэрытарыяльную цэласнасць незалежнай дзяржавы. Украіна лічыць, што востраў Тузла —украінская тэрыторыя, бо паводле дакументаў ён быў перададзены Украіне ў 1973 годзе (па дамоўленасці паміж крымскай абласной уладай і краснадарскай краявой уладай).

Цяпер Расія будуе дамбу, якая злучыць Тузлу з расійскай тэрыторыяй, і атрымаецца, што гэты востраў дэ-факта належыць Расіі, што будзе мець значны ўплыў на падзел Азоўскага мора і на размеркаванне яго прыродных рэсурсаў.

Узнікла юрыдычная калізія, калі абодва бакі будуць высвятляць, каму належыць востраў. МЗС Украіны накіраваў ноту ў расійскае МЗС, у якой заяўляецца, што Украіна будзе абараняць сваю тэрыторыю ўсімі сродкамі. На пасяджэнні Рады бяспекі і абароны Украіны быў ухвалены комплекс мераў забеспячэння тэрытарыяльнай цэласці краіны. На Тузле створана ўкраінская памежная застава, адбываюцца манеўры ўкраінскіх памежнікаў, на якіх адпрацоўваецца выціснанне магчымых парушальнікаў украінскай тэрыторыі, каля вострава працуе ўкраінскі земснарад, які паглыбляе дно, каб перашкодзіць будаўніцтву дамбы. З расійскага боку таксама актывізуюцца пэўныя вайсковыя злучэнні. Жарсці з абадвух бакоў напаляюцца. Падзеі, што адбываюцца вакол Тузлы, шчыльна звязаныя з ваеннай дактрынай Украіны, якая прадугледжвае ўжыванне ўсіх сродкаў для абароны сваёй тэрыторыі. Вайсковы канфлікт зусім неабавязковы. Украіна можа звярнуцца да міжнародных структураў, магчыма да іншых гарантаў сваёй бяспекі (да Злучаных Штатаў).

Безумоўна, Украіна будзе весці перамоўны працэс па гэтай канфліктнай сітуацыі. 30 кастрычніка міністры замежных справаў Украіны і Расіі на сустрэчы ў Кіеве абмяркуюць пытанні аб Азоўскім моры і ў прыватнасці аб Керчанскім праліве. Тут ёсць моцны эканамічны інтарэс.



У Беларусі і Украіны, дзякаваць богу, няма памежных спрэчак. Але дамова пра мяжу, якая была падпісана ў 1997 годзе, дагэтуль не ратыфікаваная Нацыянальным Сходам Беларусі з-за неўрэгуляванасці ўкраінскага доўгу Беларусі. Магчыма расійска-украінскі памежны канфлікт паскорыць вырашэнне гэтага пытання.

**Павел БАРАНОЎСКІ**

Усе расійскія караблі з Чорнага мора ў Азоўскае праходзяць па Керчанскім праліве, агінаючы Тузлу. Абагнуць яго можна толькі злева, бо справа – паміж украінскім востравам і расійскім берагам – мелкаводдзе. Таму караблі праходзяць па гэтак званаму Керч-Енікальскім канале, які належыць Украіне, і плацяць канальны і лоцманскі зборы. Штогод тут праходзяць 8–8,5 тысяч караблёў, з якіх 60–65% ці расійскія, ці ідуць у расійскія парты. Штогадовыя выдаткі Расіі на гэтыя зборы складаюць 16 мільёнаў даляраў. Калі Расія пабудуе касу, яна будзе патрабаваць аднолькавых з Украінай умоваў для прахода сваіх караблёў.

# Халады і кошты: хто будзе пераможцам

Міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандр Мількота на прэс-канферэнцыі для журналістаў паведаміў, што зіму краіна можа сустракаць спакойна: дастаткова назапашана мазуту, дроў, вугалю. Мазуту нават назапашана 103% ад планавага задання. Але ў гэтым сезоне вострa стаіць пытане аб коштах на газ. Міністр запэўніў: насельніцтва не адчуе пераменаў у коштах на газ, бо дзяржава выдзяляе датацыю. У прыватнасці, Аляксандр Мількота паабяцаў, што да Новага года тарыфы на камунальныя паслугі павялічвацца не будуць. Такім чынам **спакойна можна жыць два месяцы**.



Самая значная частка платы за камунальныя паслугі – да 80% ад сумы у жыроўках - ідзе на аплату гарачай вады і цяпла. Менавіта таму ў ацяпляльны сезон шмат хто будзе цікавіцца магчымасцю атрымання безнаяўнай субсідыі. Атрымаць яе змогуць тыя, у каго жыроўка «з'ядае» звыш 25% сукупнага даходу. Напрыклад, за двухпакаёвую кватэру зімой трэба плаціць 74 тысячы рублёў. А жыве ў ёй сям'я пенсіянераў і атрымлівае на дваіх 230 тысяч рублёў. Зразумела, што яны маюць права на атрыманне субсідыі. Ім трэба прынесці ў ЖЭС даведку аб памеры пенсій, а камп'ютэрная праграма падлічыць, колькі ім застанецца заплаціць за паслугі.

Міністр ЖКГ лічыць, што пратэрмінованая запазычанасць насельніцтва па камунальных плацяжах у норме складае 10% ад агульнай колькасці асабовых рахункаў. У нас яна ў сярэднім вытрымліваецца. У адных рэгіёнах складае 8 адсоткаў, у іншых - 18. Міністр узгадаў, што раней пеня за несвоечасовую аплату камунальных паслуг складала 0,5%. Федэрацыя прафсаюзаў прапаноўвала знізіць яе да 0,1%. Але гэта «смешная» лічба. Пастановай урада быў вызначаны памер пені ў 0,3%. Ніякага істотнага значэння для даходаў МЖКГ такая пеня не робіць, і магчыма, што яна не надта прыкметная і для сямейнага бюджэту, але ў прафсаюзаў быў выпадак паказаць сябе барацьбітамі за дабрабыт насельніцтва.

**Яніна ЛЮТКОВІЧ**

# «Гарадзкія» шукаюць стыль

Праект «Гарадзкія» ствараўся намаганнямі гітарыста гурта «N.R.M.» Піта Паўлава. Новы праект слухачы заўважылі яшчэ калі «гараджане» прадставілі сваю беларускамоўную версію сусветнага хіта гурта «Depeche Mode» «I Feel You» для трыб'юта гурта DM, што мінулым годам выдадзены ў Беларусі. Потым быў удзел у кампіляцыі «Hardcoreманія: чаду!», удзел «Гарадзкіх» у тэлефестывалі «На срыжаваннях Еўропы» з апрацоўкай народный песні «Вяснакрасна».

«Нараджэнне» «Гарадскіх» Піт Паўлаў тлумачыць жаданнем рэалізаваць сябе ў галіне кампазіцыі, стварэння тэкстаў, а, таксама, у якасці вакаліста.

Першым афіцыйным рэлізам (на лічачы мікра-сінгла «Сіні апельсін») стане кампакт-дыск за данайменнай назвай «Гарадзкія», які выдаецца суполкай БМAgroup. Прэзентацыя новага CD адбудзецца 7 лістапада (як раз на дзень народзінаў «Рэвалюцыі і Піта») у клубе «Рэактар». Падтрымаць старэйшых таварышаў па цэху былі запрошаны маладыя каманды «Лялькі» ды «Імпэтт».

У праграму дыска і канцэртапрэзентацыі будзе ўключана песня з сінгла «Сіні апельсін», кампазіцыя з кампіляцыі «Hardcoreманія: чаду!», новыя, нідзе не гучаўшыя песні Піта Паўлава. Напрыклад, магутная, у стылі new-metal кампазіцыя «Нелегал».

Пакупнікоў жа першых асобнікаў альбома гурта «Гарадзкія» чакаюць аўтографы вядомых музыкаў ды магчымасць убачыць у адным канцэрце столькі зорак беларускай рок-музыкі.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**



Фота А. Бурсава, В. Скамарошчанкі







# 450-годдзе Рэфармацыі ў Беларусі

XVI стагодзьдзе дало Беларусі агульнаэўрапейскую славу, якая не згубіла свайго бляску аж да сёньня. Дастаткова назваць імёны Францішка Скарыны, Мікалая Радзівіла Чорнага, Сымона Буднага, Льва Сапегі, каб уявіць духоўную моц тае эпохі.

Адной з цэнтральных падзеяў стагодзьдзя была Рэфармацыя. Практычна ўсе выбітныя постаці Беларусі XVI ст. або непасрэдна зьяўляліся вернікамі пратэстанцкіх цэркваў, або знаходзіліся пад моцным уплывам рэфармацыйнай думкі.

У 1553 г. князь Мікалай Радзівіл Чорны, публічна абвесьціў аб тым, што ён вызнае эвангельскую веру і заснаваў пратэстанцкія цэрквы ў Берасьці, Вільні і Нясьвіжы. У тым жа годзе ён выдаў у Берасьці эвангельскі катэхізіс. У хуткім часе рэфармацкія зборы зьявіліся ў Клецку, Койданаве, Менску, Полацку, Віцебску, Воршы, Шклове, іншых гарадах і мястэчках.

Знакавай падзеяй у беларускай гісторыі сталася выданьне Францішкам Скарынаю Бібліі на беларускай мове. Гэта паклала пачатак ня толька беларускаму друкарству, але і сталася адной з прычынаў хуткага разьвіцьця Рэфармацыі ў нашай краіне. Хоць сам Скарына нічога не пісаў пра сваё веравызнаньне, уся яго дзейнасьць сьведчыць аб ім у першую чаргу як аб рэфарматары. Ужо той факт, што ён друкаваў Біблію для людзей паспалітых, што імкнуўся наблізіць Слова Божае да чытача, зрабіць яго распаўсюджаным і зразумелым, паказваюць беларускага першадрукара як пачынальніка Рэфармацыі ў Беларусі.

Шырокае распаўсюджваньне Рэфармацыі суправаджалася ня толькі будаўніцтвам збораў, а, у першую чаргу, адкрыцьцём пачатковых школаў пры новаўтвораных цэрквах. Адзін з галоўных прынцыпаў Рэфармацыі - патрабаваньне да кожнага хрысьціяніна чытаць Біблію, бо толькі Біблія дае паўнавартасныя веды пра веру і Бога, і толькі яна зьяўляецца асноваю хрысьціянства. Каб людзі маглі чытаць Біблію, яны павінны ўмець чытаць. Таму адукацыя разглядалася беларускімі рэфарматарамі як адна з асноўных сваіх задач.

Адной з самых моцных ідэяў, якая вынікала з мэнталітэту Рэфармацыі, была ідэя дзяржаўнага сувэрэнітэту. Біблія давала шматлікія прыклады патрыятызму і сьведчыла сваім чытачам, што воляй Бога зьяўляецца, каб кожны народ самастойна арганізоўваў сваё жыцьцё. Ня дзіўна, што менавіта магнаты-пратэстанты – Радзівіл Чорны, Радзівіл Руды, Астафей Валовіч, Леў Сапега і іншыя – былі ў першых шэрагах змагароў за незалежнасьць Вялікага Княства.

Прыняцьцё элітай Вялікага Княства ў наступным стагодзьдзі ідэалёгіі Контррэфармацыі прывяло да татальнага заняпаду ў тых сфэрах, якія ў XVI ст. былі славай нашага народу. Гэта не было абумоўлена ходам гістарычных падзеяў, гэта быў выбар эліт.

У юбілейныя дні нам можа найперш трэба асэнсаваць урокі нашай гісторыі.





## Памятны фотаздымак з восені 1988-га



19 кастрычніка 1988 года. Мінск, Чырвоны касцёл (у тым годзе яшчэ заняты пад Дом кіно). Драматычны момант падчас стварэння «Мартыралогу Беларусі» – Васіль Быкаў пазбаўляе слова прадстаўніка ЦК КПБ і выносіць на галасаванне кандыдатуру старшыні «Мартыралогу» – Зянона Пазьняка. Паўгадзінай пазней быў утвораны аргкамітэт Беларускага Народнага Фронта. На здымку (злева направа): намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ Расціслаў Бузук, пісьменнік Міхаіл Дубянецкі, які вёў сход і ведаў яго галоўную мэту, Васіль Быкаў, старшыня Саюзу кінематаграфістаў Уладзімір Нікіфараў, у глыбіні бачны гісторык Міхась Ткачоў

# Ніхто, акрамя нас саміх

## Прамова на зьездзе ТБМ

**Вінцук ВЯЧОРКА,**
**старшыня Партыі БНФ**

Шаноўныя сябры, аднадумцы!

Я не выступаю тут як госьць, з фармальным вітаньнем Зьезду ТБМ ад Партыі БНФ, бо ўсе ведаюць: Таварыства беларускай мовы й Народны Фронт стаяць за адно й змагаюцца разам, кожны скарыстоўваючы свае магчымасьці. Так было й так будзе. А як дэлегат Зьезду спынюся на пэўных пытаньнях нашае стратэгіі й тактыкі.

Перадусім колькі словаў пра Ліцэй. 125 менскіх сем'яў прынялі нялёгкае рашэньне супраціўляцца да апошняга, г.зн. не аддаваць сваіх дзяцей у расейскія школы. З фармальнага гледзішча будучыня дзяцей пакуль няпэўная: могуць быць праблемы з атэстатамі. І тым ня менш бацькі стаяць цьвёрда. Бальшыня зь іх – зусім ня знаныя грамадзкія дзеячы альбо творцы. Гэта звычайныя інжынеры, настаўнікі, прадпрымальнікі, рабочыя й нават чыноўнікі. Для іх, як і для кожнага, важныя простыя рэчы. Скажам, такія: «Хачу, каб маё дзіця вучылася ў добрай школе добрым рэчам у добрых настаўнікаў на роднай мове». І раптам гэтае простае жаданьне супала з такімі высокімі паняцьцямі, як Беларусь і Свабода. Менавіта адсюль вынікае рашучасьць бацькоў. Справа гонару Таварыства – дапамагаць змагарнаму Ліцэю чым можна, бо там сёньня канцэнтруецца жывы дух беларушчыны.

* * *

Пра нашу стратэгію ды яе навуковую базу. Апошнімі гадамі Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (НІСЭПД) на чале з праф. Алегам Манаевым стаў уключаць у свае агульнанацыянальныя апытаньні высьвятленьне мовы, якою карыстаюцца анкетаваныя (за што сацыёлягам можна толькі падзякаваць). Было чатыры варыянты адказу: *беларуская мова; расейская мова; мяшаная мова; абедзьве мовы*. З 1995 па сакавік 2003 г. фіксаваўся наступны дыяпазон лічбаў:

– носьбітаў беларускае мовы – ад 5,7% (лістапад 1997) да 1,7% (кастрычнік 2001);

– расейскае – ад 37,3% (чэрвень 1995) да 46,3% (кастрычнік 2001);

– «мяшанай» – ад 50% (чэрвень 1995) да 25,4% (верасень 2002);

– абедзьвюх моваў – ад 7,8% (чэрвень 1995) да 26,5% (сакавік 1999).

(*гл. Дыяграму*).

Праф. Манаеў бязь ценю сумневу лічыць беларускамоўнымі толькі тых нешматлікіх, хто выбраў варыянт «Беларуская мова». Вартыя жалю 2–6 працэнтаў. Ці так гэта насамрэч?

Не паддаю сумневу гэтыя лічбы, але праблема ў іх інтэрпрэтацыі. Сацыёляг толькі вымярае ступень атаясамленьня людзей з пэўным цьверджаньнем, а мовазнаўца аналізуе сэмантыку, сэнс гэтага цьверджаньня. Моўныя паводзіны масы людзей вельмі кансэрватыўныя, яны не мяняюцца на працягу пакаленьняў; што казаць пра два, пяць, нават дзесяць гадоў. Але зьвярніце ўвагу: тых, хто карыстаецца, як яны лічаць, беларускай і расейскай мовамі, з чэрвеня 1995 да лістапада 1997 пабольшала на 12,5%, а колькасьць тых, хто называў сваю мову «мяшанаю», за той жа пэрыяд радыкальна паменшылася на 17,5% (*гл. Дыяграму*). Кожнаму ясна: ня стала гэтулькі нашых людзей за нейкія два гады інакш размаўляць!

Што ж тады адбылося? Прайшоў першы лукашэнкаўскі рэфэрэндум, які навязаў нам «другую дзяржаўную мову». І тыя беларусы, што сваю ўласную мову дагэтуль не маглі дакладна вызначыць, цяпер прыстасаваліся да ўлады. Такая самая дэманстрацыя прыстасавальніцтва – істотны прырост гэтак званых «расейскамоўных» з 40,7% да 46,3% з красавіка па кастрычнік 2001 году. Адкуль яны зьявіліся? Ды з прэзыдэнцкіх выбараў! Людзі пабачылі, што дагэтуляшняя ўладная лінія застаецца, і сьвядома ці падсьвядома акрэсьлілі мову, якой карыстаюцца, «ляяльна» да ўладаў.

Што такое «мяшаная мова»? Для моўнай сьвядомасьці беларусаў характэрная тыповая сітуацыя перавернутай «піраміды прэстыжнасьці», якая на працягу доўгіх пакаленьняў уплывае на моўную самаацэнку нашых людзей. У Францыі французская мова вякамі была моваю дзяржавы, каралеўскага двара, касьцёлу, і для француза не існуе ўвогуле той градацыі «прэстыжных моваў», якая відавочная для беларуса. У нас стагодзьдзямі прызнавацца ў тым, што ты гаворыш па-беларуску, было сорамна, была непасрэдная забарона на беларускі друк у царскія часы й больш хітры перасьлед у савецкі пэрыяд. Беларускую мову зьневажае цяперашняя ўлада. У выніку тыя, хто гаворыць не на літаратурнай мове (а ў нас такіх беларускамоўных бальшыня), могуць азначыць сваю родную мову як заўгодна менавіта з прычыны моўнай закамплексаванасьці і/альбо неінфармаванасьці. Чалавек, які размаўляе на цудоўным вілейскім альбо слуцкім дыялекце, запытаны, на якой мове гаворыць, адкажа: «на зьмешанай мове гаворым: слова беларускае, слова рускае, слова польскае» (гэты стандартны адказ добра ведаюць дыялектолягі). Разумеючы, што іхная мова розьніцца ад чутай па радыё — літаратурнай, яны лічаць, што яна «зьмешаная». «Часам пад паняцьцем «зьмешанасьці» выступае прыкмета «неўнармаванасьці»», – піша наш знаны лінгвіст д-р Генадзь Цыхун.

Носьбіты гэтак званай «трасянкі» – беларускага гарадзкога кайнэ (нелітаратурнай мовы штодзённых зносінаў) – таксама гавораць па-беларуску, і гэтага няма чаго саромецца. Насыціць іншамоўнай лексыкай пэўную мову вельмі лёгка. Але з-за вялікай колькасьці англіцызмаў, напрыклад, у галяндзкай мове яна не перастае быць галяндзкаю.

Нават Менск, здавалася б, моцна зрусыфікаваны, з моўнага гледзішча вельмі шматстайны. Праедзьце ў тралейбусе а сёмай-восьмай гадзіне, а потым — а дзявятай, калі на працу едуць службоўцы, і вы пачуеце спачатку гарадзкое кайнэ ці ўзоры дыялектнае мовы, а потым піджын ці мясцовы варыянт расейскае мовы (калі замест правільнага расейскага вымаўленьня «часы», «ейцо» кажуць «чясы», «яйцо» - г.зн. гадзіньнік і



яйка). На мове маскоўскага ці піцерскага ўзору ў нас, у Беларусі, не гаворыць амаль ніхто. Бальшыня жыхароў нашых гарадоў – нядаўнія вяскоўцы, якія дома гавораць на дыялекце, кайнэ ці піджыне, а «на публіцы» імкнуцца, як умеюць, гаварыць па-расейску.

Пра тых, якія кажуць, што гавораць «і па-беларуску, і па-руску». Па-першае, гэта не значыць на літаратурнай расейскай альбо літаратурнай беларускай. Людзей, якія валодаюць літаратурнымі стандартамі прынамсі сваёй роднай мовы, няшмат ува ўсім сьвеце. Па-другое, людзі прызнаюць сябе часткова беларускамоўнымі. Калі няма ніякага ўраўнаважанага дзьвюхмоўя, а чалавек сам для сябе вызначыў, што ён гаворыць і на той, і на другой мове, гэта шмат значыць. Людзі, якія сябе апісваюць як двухмоўныя, са зьменай «піраміды прэстыжнасьці» лёгка ідэнтыфікуюць сябе як беларускамоўныя – разам з тымі 3–5%, што сёньня гавораць на літаратурнай беларускай мове.

Вось жа пра што сьведчаць лічбы ў дыяпазоне ад 52% (верасень 2002 г.) да 61,2% (лістапад 2000 г.), калі падсумаваць пазыцыі «размаўляю па-беларуску», «размаўляю па-беларуску й па-расейску», «размаўляю на зьмешанай мове» ? Пра тое, што ў нас у краіне актыўна беларускамоўных, г.зн. тых, якія ўжываюць беларускую мову ў той ці іншай ступені, бальшыня – і гэта нягледзячы на антыбеларускую палітыку ўладаў. Меншыня сьцьвярджае, што не ўжывае беларускую мову ўвогуле, хаця практычна ўсе ў нас прынамсі пасіўна валодаюць беларускаю моваю, г.зн. разумеюць яе, чытаюць і слухаюць тэксты на ёй, адчуваюць яе ўплыў на сваё мысьленьне й сьветаўспрыманьне. Уплыў можа быць інтанацыйны, лексычны, вымаўленчы, фразэалягічны і г.д. Менавіта таму носьбітаў «беларускага варыянту» рускай літаратурнай мовы лёгка распазнаюць у Маскве (скажам, паводле выразу «ни в коем разе»). І таму нават наконт тых 40–45%, якія кажуць, што гавораць «па-руску», насамрэч трэба падумаць: дзе мяжа, за якой іхную мову ўжо нельга лічыць расейскай. Тады гэта ўжо так званы pidgin-Russian, спрошчаны й зьбеларушчаны варыянт расейскае мовы.

Наагул, раіў бы сацыёлягам, якія бяруцца за моўныя пытаньні, раіцца пры іх фармуляваньні з сацыялінгвістамі. Зрэшты, лічбы, якія падае НІСЭПД, някепска карэлююць з вынікамі апошняга перапісу, паводле якога колькасьць людзей, якія называюць беларускую мову роднай, – каля 74% усяго насельніцтва. У гэтым сэнсе нашая моўная сітуацыя абсалютна пэрспэктыўная для хуткага адраджэньня – не беларускае мовы, бо яна жыве насуперак любой уладзе, – але яе статусу як адзінае дзяржаўнае мовы.

З сказанага вынікае некалькі практычных высноваў.

**Па-першае,** усе віды, формы й спосабы існаваньня беларускае мовы сёньня істотныя для яе будучыні. Мы самі сабе спрычынілі вялікую шкоду, высьмейваючы г.зв. «трасянку». Людзі, якія і без таго сароме́ліся ўласнае неўнармаванае мовы – у аснове сваёй беларускае! – пасьля публікацыяў канца 80-х гадоў, дзе ганьбілася «трасянка», сталі разглядацца як небеларускамоўныя. Гэта сацыялінгвістычная й практычная памылка. Чалавек лічыць уласную мову «мяшанай», а пры бліжэйшым паглядзе высьвятляецца, што гаворыць ён звычайным асіповіцкім альбо тураўскім дыялектам ці гарадзкім кайнэ Маладэчна, і расейцы ніколі не прызнаюць ягоную мову за сваю.

**Па-другое,** з гэтае самае прычыны зусім не ў пару імкненьне зноў і зноў ладзіць «круглыя сталы» на тэму «тарашкевіца ці наркамаўка». У дыскусіі паміж носьбітамі й упарадкавальнікамі двух правапісных варыянтаў усё даўно сказана. Цяпер пара на практычную дзейнасьць: дапаможнікі, слоўнікі, кампутарныя праграмы праверкі артаграфіі, друкаваныя выданьні, прысутнасьць мовы ў Сеціве. Практыка ўсё расставіць на месцы.

**Па-трэцяе,** зыходзьма з таго, што ня толькі прызнае беларускую мову роднаю, але практычна карыстаецца ёю абсалютная бальшыня грамадзянаў Беларусі. Гэта пацьвярджаюць сацыялягічныя дасьледаваньні. Нам нельга апускацца на ровень мінарытарнае (меншынёвае) групы, якая пакорліва выпрошвае ў бальшыні мінімальныя моўныя правы. Мы – бальшыня, мы – сіла, і з гэтых пазыцыяў і трэба выступаць.

**Па-чацьвертае,** ТБМ імя Скарыны ва ўмовах, калі моўнаму адраджэньню процідзейнічае дзяржава, павінна пераасэнсаваць сваю катэгорыю. Хоць мы і прадстаўляем каштоўнасны выбар бальшыні насельніцтва, але ТБМ цяпер павінна быць ня масавай арганізацыяй, а кадравай. Мы рэпрэзэнтуем той невялікі сьвядомы пласт *беларускамоўных, якія мусяць павесьці за сабой уласным прыкладам беларускамоўных фактычна, але не ўсьвядомлена.* Гэта значыць да кожнага сябры ТБМ трэба выстаўляць пэўныя патрабаваньні: паўсюднае карыстаньне беларускаю моваю; заява на беларускамоўнае выхаваньне ў садку й навучаньне ў школе ягоных ці ейных дзяцей; патрабаваньні да афіцыйных установаў ліставацца зь ім па-беларуску і г.д. Патрэбны **Кодэкс гонару** альбо **Прысяга сябра** ТБМ.

Ператварэньне ТБМ у кадравую арганізацыю дазволіць у разе патрэбы апэратыўна мабілізаваць тысячы сьвядомых людзей: тыя тысячы, якіх так бракавала каля Беларускага Ліцэю 1-га верасьня. Ніхто, акрамя нас саміх, ня зробіць рэальна прысутную ў грамадзтве беларускамоўнасьць відавочнаю для ўладаў і для самога грамадзтва.



# Згуртаванне скаўтаў

Першая арганізацыя скаўтаў узнікла ў 1907 г. Яе заснавальнікам лічыцца вядомы англійскі педагог лорд Р.С.Бодэн-Пауэл. Моладзь збіралася, каб развівацца фізічна, духоўна і інтэлектуальна. Скаўты дапамагалі старым, займаліся дабрачыннасцю, ладзілі розныя ўрачыстасці, навучаліся чаму-небудзь новаму і г.д. На Беларусі развіццё скаўцкага руху адзначана пасля 1918 года. Прыкладам можа стаць стварэнне ўвосень 1921 года на базе беларускай Клецкай гімназіі скаўцкай арганізацыі. У савецкай Беларусі скаўты былі забароненыя, на змену ім прыйшлі «піянеры», якія амаль усё «здзіраюць» са скаўтаў: тыя самыя гальштукі, форму, кліч «Напагатове» («Заўсёды гатоў») – усё гэта было скаўцкімі распрацоўкамі. У 1946 годзе ў Германіі ў асяроддзі эмігрантаў утвараецца арганізацыя «Крывіцкія скаўты на чужыне».

Новая хваля скаўцкага руху прайшла па Беларусі ў 1988–90-х гадах, калі былі ўтвораны шматлікія суполкі і арганізацыі. Шмат якія з іх існуюць і цяпер. Але я спынюся на новай суполцы, утворанай ўзімку 2003 года, – Хрысціянскім згуртаванні скаўтаў (ХЗС).

Наша суполка існуе менш года, але ужо шмат дасягнула. Галоўным распрацоўшчыкам ідэі і канцэпцыі дзейнасці Згуртавання стаў выкладчык НДГЛ імя Якуба Коласа сп. Валянцін Тоўсцік. Арганізацыя стваралася для сучаснай моладзі. Кожны, хто прыходзіць да нас, прыходзіць, каб развівацца і ўдасканальвацца духоўна, фізічна, інтэлектуальна. Мы пастаянна ладзім нейкія святы, распрацоўваем розныя мерапрыемствы на карысць людзям і Радзіме, разам адпачываем. Наша асноўная думка адлюстравалася ў дэвізе: «Служу Радзіме, служу Богу, служу бліжняму».



За няпоўны год наша згуртаванне ўдзельнічала ў розных святах (пілігрымка ў Будслаў, фэст у Воршы, свята Божага Цела і інш.), ладзіла адпачынак для скаўтаў (летам мы два тыдні адпачывалі на возеры Свір). Зараз распрацоўваецца праект правядзення свята Нараджэння Хрыстова для беларускамоўных дзяцей, стварэнне сайту ў Internet, выданне ўласнай моладзева-скаўцкай газеты. Згуртаванне наладжвае шматлікія заняткі для моладзі: па культуры беларускай мовы, па гісторыі, псіхалогіі, інфарматыцы, мастацтве і іншыя. Таксама дзейнічае пры нас і тэатральная студыя. Вялікую колькасць скаўтаў складаюць навучэнцы Коласаўскага ліцэя.



Кожны, хто прыходзіць да нас, можа знайсці сабе сяброў па інтарэсах, даведацца шмат цікавага пра Беларусь, навучыцца чамусьці новаму, удзельнічаць у розных імпрэзах, зносіцца са скаўтамі з іншых арганізацый і нават краін. І ўсё гэта – па-беларуску!

**Макс РУСЦЬ**

**Калі вы зацікавіліся нашай арганізацыяй ці проста маеце нейкія пытанні, тэлефануйце за больш падрабязнай інфармацыяй: 279-61-21 Макс (будні – пасля 20 гадзін, выходныя – пасля 12); 279-62-64; 8-029-761 09 43 – Дзяніс (пасля 16 гадзін); 259-23-97 – сп. Валянцін (пасля 18 гадзін).**

# Гвалт!

## *Гвалт – гэта пазбаўленне права выбару*



Стаўленне да сексуальнага гвалту над жанчынамі ў нашым грамадстве паблажлівае. «Шанцуе суседцы. І мужа мае, і каханка мае, а яшчэ і ў пад'ездзе згвалцілі». Уся кампанія - і мужчыны, і жанчыны – рагоча і прыгадвае наступную показку па тэме. Таму ў гераіні такіх показак змяніць свой статус дурніцы на статус паўнавартаснае ахвяры мінімальныя. Павялічыць іх можа хіба што смяротная небяспека. Напрыклад, імклівае распаўсюджанне ВІЧ-інфекцыі. Вось і семінар на тэму гвалту над жанчынамі адбыўся ў Мінску 1 кастрычніка ў межах барацьбы са СНІДам. Да небяспечнае хваробы – стаўленне паважнае.

На семінар прыязджала журналістка з Паўднёва-Афрыканскае рэспублікі Шарлен Сміт – аўтарка кнігі «Proud of Me» («Ганаруся сабой»). Невысокая, зграбная кабета стаіць перад беларускай аўдыторыяй і расказвае, як яе згвалцілі ва ўласным доме ў Іаганесбургу. А ганарыцца яна тым, што дамаглася, каб гвалтаўніка знайшлі і асудзілі. І, галоўнае, тым, што пачала сапраўдную вайну супраць традыцыйнага стаўлення да сексуальнага гвалту. Ёй таксама надавала сілы смяротная небяспека. Шарлен вымушаная была змагацца за жыццё, бо яе згвалцілі ў краіне, дзе 37% насельніцтва ВІЧ-інфікаванае.

Існуюць лекі, здольныя прадухіліць заражэнне, але яны вельмі дарагія нават для вядомае журналісткі, якая працуе ў Іаганесбургу. «Напярэдадні згвалтавання я брала інтэрв'ю ў шпіталі, – гаворыць Шарлен Сміт. – Адна з супрацоўніц звярнулася да мяне і папрасіла: «Шарлен, напішы пра тое, што ахвярам гвалту неабходна бясплатна выдаваць лекі, каб інфекцыя не пашыралася».

Потым здарылася тая «бясконцая ноч», як назвала яе журналістка ў сваёй кнізе. Кабета вярнулася ўвечары дадому, дзе яе ўжо чакаў дзяцюк з нажом у руках. «Ён быў вельмі ветлівым, і я разумела, што калі пачну біцца з ім, гэта яму спадабаецца. Гэта будзе якраз тое, чаго ён хоча», – расказвае цяпер, праз чатыры гады, Шарлен. «Дык вы і не супраціўляліся?» – нясмела пытаецца нехта з аўдыторыі. «Калі мне давядуць, што наведнікі банка, на які напалі рабаўнікі, павінныя супраціўляцца, тады я згаджуся, што і ахвяра гвалтаўніка таксама павінна супраціўляцца», – кажа на гэта Шарлен Сміт.

Гучыць нечакана. А для Шарлен нечаканым былі некаторыя нашыя рэаліі. Часта здараецца так, што пра кабету, якую спрабавалі згвалціць, ідзе пагалоска. На яе міргаюць, робяць непрыстойныя прапановы. У горшым выпадку спробы згвалтавання паўтараюцца. Спакойнага жыцця ў бедалагі ўжо няма. А вось каб яе знайшлі згвалтаваную і збітую, тады, вядома, іншая рэч. Тады б яе моцна шкадавалі.

Для таго каб ахвяры гвалтаўнікоў маглі на ўвесь голас паклікаць на дапамогу, існуе нават адпаведнае слова. «Гвалт!» – крычыць, хто заўгодна, але кабеты, на якіх напалі, гэтага слова баяцца.

Закон на баку ахвяры. Калі заявіць, дык гвалтаўніка пасадзяць. Хутчэй за ўсё яго нават шукаць не давядзецца, бо большасць згвалтаванняў учыняюць знаёмцы. Ды толькі першае, што пачуе згвалтаваная кабета: сама вінаватая! А потым яшчэ і тое, што праз яе скалечана жыццё ў маладога і, як будзе давядзіць на судзе адвакат, зусім прыстойнага чалавека. Ну, выпіў, ну, страціў кантроль... А ты што сабе думала: чаму пайшла ўвечары паркам, чаму кароткую спадніцу апранула, чаму не ўцякала?

«Чаму» – гэта слова абвінавачанне», – кажа Шарлен Сміт. – Наагул нельга ўжываць гэтае слова ў размове з пацярпелаю кабетаю.

Ужо праз тыдзень пасля таго, як яе згвалцілі, журналістка апублікавала першы артыкул, дзе падняла праблему, не хаваючы, што яна сама пацярпелая. Назаўтра сябры пачыналі размову са слоў: «Шарлен, я не ведаю, што сказаць...» – «Паспытайся і запытайся, як справы», – вучыла яна збянтэжаных мужчынаў.

Калі артыкул выйшаў, Шарлен пачула сотні прызнанняў. Нават ад добра знаёмых жанчын, якія, аказваецца, таксама пацярпелі. Але яны маўчалі, бо ў цэлым свеце гвалт – гэта адзіны від злачынства, калі вінавацяць ахвяру.

«Толькі маўчанне патрэбна і вірусу, які выклікае СНІД. Тады ён вельмі хутка будзе распаўсюджвацца», – гаворыць Шарлен Сміт. Яна прыводзіць страшную статыстыку Паўднёва-Афрыканскае рэспублікі, насельніцтва якой складае 41 мільён чалавек. Штодня ВІЧ заражаецца 2 тысячы, а 600 чалавек памірае ад СНІДу. Каб такога не здарылася тут, паўднёваафрыканская журналістка заклікае беларусак пачаць гаварыць.

Але, відаць, беларускам трэба вучыцца крычаць «Гвалт!» Беларуская асацыяцыя хрысціянскіх жанчын у межах аднаго з сваіх праектаў праводзіла сацыялагічнае даследаванне аб праблеме гвалту сярод студэнтак. Паводле дадзеных апытання, фізічны гвалт адчула на сабе больш як трэцяя частка апытаных, сексуальны – чацвёртая частка. Але самай вялікай праблемай аказалася неразуменне маладымі жанчынамі сутнасці гвалту. Дзяўчаты не разумелі, што такое гвалт эканамічны, а тым больш псіхалагічны.

Калі ўжо семінар з Шарлен Сміт падыходзіў да канца, малады дзявочы голас задаў пытанне: «А скажыце, калі ласка, ці заўсёды толькі хлопец вінаваты ў тым, што ўчыніў гвалт?» Дзяўчаты, відавочна, не былі ўпэўненыя ў тым, што частка віны не ляжыць на іх. Відавочна, яны пачуваліся вінаватымі – за маладосць, за прыгажосць, за кароткую спадніцу.

«Нават калі я п'яная і голая буду ляжаць на вуліцы, калі нехта скарыстаецца маім становішчам, гэта гвалт», – адказала паўднёваафрыканская журналістка.

Мэтаю гвалтаўніка не з'яўляецца сексуальнае задавальненне. Гвалт гэта выражэнне ўлады і гневу. Гвалтаўнік стараецца як мага больш балюча параніць іншых, сцягнуць прыстойных людзей на свой узровень.

Шарлен Сміт кажа, што яна пераконвала грамадзянаў сваёй краіны ў тым, што згвалтаванне аднае асобы – гэта згвалтаванне многіх.

А наконт нашых смешных показак пра згвалтаваных кабет, з якімі яе крыху пазнаёмілі на семінары, Шарлен Сміт сказала, што гэта адна са шматлікіх тактыкаў прымусіць маўчаць ахвяру. Маўчаць і баяцца. Не толькі цёмнага парку, але, пажадана, самой сябе і свайго ценю.

**Ганна ГРЫБ**

Некаторыя звесткі: 2\3 гвалтаўнікоў у момант гвалту былі ў нецвярозым стане. 30% гвалтаўнікоў – непаўналетнія. У асноўным гвалт учыняюць знаёмыя.

# Непатрэбны досвед

Станіслаў ЖЫГОРСКІ



*Урывак з аповесці «Каменнае кола ілюзіяў»*

Звычайна мне сняцца банальныя сны, якія бессэнсоўна захоўваць у памяці і тым болей шукаць у іх нейкія добрыя ці нядобрыя прадбачанні на будучыню. Лепш не падманвацца ілюзіямі, што нехта, апроч нас саміх, мае задачу клапаціцца пра наш лёс. Але зрэдку мая падсвядомасць нараджае вобразы прароцка-выкрывальнага зместу, тады на адбітках маёй начной ірацыяльнай непадпарадкаванай мне творчасці я прымушаны разглядаць пазнакі пра сябе, якія не хацелася б мне ведаць.

Нядаўна прысніўся мне гэтакі сон; ён уразіў мяне, застаўся ў памяці і трывожыць маю свядомасць. Прысніўся ён у сумную гадзіну жыцця і, відаць, таму быў насычаны нейкай змрочнай сімволікай. Памятаю, я прачнуўся ад пачуцця жаху, і ўжо наяве некалькі разоў бачыў тое ж, што адбывалася ў сне. А можа сон шматкроць паўтарыўся...

Сон быў такі. Выцягнуты, турэмнай архітэктуры, кабінет, а ў ім група людзей, сярод іх я. Мы ўсе сумныя, пахмурныя, мітусліва ходзім па кабінеце, але ў гэтым руху адчуваецца фальшывая дзелавітасць, і калі што гаворым – хлусім адзін аднаму, бо кожны ведае, што аб'яднаны мы справай, якой наканавана няўдача. Усе людзі ў кабінеце мае знаёмыя, прыяцелі з даўняга часу, тыя, каго называюць сябрамі, з кім збіраліся непарыўна прайсці разам праз жыццё. Нам трэба ўслых сказаць «Крах!», але сказаць «Крах!» раўназначна нашай неадкладнай гібелі. Калі хоць нехта прамовіць гэтае слова, яно стане прысудным – усе мы імгненна знікнем, як чэрці ад першага спеву пеўня. Таму ўсе ў душы нацэліліся хлусіць і фальшыва мітусіцца, і гутарка наша тэатральна-пафасная - бо мы самі і публіка, мы нешта выкрыкваем пра ўпартасць, мужнасць, удачу, але гэтая выратавальная хлусня робіць нас усіх глыбока няшчаснымі.

Пачуццё бяды, непазбежнасці краха напаўняла ў сне цела, і кроў біла ў скроні: «крах», «крах», «крах», а казалі, і я казаў уголас: «Трэба верыць, працаваць, спадзявацца. Все ўладкуецца. Гэта проста чорная паласа. Мы яе перакрочым».

І ўсе ведаем, што дарэмна верыць, працаваць, спадзявацца, і нічога ўжо не ўладкуецца, і не перакрочым, можа ,толькі хто адзін, і той пры выпадку нейкай здрады. І стала надта страшна, што даведалі пра галоўную тайну свайго жыцця і што зараз смяротнае слова зляціць з языка і нейкі выбух ператворыць нас у пыл, што я прачнуўся і доўгі час нерухома ляжаў, як у полі ляжаць забітыя трапным стрэлам...

Узгадваючы гэты сон, я імкнуўся растлумачыць яго ў цьмяных высокіх сімвалах, каб узнікла абароненасць хоць нейкай магіяй ці чыёсьці вышняй задумай. І растлумачыў сабе сон гэтакімі сімваламі. Гэтак пазначаны вытанчаныя здзекі Кары. Салодкімі банальнымі снамі Кара закалыхвае нашу насцярожанасць. А потым насылае бязлітасны сон шчырасці, сон без ілюзіяў. Калі прачынаешся пасля такіх сноў смерці, дык дзівуеш, што сэрца па помслівым разліку Кары не разарвалася на кавалкі, а наадварот, нібы і адпачыла – так на допытах паўжывога адліваюць вадой, дамагаючыся прызнання. Кара быццам бы нічога і не дамагаецца, ды і чаго ёй дамагацца, яна ўсё ведае, яна ведае і тое, у чым я сам сабе не хачу прызнавацца, што падазраю ў сабе як найгоршую загану, але не хачу называць словамі, бо гэта і будзе спраўджаны прызнаны «крах».

Хто такая Кара? Кара – багіня катавання душы. Працуе яна з поспехам. Калі я ў яе на допыце – я хутка губляю ахвоту жыць. Ахвота жыць выцякае струменьчыкам, як выцякае цукар з дзіравага пакета ў руках старой бабулькі па дарозе дадому з прадуктовай крамы. У хаце старая дзівіцца, што пакет пусты, і пачынае плакаць. Аб чым яна плача? Плача яна, што знемоглая і сляпая, што цукар уцёк ад яе праз непрыкметную дзірачку, і жыццё гэтаксама працякло, а засталася дзіравая абалонка, у якой нічога няма. Для старой пусты пакет – пазнака яе непатрэбнасці на гэтым свеце.

Вось і я адчуваю, што ва мне з'явілася цеча: усё, чым я намагаюся яе заткнуць, – розныя развагі пра загадкавасць лёсу ды аналогіі з чужымі бедствамі – усё вывальваецца, адрываецца, выклікаючы боль. Гэтая незакрытая ранка, як адтуліна ў пясочным гадзінніку, але мой гадзіннік разлічаны на аднаразовае выкарыстанне: верхняя колбачка – быццё, ніжняя – небыццё, і з верхняй у бездань ніжняй выцякае самае каштоўнае – воля і радасць. А перагарнуць такі гадзіннік немагчыма, ён сам спыняецца – калі наверсе не застаецца пяску.

І ўсе людзі, якія былі разам са мной у тым турэмным кабінеце, усе з такой непрыкметнай дзіркай у душы. Шмат нас там было. Толькі двух не было са старога нашага гурта – адзін рана памёр, другі рана трагічна загінуў. А мы ўсе, што яшчэ не памерлі і не загінулі, баяліся вымавіць конавае слова і прыкідваліся заклапочанымі, каб стварыць бачнасць напругі, працы, барацьбы «за годнае існаванне». Так гэта цяпер называюць...

У той дзень, калі гэты сон прысніўся і заняў не апошняе месца ў памяці, нудна сеяўся з неба дождж. Узгадалася мне бабуліна прыказка пра такое надвор'е, яна казала – «чэрці плачуць». Глядзела ў вакно на шэрае неба і амаль нябачную вадзяную завесу і казала з прыкметным сумам «чэрці плачуць». Ці выходзіла на ганак, слухала таямнічы шэпт дажджу і самотна дзялілася назіраннямі – «чэрці плачуць!». У тыя далёкія гады мне здавалася гэта смешным – якія чэрці? Дзе яны плачуць? Чаго ім плакаць? А цяпер я ведаю, што ў такое надвор'е чэрці плачуць у сэрцы. Магчыма, яны зусім не плачуць, а пяюць, і гэтае тужлівае, на адной заціснутай ноце, ныццё, падобнае на сыканне адкрытай і незапаленай газавай гарэлкі, ёсць іх радасны спеў, які адгукаецца ў чалавечай душы рэхам няўцешнасці.

Апошнія колькі гадоў я летнія месяцы жыву на вёсцы, як цяпер кажуць, «на дачы». Мне тут утульна, бо ніякага бурлівага жыцця ў гэтай вёсцы няма. Яна не проста малая і неперспектыўная. Яна трымаецца толькі таму, што жыхарства яе – чатыры бабкі і адзін стары – маюць моцнае здароўе. З павагі да высакародных метафар, можна абвясціць, што яны маюць місію захаваць родную мясціну яшчэ на які дзесятак гадоў сярод сельскіх населеных пунктаў.

Я не нашмат маладзейшы за гэтых чатырох бабак і дзеда, і мне як старому ўсё адно дзе жыць – я такі ж неперспектыўны, як і яны, і гэтая вёска. Што ў гэтай вёсцы з паказальнай назвай Загацце, што ў Парыжы – усюды мы ўжо аднолькава непатрэбныя. Мы ў вачах моладзі «капцім неба». Але на вёсцы мы ніклму не замінаем, тут няма тлуму, паветра чыстае, пануе супакойлівая цішыня і меней падманлівых ілюзій. Вёска Загацце – сапраўдны помнік зніклай гісторыі і культуры, мы жывем у заказніку, куды прагрэс не пускаюць адмыслова. Ідзеш па вуліцы, бачыш на пакінутых, забітых хатах шыльды: «Тут жыве ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны». А ніхто там не жыве: ні ўдзельнік, ні яго сям'я, хіба толькі мышы. Летам, праўда, некаторыя нежылыя двары ажываюць – прыязджаюць у родныя мясціны гарадскія нашчадкі тутэйшага жыхарства, прывозяць дзяцей «папраўляць здароўе». Тады на месяцы два, асабліва калі лета цёплае, вяртаецца сюды тлум – машыны гудуць, дзеці гамоняць, у суботу цягне ўздоўж вёскі пахам шашлыка, і п'яную балбатню чуваць да паловы ночы. А з верасня зноў вяртаецца ціша.



Хоць у кожнай хаце сталых жыхарак Загацця стаіць стары тэлевізар, але ўвечары збіраюцца ўсе на пасядзелкі да каго-небудзь аднаго – атрымоўваецца вясковы клуб. Сядзім тады чатыры бабкі, дзед Іван і я – «дачнік», глядзім і каментуем навіны: Буш абараняе дэмакратыю, Пуцін абараняе дэмакратыю, цягнік у Кітаі сышоў пад адкос, а ў Саудаўскай Аравіі чалавеку галаву адсеклі за гандаль наркотыкамі. Дзе наша вясковая хата, дзе той наркотык ці кат з шабляй, дзе Кітай, дзе Буш і Пуцін, дзе тыя, хто пра нас дбае, – усе навіны гучаць, як з чужога сузор`я, як з далёкага Марса. Ды мясцовай тэлевізіі няма, і мы, хоць і не ведае пра наш кут ніхто, акрамя сельскага савета, жадаем праз свае каментары прыляпіцца да жыцця планетнага маштабу. Бабка Вольга любіць, калі пра Германію паказваюць, там яе ўнучка недзе вучыцца, бабка хоць і не ведае, дзе і на каго, але ўважліва вывучае па тэлекарцінках германскія гарадскія пейзажы. Неяк у навінах перадавалі пра нямецкія публічныя дамы, куды шмат трапляе сэкс-рабыняў з былых савецкіх рэспублік, асабліва з Беларусі і Украіны.

– Во, – ажывіўся Іван, – трэба, бабы, вас туды ў рабства прадаць. Хоць сытыя будзеце ды пад душам памытыя.

– Гэта вы, партызаны беларускія сыны, наваявалі нам такое шчасце, – кпіць з яго бабка Верка, – не іхніх сюды вязуць, а нашых туды, зноў, як у вайну...

– Не кажы, дзеўка, – аспрэчвае дзед, – тады на шахты везлі, а цяпер на самую адказную працу. Прагрэс!

– Наста, – пытае адну старую сяброўка яе Волька, – не баішся, што твая Анжэлка гэтак маркі там зарабляе?

– А чаго, Волька, баяцца? Хіба лепш тут сядзець з намі ў падмагіллі? Хоць жыццё пабачыць, усцешыцца.

Крыху ашаломленая такім бачаннем сітуацыі бабка Волька задумліва пагаджаецца:

– І тое праўда!

– Канешне, правільна, – рэагуе дзед Іван. – Чым тут нудзіцца, дык лепш з немцамі гуляць...

Бабка Наста ўступаецца за гонар унучкі:

– Яна дзеўка сур`ёзная. Пасябравала там з нейкім мясцовым хлопцам, будуць жаніцца.

– Вось нам радасць, – не супакойваецца падколваць Іван. – Наробіць гітлеранятаў. Будуць табе крычаць: «Бабка, млека. Хэндэ хох!»

– А нашы што закрычаць, – адказвае Наста. – «Гарэлкі!»

Напрыканцы кастрычніка, перад «дзядамі», дачны сезон, як кажуць, фініта, і я перабіраюся ў горад. У горадзе зарабіць можна, і знаёмых трэба наведаць. У маладыя гады быў у мяне прыяцель, з якім разам мы пражылі некалькі незвычайных прыгодаў. Аднойчы, калі нас затрымалі пагранічнікі ў Фаросе за начлег на беразе мора і здалі ў міліцыю, абвясціўшы валацугамі, мы, чакаючы вырашэння свайго лёсу дзяжурным міліцэйскім афіцэрам, вырашылі, што прыгадаем гэтае затрыманне гадоў праз сорак на юбілейны 2000 год. Тады да яго заставалася жыць ды жыць.

Прыяцель мой даўно сышоў з гэтага свету, і другі сябра таксама памёр, і ўзгадваць зведаныя намі прыгоды магу толькі я адзін. А гэта зусім не тое, што ўспамінаць разам. Гэта сумныя ўспаміны – у адзіноце гартаць мінулыя дні. Ды і шмат іншых людзей няма, з кім хацелася б узгадаць розныя падзеі з лепшых гадоў, калі жыццё абяцала ўдачу, а сам ты быў поўны сілы, вясёлы, і ўсе бедствы яшчэ хаваліся за паваротамі часу. А можа не надта нам было б весела пры сустрэчы. Неяк не засталося нічога ад таго, што было гадоў трыццаць-сорак таму. Зрэзана бульдозерамі ўсё памятнае старое. Захавалася рэшткамі, як тая вёска Загацце, дзе нудзяцца зімнія месяцы чатыры бабкі і дзед Іван, пераказваюць успаміны пра сваё страчанае на калгас жыццё. І калгаса не стала, і жыцця няма. Каб болей было на вёсцы людзей, можа, і не дзяліліся б узгадкамі, але жыццё выкінула, як на незаселены востраў, з якога ніхто не ўратуе, і споведзі – як уратаванне. Быццам і недарэмна жылі...

Можа з паўвека назад быў я сведкам дзіўнай падзеі. Можа, ніхто, апроч мяне, і не помніць яе, але мне запала ў душу. Неяк летам пайшлі мы з хлопцамі нашага двара на футбол. Мелі намер пралезці без білетаў праз якую-небудзь шчыліну на стадыён, што было цалкам магчыма, ды не заўжды здаралася з-за пільнасці міліцыянтаў. Вось крочым мы з надзеяй на ўдачу ў густым натоўпе дарослых. І раптам ствараецца ў ім круг дыяметрам метраў на пяць, а пасярэдзіне круга стаяць два дужыя міліцыянты ў сініх фрэнчах і малады мужык – хударлявы, жылісты, рысы твару ў яго жорсткія, і бачна, што ён на падпітку. Між імі нейкая варажэча, міліцыяніы патрабуюць, каб чалавек пайшоў з імі, а той пагрозліва адказвае сіплым голасам: «Ведаеце, хто я? Я – дывізія ў рамках! Я сто фрыцаў гэтай рукой зарэзаў!» Вось гэткі вобраз ён знайшоў для свайго папярэджання пра магчымыя вынікі сутычкі. І неяк у хвіліну ўсё вырашылася – міліцыянты пайшлі ў адзін бок, а «дывізія ў рамках» знік у натоўпе. Быццам і не было нічога. Шмат тады было людзей, спрактыкаваных адымаць чужое жыццё, але і сваё невысока ацэньвалі, бо звыкліся прымаць страты як неабходнасць. А калі б падпарадкаваўся, дык пабілі б яго ў міліцыі дзеля навукі – там такія ж «дывізіі ў рамках» неслі службу пасля вайны.

Дзед Іван неяк узгадаў, што ў тыя ж гады даслужваў у Заходняй Украіне і забіў бандэраўца. За што атрымаў пяць сутак водпуску. Усё проста адбылося. Стаяў на пасту на ўскрайку горада Лукава, прыкмеціў на дарозе чалавека, закрычаў «Стой!». Той не спыніўся – пабег, Іван прыцэліўся, стрэліў – і напавал.

А цяпер той яму сніцца, бо невядома, ці бандыт быў, ці які дробны злодзей, ці проста напужаўся крыку. «Іншай ноччу доўга яго бачу, – казаў Іван. – Стаіць перад вачыма. І чую, як нехта па ім плача. Можа, матка».

Лепш не ведаць чужыя тайны, з якімі з ночы ў ноч разбіраецца чалавек, шукаючы і не знаходзячы супакаення.

Сам я ўжо не расказваю сумнеўныя гісторыі са свайго жыцця. Не таго баюся, што слухач некаму перакажа маю споведзь. Ведаю наперад – не зразумеюць. Усе любяць слухаць дзіўнае ды шчаслівае, а сумнае і сумнеўнае, гэта значыць на душэўным болі ўзгаданае, мала хто можа чуйна слухаць. Бо гэта як паток свядомасці вар'ята – тужлівае відовішча: пераможаная прырода, напаўразбураны розум, толькі пужаюцца людзі, што і для іх магчымасць такіх пакутаў не выключана. Слухаючы – нібыта сам набліжаешся да бяды, абуджаеш пахаваныя ў цёмных куточках сэрца непапраўныя памылкі, недараваныя грахі, непажаданы досвед жыцця.

# Арсеннеўская восень

«Як не любіць мне восень залатую, калі праз вопратку асін густую тон прабіваецца чырвоны, слаўны тон...» – гэтак дынамічна і лёгка – рытм, рух радка схопліваецца (і захоплівае) з першых жа словаў – пачынаўся адзін з ранніх вершаў Наталлі Арсеннвай, сёлетняй стогадовай юбіляркі. Супадзенне тое ці не, але нарадзілася паэтка таксама ўвосень – 20 верасня 1903 года. Акурат такою парою на Беларусі стаіць бабіна лета.

Калі семнаццацігадовая Арсеннева ўпершыню наважылася паказаць свае беларускамоўныя (дарэчы, якраз і прысвечаныя восені) вершы Максіму Гарэцкаму, выкладчыку Віленскае беларускае гімназіі, той са сцэны прачытаў іх на гімназічнай вечарыне, абвясціўшы аўдыторыі, што ў беларускую літаратуру прыйшла паэтка, «большая і за Цётку, і за Буйлянку».

Час паказаў, што Гарэцкі – крытык надзвычай строгі – цалкам меў рацыю, даўшы сваёй вучаніцы такую высокую ацэнку. Наталля Арсеннева - адзіная жанчына-паэтка на беларускім паэтычным алімпе 1920–1930 гадоў – заняла ў літаратуры гэткае годнае месца дзякуючы перш за ўсё дзвюм рэчам (іх, вядома, можна было б назваць папросту – талент): аўтарка мела выключнае адчуванне мовы (мелодыкі фразы і гукавой афарбоўкі слова) ды, што найістотнейшае, здолела ўдала скарыстаць гэты свой дар, знайшоўшы ўласную, непаўторную зместавa-тэматычную дзялянку. Карацей казаўшы, Арсеннева пісала так, як не мог пісаць ніхто іншы, апроч Арсеннвай. Яе вершы можна было пазнаць, нават калі б пад імі не стаяў подпіс аўтара.

«Арсеннеўская» зместавa-тэматычная дзялянка, пра якую тут вядзецца гаворка, не ёсць, зразумела, нейкім аднакампанентным утварэннем. Аднак сярод зместавых «першаасноваў» паэтычнай арыгінальнасці асобныя матывы вылучаюцца найбольш яскрава, праяўляючыся на ўсіх этапах творчага жыцця Арсеннвай. Адзін з такіх «скразных» элементаў – прырода.

Тэма гэтая для літаратуры зусім не новая. І, здавалася б, ці магчыма сказаць у ёй нешта такое, што сапраўды прыцягне ўвагу, «загучыць», зробіць чыюсьці творчасць прыкметнаю з'яваю ў літаратурным руху? З Наталляй Арсеннвай гэта аказалася магчымым. А сакрэт акурат у тым, пра што пісалася вышэй. Аўтарка знайшла сябе, адчула сябе. Так, на пытанне карэспандэнта газеты «Беларус» пра тое, чаму ў яе ранняй творчасці дамінуе прырода як канва для пачуццяў і настрояў, Арсеннева адказала: «Вось якраз жа таму, што прырода была сугучная і майму характару, і маім адчуванням. Захопленая хараством, чарамі прыроды, у гадах маёй ранняй творчасці асабліва, я не чулася ні самотнаю, ні сумнаю, ні няпэўнаю. У лесе, у палях, «пад сінім небам» я была спакойнаю і вольнай, як нідзе».

Для Арсеннвай прыродаапісальная лірыка натуральная, арганічная, «прыродная» – укарэненая ў самую сутнасць паэтычнага светабачання. Нездарма менавіта прыродаапісальныя матывы выконваюць сёння свайго кшталту маркіравальную ролю: калі гучыць імя Арсеннвай, ці не першая характарыстыка, якая прыходзіць у галаву (апроч, можа, таго, што аўтарка была эмігранткай) – гэта акрэсленне паэткі як вытанчаны пейзажыстка. Пейзажысткі «душы» ў тым ліку. Вобразы прыроды аказаліся глебаю, на якой Н.Арсеннева (асабліва на пачатковым этапе творчасці) наймацней раскрыла свой мастацкі патэнцыял, праявіла сябе як цалкам самадастатковы паэт.

І нея гэтак жа натуральным выглядае, што прырода для Наталлі Арсеннвай – гэта найперш восеньскія краявіды і восеньскія настроі. «І сваім першым па-беларуску напісаным вершам, і першым вершам друкаваным Наталля Арсеннева пачынала свой шлях як паэтка восені, вобраз восені ад самых гэтых пачаткаў стаўся для яе найблізкейшым, найулюбёнейшым [...]», – пісаў Антон Адамовіч у біяграфічна-крытычным нарысе (зб. «Між берагамі», Нью-Ёрк–Таронта, 1979), які да сёння з'яўляецца, пэўна, найбольш грунтоўнаю і ідэйна ды фактаграфічна насычанаю крыніцаю пра жыццё і творчасць паэткі.

Цікава, што «паэтка восені» – характарыстыка, трапная не толькі ў змястоўна-тэматычным, але і ў тэхнічным плане. Паэтыку Арсеннвай адрознівае вытрыманасць, някідкасць, вышлтацонасць ды арыстакратычнасць. І акурат падобныя рысы маюць восеньскія пейзажы ў абмалёўцы паэткі:

«Смутак невыслоўны», думкі пра таямніцу жыцця – вось што нараджала восеньская прырода ў сэрцы лірычнай гераіні Арсеннвай. І, як ні дзіўна, найбліжэй да таго, каб выказаць, уцеляніць у словы гэтую таямніцу, паэтка падышла не ў тонка-настраёвых, пабудаваных на чыста пейзажных матывах вершах зборнікаў «Пад сінім небам» (1927) і «Жоўтая восень» (1927–1937, асобна выдадзены не быў), а ў куды больш «прызямленым», рэалістычным, жыццёвым зборніку «Сягоння» (1944).

У вершах гэтага часу – зноў восень, але восень іншая. Цяпер яе празрыстасць і вытанчаная прыгажосць – крыніца не толькі глыбока асабістых перажыванняў, але і думак пра лёсы іншых людзей. На ранейшым пейзажным фоне прарастае новая праблематыка - агульначалавечая:

Вецер у шкляным галлі мерзлых
шыпшыннікаў звоніць.
Не адгукаецца даль, сытая жоўтай сяўбы...
Ціша асенняга дня, іржавая пустка наўкола...
Цяжка даць веры,
што свет душыць за горла вайна,
цяжка даць веры,
што ён аж захлынаецца болем,
чорнай, гарачай крывёй,
мусіць цярпець і канаць!

*(«Асенняя дарога»)*

Ад ваеннага перыяду для Арсеннвай пачынаецца час творчае сталасці. А потым – і час эміграцыі. Чужына яшчэ больш зблізіла паэтку з жыццём, з матэрыяльнымі рэаліямі свету, навучыўшы Арсенневу мужна ўспрымаць разыходжанні паміж наяўным і ўяўным. Цяпер канфрантацыя гэтая ўжо сцішана трагедыйная:

У думках – смерць... жыццё...
жыццё і смерць.
Каго хвалюе тут, што восень поліць
лісцё прысад,
каму
па іх тугу займець?

*(«Без песні жураўлінай»)*

Калі раней для паэткі і вясна, і восень у роўнай ступені былі крыніцамі светлага суму, жыццёвага гарту ды натхнення (дзіўна, але гэтыя поры году выклікалі такія падобныя пачуцці), дык эміграцыйны перыяд творчасці засведчыў, што ў «восеньскіх» вершах перамагае ўсе ж такі элегічны, хаця і без панурасці, настрой. Восень адольвае, а вясна здаецца ўжо нечым недасяжным: «Адно ці й тут бярэ ў палон вясна муры й сівы бетон - не знаю я». Паводле прызнання паэткі, восень цяпер – «свая ужо».

Арсеннева 1960–1990-х гадоў – мудрая, разважлівая, без маладой гарэзлівасці ды наіўнасці. Але ўсё ж такая восеньская:

Восень, восень, калі ж
напалам пераржам
мы з табой і ўцеху, і смутак упойны?
Гэтак будзеш ты мной,
з маёй смагай і жалем,
я ж табою,
зыркою і перапялёстай.
Будуць людзі гукаць цябе проста
«Наталяй»,
а мяне клікаць «Восеняй»,
гэтак жа проста.

*(«Гэтак будзеш ты мной»)*

Знойдзеная на самым пачатку творчага шляху тэма ды ўдала створаны вобраз ператварыліся ў сапраўдную жыццёвую алегорыю. Восень стала для Наталлі Арсеннвай найбольш ёмістым сімвалам перажытага.

**Таццяна ВАБІШЧЭВІЧ**



Наталля Арсеннева з мужам Францішкам Кушалем

## Наталля АРСЕННЕВА

### *Пад сінім небам*

Ад злых, нявеtлых песняў гора,
ад зморы шэрае зямлі
у неба сіню, ў неба мора
ты зрок прысталы падымі.
У сінім небе няма распачы
глухой, што гасіць паволі ўсё,
пад сінім небам усё іначай -
здаецца светлым, як сны, жыццё,
такім нязнаным, дзіўным, узлётным,
жыццём-натхненнем без слёз, турбот.
У сінях неба несмяротных
бясконцым святам сплывае год.
Дык гэй у неба, у край без сценяў,
ад зла, нязбыўнага ў жыцці,
на белых крылах летуцення,
Пясняр,
па слова-чар ляці!

### *Восень*

Хай жаўцее, сціхае сад з кажнай гадзінай,
сонца косы гарачыя ўсюды не сее,
хай гарыць, як агонь, ліст чырвоны асіны,
хай апошнія кветкі у садзе жаўцеюць, -
будзем чакаць вясны!

Хай паўзуць над зямлёю калматыя хмары,
хай цямнее рака, зхай жыццё заміраe,
не агорнуць нас восені горкія мары,
кажны з нас яшчэ светлае шчасце пазнае, -
будзем чакаць вясны!

Хай у душах надзе на долю канае,
зло мінецца, бы летнім дзяньком навальніца,
прыйдзе час - сонца ў сініх нябёсах зззяе,
закрасуе вясновай красою зямліца, -
будзем чакаць вясны!

### *Ціха плыў месяц*

Ціха плыў месяц між хмараў празрыстых,
зоры гублялі халодныя слёзы,
вецер зрываўся між клёнаў бязлістых,
вецце калышачы голых бярозаў.

Таялі плямы туманныя сценяў,
срэбра снягоў залівалі зімовых.
Светла было мне ад белых праменняў,
шчасна было мне ад думак тых новых.

Нейкая дзіўная сіла ўставала
ў сэрцы, да сяння пакорліва-хворым,
месяц, здаецца, рукою б дастала,
зоры б зрывала з паднебнай прасторы.

Долі пайшла б паляваць далёка
я для зямліцы, што спіць без прасвету,
і разліла б, як сягнуць можа вока,
шчасце над белым, аснежаным светам.

### *Восень у Вільні*

Клёны апалі, і золата й фарбы
крыюць зямлю дарагім дываном.
Поўныя жмені лістоў тых узяў бы,
восеньскім сплёў бы іх пышным вянком.
Таюць аблокі ў небе высокім,
хвалі туману над Вільняй стаяць.
Места мярэсціцца ўнізе, далёка,
вежы касцёлаў у неба глядзяць,
цэркваў блішчаць залатыя галовы,
цёмнымі плямамі дрэвы ляглі,
сіняй палоскаю бор нат хваёвы
ледзьве відаць за істужкай Вяллі...

Чуюцца, чуюцца восені чары
ў фарбах, у тонах лісця і нябёс,
легкім дрыжэнні кляноў у пагары,
свежасці йльдзістай, што вецер прынёс...

 



# Ілімар Паўль:

# «Ува мне жывуць два чалавекі»

Музыка ў фарбах, вершы ў рысах і песні старадаўніх вулачак Таліна – усё гэта творчасць эстонскага графіка Ілімара Паўля. Днямі адчынілася першая персанальная выстава твораў эстонскага мастака ў Мінску.

Адкрыццё сабрала ў Музеі сучаснага беларускага мастацтва сябраў эстонскай дыяспары, дыпламатаў і прадстаўнікоў амбасадаў суседніх краін, беларускіх мастакоў і журналістаў.

Большасць прадстаўленых карцін невялікія па памерах. Гэта дало магчымасць экспанаваць іх асобнымі групамі, і стварыла ў выставе свой рытм. Дакументальныя краявіды (горад і прырода) і дэкаратыўныя гульні, запрашаюць наведвальнікаў у падарожжа па старому Таліну, Нарве, а таксама ў свет абстрактных вобразаў, створаных фантазіяй мастака.



Ілімар Паўль нарадзіўся ў 1945 годзе ў Таліне. З 1966 па 1968 г. вучыўся ў Эстонскай мастацкай акадэміі на адзяленні графікі і кніжнага мастацтва. Далей працягваў навучанне ў Вышэйшай школе графікі і кніжнага мастацтва ў Лейпцыгу, якую скончыў з дыпломам у 1971 годзе. З 1972 па 1979 і з 1999 па 2001 – выкладчык Эстонскай мастацкай акадэміі. Пачынаючы з 1969 г. прыняў удзел у 200 мастацкіх выставах на радзіме і ў 28 у замежных краінах. Займаецца свабоднай графікай, стварае экслібрысы, акварэлі і плакаты, афармляе кнігі. Любімая тэхніка – друк на шоўке.

**– Спадар Паўль, якія працы вы прывезлі ў Мінск?**

– Усе мае работы зроблены ў адной тэхніцы, якая называецца ксерыграфія, ці шоўкаграфія. Самая ранняя створана ў 1973 годзе, а апошняя – ў мінулым. Так, што гэта ў некаторай ступені «зрэз» усёй маёй творчасці.

На выставе вельмі шмат карцін пра Эстонію, горад Талін і востраў Саарэмаа. Гэтыя месцы мне па душы. У Таліне я жыву, а ў летні час выязджаю на востраў Саарэмаа. Мяне натхняе прырода, якую можна пабачыць на маіх гравюрах.

Я думаю, што сучасная архітэктура – для сучасных людзей, але я вельмі хварэю менавіта за старую архітэктуру, за яе захаванне, дагляд. У прынцыпе, па маіх работах адчуваецца, што я люблю.

На другім паверсе прадстаўлены іншы бок маёй творчасці. Гэта гульня з фарбамі. Я адчуваю, што ўва мне жывуць два чалавекі. Адзін бачыць свет дакументальна і імкнецца перадаць дакладныя моманты. Другі хоча перадаць настрой. Таму і працаваў я заўсёды паралельна – раз нараджаюцца абстрактныя вобразы, іншым разам больш рэалістычныя.

Гэтыя карціны для мяне, як музыка. Вельмі цяжка ўявіць, напрыклад, у класічнай музыцы, якія вобразы стараўся перадаць творца, што гэтыя мелодыі і тоны азначаюць. Таксама і ў жывапісу. Мы прывыклі да мастацтва, дзе ёсць «карцінка», як у кнізе. Але могуць быць і проста фарбы, асобна. Тут менавіта такі выпадак – фарбы, колеры, рытмы. Я вельмі люблю музыку, і я б сказаў, што ў гэтых творах таксама ёсць музыка, толькі ў фарбах.

**– Усе вашы работы створаны ў адной тэхніцы «шаўкаграфіі», ці па-іншаму «ксерыяграфіі». У чым яе асаблівасць?**

– Шоўкаграфія мая любімая тэхніка. Я працую ў сваёй майстэрні, сам змешваю фарбы, на усіх этапах раблю без дапамогі майстроў друку. Адзінае, што набываю – гэта папера, а ўсё астатнее «ад сваёй рукі».

Можна сказаць, што шоўкаграфія гэта трафарэтны друк. Некаторыя часткі адмысловай сеткі пакрываюцца слоем, які не прапускае фарбу, затым сетка ставіцца на паперу і цягнецца ракелем, у выніку чаго атрымоўваецца выява. Калі ў задуме шматкаляровыя карціны, сетка пакрываецца фарбай яшчэ і яшчэ раз. На выставе ёсць работы, дзе я такім чынам выкарыстоўваю пятнаццаць пластоў фарбы. Ад мяне гэта вымагае дакладнасці, каб у друку пласт фарбы патрапіў менавіта на тое месца, на якое я хачу.

Мне падабаюцца фарбы, мне падабаецца гуляць фарбамі. Адна серыя маіх работ так і называецца «Гульня». Слова «эксперымент» для маіх гульняў занадта сур'ёзнае. Проста гульня.

**– Некаторыя з вашых карцін дакументальныя, як фатаздымкі ...**

– Так, хоць усе яны намаляваныя пэндзлем. Але калі глядзець з дыстанцыі, то многія сапраўды думаюць, што гэта фатаздымкі. Калі прыглядзецца, бачнымі стоновяцца штрышкі ад пэндзля. Некаторыя думаюць, што гэта лінагравюра, падобная тэхніка. Вельмі шмат апошнім часам я займаюся акварэллю.

**– Раскажыце падрабязней пра адну з вашых работ, з якой, магчыма, звязана нейкая цікавая гісторыя...**

– Вось, напрыклад, сюжэт гэтай карціны – мае ўражанні з заходняга Берліна. Я некалі быў там на днях эстонскай культуры. Гэта было ў 1983 годзе. Недалёка ад галерэі, дзе эстонскія мастакі выстаўлялі свае творы, група нямецкіх мастакоў ладзіла перфомансы. Яны ў чорных касцюмах стаялі ў вітрынах крамаў і паказвалі даволі цікавыя пантамімы .

Мяне вельмі ўсхвалявала калі мяне ўцягнулі ў гэтую гульню і паставілі туды, за гэтую вітрыну. У выніку, сярод Берліна, на галоўнай яго вуліцы, я стаяў за шыбай, у вітрыне крамы, разам з крыху шалёнымі мастакамі. Як савецкі чалавек я вельмі баяўся, бо няведама што творыцца, усе на нас глядзяць. Але нервы вытрымалі, і я нават у той час зрабіў некалькі фотаздымкаў. Фрагмент гэтага мерапрыемства стаў карцінай – людзі, прахожыя на вуліцы глядзяць прадстаўленне, і адзін з мастакоў у чорнай вопратцы артыста.

**– Як наладзіліся вашыя кантакты з Беларуссю?**

– Гэтая выстава стала магчымай дзякуючы эстонскаму консульству ў Мінску. Таксама ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва выявілася цікавасць да Эстоніі. Тое, што выстава адчынілася, на маю думку, «шчаслівы выпадак».

**– Ці былі вы раней ў Беларусі, у Мінску?**

– Я памятаю, што ўпершыню я быў у Беларусі зусім малым, разам з бацькам і маці. Мы тады шмат падарожнічалі па Саюзу. Пасля, калі я вучыўся ў ГДР, у Лейпцыгу, то вельмі часта прыязжаў у Мінск, і я памятаю, што заставаўся час гуляць па гораду, пакуль чакаў цягніка.

Беларускіх архітэктурных пейзажаў у маіх творах пакуль няма. Але зрабіў шмат фатаздымкаў. Звычайна я выкарыстоўваю свае фатаздымкі, пасля паводле іх малюю. Канешне, мяняю ў дэталях. Так, што думаю, з беларускіх фатаздымкаў таксама нешта атрымаецца.

**– Ці змяніўся Мінск з таго часу, на ваш погляд? Магчыма Беларусь натхніла вас на стварэнне новых карцін ...**

– Па вялікаму рахунку горад такі ж самы. Канешне, калі прыглядзецца, то ёсць шмат зменаў, у добрым сэнсе гэтага слова. Гэтыя шырокія вуліцы, вялікія дамы і ансамблі, – гэта ўнікальная рэч. Сюды нельга ўціснуць нейкія хмарачосы, гэта свая сістэма, і добра, што яна захавалася. Для эстонца Мінск – вельмі вялікі горад. У нас з любога ўскрайку можна прашпацыраваць да супрацьлеглага. У Мінску інакш.

У першую чаргу я пайшоў здымаць ваш стары горад. Я магу сабе ўявіць, што там будзе праз пару год, калі скончыцца рэстаўрацыя. Я хацеў бы зноў сюды прыехаць, каб пабачыць усе гэтыя вуліцы, ходнікі, дарогі. Мне вельмі спадабалася тое, што там зараз будуецца. Я здзівіўся, калі мне сказалі, што ў Мінску ёсць Стары горад. Раней гэтага не ведаў.

**– Якія вашыя ўражанні ад нашага мастацтва?**

– Я бачыў некалькі мастацкіх каталагаў з выставаў, якія адбываліся ў Музеі сучаснага мастацтва. Я думаю, што мастацтва на вельмі высокім узроўні.

**– Вядома, што вы таксама займаецеся кніжнай графікай. Раскажыце падрабязней пра гэты аспект сваёй творчасці.**

– Так некаторыя мае працы выдаваліся і зараз выдаюцца ў кнігах, таксама ў мастацкіх календарах, часопісах. Але з таго, што я прывёз у Мінск, гэтыя творы галоўным чынам экспанаваліся на выставах. Карціны падарожнічалі шмат па якіх краінах.

**– Некалькі тыдняў таму ў Эстоніі адбыўся рэферэндум, на якім большасць грамадзян выказалася за ўступленне краіны ў Еўрасаюз. Ці адаб'ецца гэта пэўным чынам на эстонскім мастацтве, на вашу думку?**

– Я думаю, што ўсе мастакі за уваход у Еўропу. Гэта адкрые магчымасці больш выстаўляць свае работы ў розных краінах, падарожнічаць. Думаю, што такіх не было, якія б сказалі, што яны супраць. Некаторыя хочуць, каб мы былі зусім самастойныя, але ж гэта немагчыма.

**– Якія тэндэнцыі зараз пераважаюць у эстонскім мастацтве?**

– Вельмі шмат накірункаў. Ад традыцыйнай графікі да цалкам сучасных тэхнік, дзе выкарыстоўваецца кампутар. Я наладзіў добры кантакт з гэтым музеем і паабяцаў расказаць дома пра Беларусь. Бо тут у Мінску хочуць больш даведацца пра эстонскае мастацтва. Можа атрымаецца прывесці больш шырокую выставу эстонскай графікі.

**– Праўда, што многія мастакі з прыбалтыйскіх краін выязжаюць працаваць на Захад?**

– Не, такіх не шмат. Некаторыя паспрабавалі паехаць, але большасць з іх вярнулася дадому і зараз працуюць на радзіме, у сваёй атмасферы, са сваімі людзьмі. Бываюць розныя выпадкі, але я сказаў бы, што з Расіі мастакоў выехала нашмат больш.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**



Фота У. Шлапак

 

 



# Янычары ў Беларусі

Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ



## Крыху гісторыі

У XVIII ст. у Беларусі былі створаны вайсковыя адзінкі па ўзору войска янычараў у Асманскай імперыі. Гэта было звязана з пастаяннымі кантактамі, галоўным чынам ваеннымі канфліктамі, Рэчы Паспалітай з Турцыяй..

Янычары (па-турэцку **ені чэры** – новае войска) былі створаны як адзінкі турэцкай адборнай пяхоты ў сярэдзіне XIV ст. пры султане Мурадзе I. Гісторыкі адносяць стварэнне корпуса янычараў да 1362 года. Спачатку янычары набіраліся з палонных юнакоў, галоўным чынам хрысціянаў, якіх гадавалі ў духу мусульманскага фанатызму і вернасці султану. З XVI ст. у янычары набіралі і туркаў. Адбіраліся найбольш моцныя хлопчыкі і юнакі (ад 8 да 20 гадоў). Падрыхтаваныя да вайсковай справы жылі ў казармах. Яны лічыліся сябрамі дэрвішскага ордэну бекшташыяў. Да XVI ст. янычарам забаранялася ўступаць у шлюб. Яны падзяляліся на роты (*орта*), харчаваліся разам з агульнага катла, і кацёл (**казан**) лічыўся сімвалам іх войска.

Янычары мелі шэраг прывілеяў, з XVI ст. атрымалі права жаніцца, займацца гандлем і рамёствамі ў свабодны ад службы час. Янычары атрымоўвалі жалаванне ад султанаў, падарункі, а іх камандзіры вылучаліся на вышэйшыя вайсковыя і адміністрацыйныя пасады імперыі. Гарнізоны янычараў знаходзіліся не толькі ў Стамбуле, але і ва ўсіх буйных гарадах Турэцкай імперыі. З XVI ст. іх служба становіцца спадчыннай, і яны ператвараюцца ў замкнёнае вайсковае саслоўе. Як султанская гвардыя янычары становяцца палітычнай сілай і часта ўмешваюцца ў палітычныя інтрыгі, скідваючы з трону непатрэбных і ўзводзячы на трон патрэбных ім султанаў.

Янычары былі вядомыя як мужныя воіны, якія кідаліся на ворага, не шкадуючы свайго жыцця. Менавіта іх атака часта вырашала лёс бітвы. Узбраенне янычараў спачатку складалася з лука, шаблі і ятагану (доўгага, з клінком да 65 сантыметраў, скрыўленага, з увагнутым лязом, кінжала). З цягам часу лук быў заменены на стрэльбу (янычарку) і адзін-два пісталеты. Мелі янычары і свае аркестры.

Янычарскае войска было ліквідавана султанам Махмудам II у 1826 годзе. У адказ на вайсковую рэформу 15 чэрвеня 1826 г. янычары ўзнялі мяцеж. Махмуд II загадаў пагалоўна знішчыць янычараў. Было нават забаронена ужываць слова «янычар». Так скончылася гісторыя янычараў у турэцкай арміі.

## Запазычанні

Арганізацыя янычарскага войска ў Турэцкай імперыі паўплывала на стварэнне вайсковых адзінак у войсках дзяржаў, што ўваходзілі ў склад федэратыўнай Рэчы Паспалітай: кароннага (польскага) і літоўскага (войска Вялікага княства Літоўскага). Аднак па сутнасці янычарскія часткі мелі толькі фармальна янычарскі характар, больш вонкавы.

Яшчэ ў час панавання караля і вялікага князя Стэфана Баторыя былі ўтвораны атрады венгерскай пяхоты, не заўсёды з венграў, але і з мясцовых жыхароў. У адрозненне ад еўрапейскай пяхоты, узброенай галоўным чынам пікамі (пікінеры), гэтыя атрады былі ўзброены рушніцамі (пісталеты), сякерамі і шаблямі. Такім чынам, Стэфан Баторый, які раней быў князем Трансільваніі, перанес свой вопыт ваеннай арганізацыі ў Рэч Паспалітую.

У апошні перыяд Паўночнай вайны на пачатку XVIII ст. і пасля ўнутранага канфлікту ў самой Рэчы Паспалітай паміж Аўгустам II, каралём польскім і вялікім князем літоўскім, і магнацкай апазіцыяй, пасля падпісання ў 1716 г. пагаднення паміж імі, замацаванага на «нямым» сойме 1717 г., была праведзена ваенная рэформа. Пад дыктоўку дыпламатаў Пятра I колькасць кароннага войска была скарочана да 18 тысяч чалавек, а войска Вялікага княства Літоўскага – да 6 тысяч. Разам з тым у выніку вайсковай рэформы замест войскаў часовага набору ствралася пастаяннае войска. У кароным войску ў складзе пяхоты было пакінута **дзве янычарскія харугвы (роты)**. Так цяпер сталі называць даўнюю венгерскую пяхоту, якая знаходзілася пад камандаваннем гетмана польнага кароннага.

У войску Вялікага княства Літоўскага былі ўтвораны **тры янычарскія харугвы (роты)**. Янычары набіраліся з вольных людзей. Адна з янычарскіх харугваў заўсёды знаходзілася пры гетмане вялікім літоўскім, дзе б ён ні знаходзіўся. На сойме 1773–75 гг. была праведзена новая вайсковая рэформа, у выніку якой у войску беларуска-літоўскім былі **дзве янычарскія харугвы абедзвюх булаў** (булавы гетмана вялікага і булавы гетмана польнага). Гэтыя дзве харугвы захаваліся да канца існавання Рэчы Паспалітай. Харугвы мелі характар не столькі баявой адзінкі, колькі ганаровай варты пры гетманах.

## Форма

Жаўнеры янычарскіх харугваў мелі такую ж вайсковую форму, як і турэцкія янычары. Яны насілі высокія янычарскія шапкі з падоўжанай меднай бляхай, прышытай наперадзе, а з бакоў зашытыя дзве драўляныя палачкі, якія падтрымлівалі верх шапкі. Ззаду з шапкі звісаў тканевы шлык, ажно да пояса. Колер гэтай суконнай шапкі быў адпаведны колеру жупана, што насілі янычары. Верхнім адзеннем у жаўнераў янычарскіх харугваў быў шырокі суконны плашч (керэя) з кароткімі да локця рукавамі. Керэя мела невялікі стаячы каўнер са шнуром. У канцы XVIII ст. колер керэі быў чырвоны.

Пад гэтым плашчом янычары насілі доўгі суконны жупан (ніжэй калена) белага колеру з рукавамі да самай кісці. Рукавы былі шырокія. Яны зашпільваліся засцежкамі з кручкоў і петляў. Такія ж засцежкі былі пад шыяй і на жываце аж да пояса. Жупан па баках меў разрэзы. Пярэдняе крысо жупана абшывалася шнурам колеру плашча. Янычары апраналі шырокія і доўгія суконныя шаравары, якія віселі да паловы халявы бота. Шаравары былі дастасаваныя да колеру керэі – чырвоныя. Боты былі звычайнага ў Беларусі ўзору: для паўсядзённай службы – чорнага колеру, для парадной формы – з тоўстай скуры. Пас на жупане быў раменны, спераду ўпрыгожаны меднымі бляшкамі. На керэі з левага боку вісела шабля з рагавой турэцкай рукаяткай, апраўленай меддзю. Раменны пас таксама быў упрыгожаны меднымі бляшкамі. Гэты пас накідваўся на правае плячо. А з левага пляча вісеў яшчэ адзін пас на правы бок. На ім была падвешана сумка з патронамі і порахам. У час знаходжання на варце янычар меў з сабой карабін са штыхом. Падчас паходу карабін вісеў на чорным пасе за спіною.

Афіцэры на службе мелі такую ж, як у жаўнераў, уніформу. У канцы XVIII ст. замест керэі яны насілі курткі з чырвонага сукна з пятліцамі і кутасікамі, а пад курткай белы жупан. Куртка была ўпрыгожана эпалетамі і пятліцамі з кісткамі. Шаравары таксама былі чырвонымі. На службе афіцэры насілі галаўны ўбор, які адрозніваўся ад жаўнерскага. Гэта была высокая чырвоная шапка, вакол якой намотвалася белая чалма. Часам замест чалмы ўжываўся багаты пас, на які яшчэ замацоўваўся пярсцёнак з каштоўным каменем, які свяціўся. Афіцэрская шапка была з аксаміту. На перадзе шапкі быў умацаваны стаячы плюмаж. Афіцэры не завешвалі шаблю на пас праз плячо, але прывязвалі збоку. Апаясаны афіцэрскі жупан быў багатым персідскім або турэцкім пасам. Афіцэрская шабля была ўпрыгожана цемляком. Па-за службай янычарскія афіцэры насілі звычайныя мундзіры, якія былі ў конных войсках. Аднак у адрозненне ад іншых афіцэраў, янычарскія афіцэры, паводле турэцкай моды, мелі права падшываць свае плашчы футрам або ўвогуле насіць зімой шубы. Улетку яны звычайна падшывалі свае курткі атласам або іншым матэрыялам.

## Ваенныя аркестры

Янычарскія харугвы мелі і свае ўласныя аркестры, і сваю музыку. Іх музычныя інструменты шмат у чым адрозніваліся ад інструментаў іншых вайсковых аркестраў. Так, янычарскі барабан быў у два раза большы, чым у іншых пяхотных адзінках. Барабан быў абцягнуты сукном у колер мундзіра. Барабаншчык (*добаш*) насіў барабан спераду ад сябе на рамні, замацаваным ніжэй шыі. Таму, калі барабаншчыкам быў чалавек малога росту або хлопец, яго не было відаць з-за барабана. Барабаншчыкамі былі жаўнеры па чарзе, бо лічылася, што для біцця ў барабан вялікай навукі не трэба, таму што выкананне музычных сігналаў было простае. Два разы трэба было біць барабаннай палкай па адным баку барабана і адзін раз тонкай драўлянай палкай па другім баку. Калі не трэба было салютаваць гетману або іншаму высокаму начальніку ці ў выпадку, напрыклад, пажару, барабаншчык біў у барабан хутчэй. Калі ж адбывалася змена варты, то ў барабаны білі больш павольна і з паузамі.

У янычарскіх вайсковых адзінках ствараліся аркестры, якія называліся **янычарскімі капеламі**. Гэтыя вайсковыя аркестры складаліся з духавых інструментаў (сурмаў, флейтаў) і мноства ўдарных інструментаў – барабанаў, тулумбасаў (ад літаўраў), металічных талерак і званочкаў.

Звычайна янычарская капэла складалася з шасці музыкаў-сурмачоў (якіх называлі яшчэ *габаістамі*). Часам колькасць сурмачоў даходзіла ў капэле да васьмі. Сучаснік-мемуарыст Анджэй Кітовіч называе іх *пішчыкамі*, бо яны выдавалі прарэзлівыя гукі, «пішчалі». Падарожнік Вільгельм Шлемюлер, які ў 1752 г. наведаў Гародню, занатаваў у сваім дзённіку: *«Адразу пасля паўдня, прагульваючыся па гарадку і з цікавасцю яго аглядаючы, мы пачулі янычарскую музыку вялікага гетмана Радзівіла, якая грала перад яго палацам. Зусім варварская і жудасная, яна моцным і прарэзлівым «крыкам» раздзірала вушы. З абодвух бакоў білі ў вялікія барабаны, а іншыя вялікімі меднымі талеркамі білі і памахвалі».*

У янычарскай капэле былі таксама і выканаўцы музыкі на ўдарных інструментах: 6 барабаншчыкаў; 2 «*палкеры*», якія білі палкамі ў медныя невялікія катлы, што стаялі на зямлі, і два *ўдарнікі*, якія білі ў медныя, выпуклыя ў сярэдзіне талеркі. Кожны ўдарнік біў талерку аб талерку, выдаючы моцны гук. Талкеры і ўдарнікі стаялі ў рад перад вокнамі гетмана, у 50 кроках ад палаца і агучвалі сваю музычную праграму. Кітовіч адзначае, што янычарскія капэлы выконвалі не толькі турэцкую музыку, але і гралі для гетмана «на добры дзень» дзве вялікія п'есы накшталт сімфоніі і яшчэ дзве накшталт мазуркі.

Працяг на стар. 16

 

# Другі дом для вундэркінда

Многія бацькі жадаюць аддаць сваіх дзяцей не ў простую школу ці садок, а ў якую-небудзь модную і мадэрновую. Каб гадаваліся вундэркінды. І трэба сказаць, выбар тут немалы. Давядзецца нават паламаць галаву, якія школка ці садок найлепшыя і найсучаснейшыя.

## Чытаць у тры гадкі!

Апошнімі гадамі атрымала распаўсюд так званая нетрадыцыйная школьная адукацыя з развіваючымі навучальнымі сістэмамі. Пра многія найноўшыя методыкі вы, відаць, чулі. Напрыклад, гэта сістэмы Занкова, Зайцава ці Эльконіна-Давыдава. Паводле гэтых развіваючых сістэмаў дзяцей вучаць у паўсотні мінскіх школаў. Праўда, такіх сярэдніх навучальных установаў у чыстым выглядзе няма, ёсць толькі асобныя класы ў іх. Выкладанне па найноўшых методыках вядзецца шэсць першых гадоў і задарма. Дарэчы, каб патрапіць сюды, нягледзячы на моднасць, не трэба праходзіць ніякіх конкурсаў.

Дзіцячыя садкі таксама працуюць па падобных развіваючых методыках: відаць, у многіх бацькоў на слыху педагогіка Мантэсоры, ужо згаданага Зайцава, тэхналогія на аснове тэорыі рашэння вынаходніцкіх задач ды іншыя. Дзякуючы ім малыя ўжо ў пяць год, а то і ў тры, чытаюць і праводзяць арыфметычныя дзеянні ў межах тысячы. У Мінску 142 такія прасунутыя садкі.

Варта сказаць і пра самыя крутыя садкі і школы. То бок платныя. Выхаванне і навучанне дзяцей абыдзецца тут прыкладна на 200–300 долараў. Штомесяц. Натуральна, што такая раскоша мала каму па кішэні. У большасці беларусаў увесь заробак складае палову ад гэтай сумы.

## Трамплін у ВНУ

Па-ранейшаму папулярныя ў бацькоў і дзяцей, кажучы афіцыйнай мовай Мінадукацыі, школы новага тыпу ці гімназіі і ліцэі. Яшчэ б! Калі студэнтамі вышэйшых навучальных установаў становяцца толькі прыкладна 60 адсоткаў выпускнікоў школ, то ў гімназіі і ліцэяў гэты паказчык роўны 95 адсоткам, а ў некаторых усе 99. Выбар іх досыць багаты. Праўда, адной такой сярэдняй навучальнай установы з нядаўняга часу не стала. Маецца на ўвазе скасаваны Гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа.

У Мінску болей трох дзесяткаў гімназій, самых розных па профілях і ў самых розных кутках горада. Навучанне доўжыцца ад пятага па дванаццаты класы. Прыём сюды па конкурсе: трэба прайсці тэставанне па рускай і беларускай мовах, а таксама па матэматыцы. На адно месца ў сярэднім прэтэндуюць тры чалавекі. Болей за астатніх шанцаў у тых, хто вучыўся ў першых трох класах пры гімназіі, якія называюцца прагімназіяй. Нейкіх ільготаў у параўнанні з тымі, хто паступае са звычайных школаў, яны не маюць, але валодаюць большымі ведамі.

Якія ж гімназіі самыя лепшыя? Хіба што тыя, што маюць адмысловыя гімназічныя парадкавыя нумары. Гэта гімназіі з №1 па №16. Астатнія працуюць пад тымі нумарамі, пад якімі яны існавалі яшчэ ў якасці звычайных школ.



Пасля закрыцця ліцэя імя Якуба Коласа, сярэдніх навучальных установаў падобнага тыпу ў Мінску засталося ўсяго чатыры. Гэта гарадскія ліцэі № 1 и № 2, а таксама ліцэй Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта і ліцэй Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Гарадскі ліцэй № 1, дзе трэба вучыцца 4 гады, лічыцца сярэдняй навучальнай установай пры Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Адпаведны тут і профіль. Ліцэй №2 з двума гадамі навучання супрацоўнічае з Міжнародным экалагічным універсітэтам імя Сахарава. Тут маюцца класы з фізіка-матэматычным, матэматычным, хіміка-біялагічным, экалагічным і грамадска-гуманітарным ухіламі.

У ліцэі пры БНТУ можна вучыцца ў інжынерных і архітэктурных класах. У ліцэі пры БДУ наступная спецыялізацыя: класы з паглыбленым вывучэннем фізікі, матэматыкі, хіміі, біялогіі, рускай і беларускай моваў і літаратураў, гісторыі.

| Раён | № гімназіі | Адрас | Профіль |
|---|---|---|---|
| Заводскі | | | |
| | №14 | Васняцова,10 | Замежныя мовы,фізіка-матэматычны, філалагічны, агульнаэстэтычны |
| | №214 | Несцярава,80 | Замежныя мовы, гуманітарны |
| | №25 | Сядова, 3 | Замежныя мовы, матэматычны, экалагічны |
| Ленінскі | | | |
| | №1 | пр-т. Ракасоўскага,138 | Замежныя мовы, лінгвістычны, фізіка-матэматычны, эканамічны, юрыдычны, хіміка-біялагічны |
| Маскоўскі | | | |
| | №61 | Слабодская,101 | Замежныя мовы, фізіка-матэматычны, эканамічны, грамадска-гуманітарны |
| | №146 | Пр-т газеты «Правда»,48 | Замежныя мовы, эканоміка-лінгвістычны, юрыдычна-лінгвістычны |
| | №12 | Голубева,10 | Замежныя мовы, медыцынскі, эканамічны, прававы |
| | №10 | Голубева, 29 | Замежныя мовы, лінгвістычны, эканоміка-лінгвістычны, агульнаэстэтычны |
| | №174 | Касманаўтаў, 15/2 | Прыродазнаўча- матэматычны, агульнаэстэтычны |
| | №192 | Касманаўтаў, 13/2 | Эканамічны, прававы, агульнаэстэтычны |
| Кастрычніцкі | | | |
| | №56 | Варанянскага,11/2 | Замежныя мовы, фізіка-матэматычны, філалагічны |
| | №74 | Артылерыстаў,15 | Замежныя мовы, білінгвістычны, фізіка-матэматычны |
| | №75 | Свярдлова, 30 | Замежныя мовы, архітэктурна-мастацкі |
| Партызанскі | | | |
| | №7 | Захарава,58 | Замежныя мовы |
| | №5 | Уральская,15-а | Замежныя мовы, фізіка-матэматычны, эканамічны |
| Першамайскі | | | |
| | №1 | Каліноўскага,36 | Замежныя мовы, фізіка-матэматычны, грамадска-гуманітарны |
| | №9 | Сядых,10 | Замежныя мовы, фізіка-матэматычны |
| | №2 | Нікіфарава, 37 | Замежныя мовы, фізіка-матэматычны, грамадска-гуманітарны |
| Савецкі | | | |
| | №6 | Усходняя,40 | Палітэхнічны |
| | №15 | Багдановіча, 84 | Музычны |
| | №171 | Гамарніка, 8 | Замежныя мовы, фізіка-матэматычны, гісторыка-правазнаўчы, педагагічны |
| | №8 | Коласа, 41 | Лінгвістычны, агульнаэстэтычны |
| | №23 | пр. Скырыны,45 | Лінгвістычны, фізіка-матэматычны, эканамічны |
| Фрунзенскі | | | |
| | №13 | Адзінцова, 32 | Тэхналагічны |
| | №4 | Кунцаўшчына,18 | Фізіка-матэматычны, хіміка-біялагічны, філалагічны, эканамічны |
| | №149 | Маўра,10-а | Эканамічны, матэматычны |
| Цэнтральны | | | |
| | №42 | Камсамольская, 21 | Прававы, эканамічны |
| | №50 | Кісялёва, 9 | Матэматычны, фізічны |
| | №24 | Інтэрнацыянальная, 40 | Лінгвістычны |
| | №3 | Харужай,46, к.3 | Педагагічны |
| | №16 | Л.Украінкі, 2 | Замежныя мовы, агульнаэстэтычны |
| | Гімназія-каледж мастацтваў | Камуністычная,52 | |
| | Гімназія-каледж пры Акадэміі музыкі | пл. Свабоды,7 | |

## Белшкола і белсадок

З прычыны ўсталяванага несправядлівага білінгвізму асаблівымі можна назваць і беларускамоўныя школы. У нашай краіне па-беларуску ў школах навучаюцца цяпер меней за 30 адсоткаў дзяцей. У асноўным гэта ў сельскай мясцовасці. Паводле даследаванняў ЮНЕСКА, калі з мовай такая сітуацыя, то лічыцца, што яна чэзне.

У сталіцы з дзвюх з паловай сотняў сярэдніх навучальных установаў выкладанне прадметаў на беларускай мове вядзецца ўсяго ў 13 школах і гімназіях. Паколькі гэта такая рэдкасць, то варта распавесці пра іх падрабязней. Беларускамоўныя школы і гімназіі працуюць абсалютна ва ўсіх раёнах горада. Болей за ўсё іх у Заводскім раёне Мінска. Цэлых тры. Гэта школа № 68 з фізіка-матэматычным ухілам у завулку Ахоцкім,17, матэматычная школа №131 па вуліцы Убарэвіча,74, а таксама гімназія №14 па вуліцы Васняцова,10. Натуральна, далёка не ўсім бацькам і іхнім дзецям, ахвотным вучыцца па-беларуску, пашэнціла так, каб такія школы былі каля самага дому. Аднак практыка паказвае, што ангажаваныя ў беларускамоўе гатовыя, калі давядзецца, ездзіць не тое што за некалькі прыпынкаў, а нават ледзьве не цераз паўгорада.

Што да іншых сталічных раёнаў, то ў Кастрычніцкім раёне дзейнічае беларускамоўная школа №89 з вывучэннем этнічных традыцый нашага народа. Яна месціцца па вуліцы Пухавіцкай, 21. Яшчэ тут ёсць школа №110 з эканамічным профілем па вуліцы Брэсцкай, 66. У Першамайскім раёне працуе беларускамоўная гімназія № 9, а па вуліцы Нікіфарава,19 ёсць школа № 190, дзе можна паглыблена вывучаць ангельскую мову.

У астатніх сталічных раёнах дзейнічае па адной беларускамоўнай школе ці гімназіі. У Савецкім – гімназія № 23 , у Цэнтральным - мастацкая гімназія-каледж № 26, у Фрунзенскім – гімназія № 4 , у Маскоўскім – школа№ 60 , у Ленінскім - школа№2 , у Партызанскім раёне – школа № 72 (Халмагорская,59).

Калі гэтыя школы вам з той ці іншай прычыны не падыходзяць, застаецца яшчэ варыянт пашукаць зручную рускамоўную школу, дзе былі б беларускамоўныя класы. Яны існуюць амаль ва ўсіх сталічных раёнах, апрача двух - Савецкага і Фрунзенскага. На падказку бацькам - гэта школы №№ 11, 15, 29, 37, 40, 84, 86, 108, 210, 218.

Наўрад ці бліжэйшым часам, мяркуючы па цяперашняй нацыянальнай палітыцы, у якой беларусізацыяй і не пахне, у Мінску з'явяцца багата іншых школ ці гімназій з выкладаннем усіх прадметаў на беларускай мове. Куды рэальней адкрыццё беларускамоўных класаў у рускамоўных школах, хаця і гэты працэс надзвычай складаны. Вялікага энтузіязму няма, на жаль, ні ва ўладаў, ні ў саміх грамадзян. Што тычыцца бацькоў, то іх спыняюць аддаваць дзяцей у беларускамоўныя класы аб'ектыўныя адукацыйныя акалічнасці. Пасля беларускамоўнай школы не будзе належнага працягу ў беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установе. ТБМ ужо не адзін год спрабуе прасунуць ідэю стварэння такой ВНУ ва ўладных калідорах.

Калі мы ўжо завялі гаворку пра гэтую праблему, то варта распавесці і пра тое, якая сітуацыя з самым першым звяном у сістэме беларускамоўнай адукацыі - з дзіцячымі садкамі. Цалкам беларускамоўных садкоў у Мінску ўсяго тры. Знаходзяцца яны ў Цэнтральным (№187), Ленінскім (№134) і ў Савецкім (№314) раёнах. Можна пашукаць яшчэ падыходзячую вам адну з 168 беларускамоўных групак у рускамоўных садках. Адмысловыя даведкі можна атрымаць ва ўправах адукацыі сваіх райвыканкамаў.

**Кірэй МАНУЙЛА**

Вячаслаў ДУБІНКА

# Шукальнікі скарбаў

### *Камайскія кантрасты*

Пад час падарожжаў па сцежках старонкі роднай столькі дзівосаў пабачыш, дый такіх... Нямала захавалася помнікаў зацятае барацьбы «з рэлігійным дурманам». У мястэчку Камайск радавала вока, цешыла душу цэркаўка, выштукаваная вясковымі дойлідамі два стагоддзі таму. Да цэркаўкі па загаду раённых партдзеячаў старшыня калгаса пастараўся – і з жывёлагадоўчай фермы пабегла жыжа, рэлігійнаму туману дразда даючы. Сонца неяк сарамліва спрабуе зазірнуць у замурзаныя шыбкі зганьбаванай цэркаўкі. Прабяжыць па пачарнелым збуцвелым інтэр'еры і хутчэй адсюль, хіба што схавацца за воблакі.

Пабачыўшы нас, купку новых людзей, падышоў бліжэй вясковы настаўнік, ссівелы, стомлены, некалькі кніжак пад пахай, выдыхае горкае гучна, гнеўна:

– Свае ж і аплявалі! Быдлу анічога не трэба! Паеў, ды ў хлеў. Ім хопіць і пару мяшкоў бульбы, каб набіць кіндзюк. Мой дзед будаваў гэтую цэркаўку, а што засталося... Чорны попел у чорнай ночы...

А каля пачарнелай крамы соўгаюцца некалькі вясковых п'янтосаў. Там крамнага, дзяржаўнага пойла – залейся. Адзін паддаты другому нібыта жаліцца, а хутчэй хваліцца:

– У мяне аж сямёра дзяцей і ўсе есці хочуць... А я ж выпіць люблю...

А на ўскраі Камайска прывабіў вялікі, некалі ладны, а цяпер занядбаны дом, без жывое душы. А колькі тут рэчаў, што некалі служылі штодня, штогадзінна. Па-хлапечаму радуюцца сталічныя мастакі, яны ж некалі выйшлі з гэтых хатаў у свет непаўторны, а цяпер вось сустрэча з дзяцінствам. Дай ім памацаць аброць, пагладзіць хамут, пацягаць за аглоблі фуру для сена, цярнуць далонню па пысе белага коніка, прывязанага каля плоту, прывеціць маркотнага сабачку...

### *У п'яным лесе і тубыльцы вясёлыя*

Вёска П'яны Лес. То па-бывалешнему. Брыдкую назву па загаду зверху прыбралі, ахрысціўшы Сасноўкай. Туліцца вёсачка каля старой дарогі, калі імчаць са сталіцы на Бягомаль. А вось у новахрышчонай Сасноўцы цвярозых паболей не стала. Усяго нам бачылася пад час этнаграфічна-пазнавальнай экспедыцыі, але такое. Трое ў дупель п'яных мужыкоў адключыліся, ляжаць упокат каля плоту. Бедалагі, нат і ровараў не прыпаркавалі, кінулі пад ногі. У такіх гаспадароў і разбуркі-хаты ў самотным одуме на свет дзівяцца. Нахабныя п'яныя кабеты ледзь не кідаюцца на нашу машыну, – весела з жартамі, – жыццялюбы. А непадалёку стромкія сосны плачуць, пасечаныя стрэлачкамі-пікамі. Жывіца бяжыць у адметны посуд – жалезныя кулечкі. Плачуць смаляныя дрэвы, каб тубыльцам П'янага Лесу на пахмелку дабра нацадзіць. І не палічыць, колькі ж гектараў лесу ў наваколлі Сасноўкі з такімі вось драпінамі, як вострай сякерай, па-жывому. Глухі лес, шчыльна прытуліліся дрэвы. Вартуюць глухую сцежку, хіба што ў Каралёў Стан чужых не пускаюць. Вось ён знакаміты агромністы валун-камень. Колькі ж стагоддзяў вартуе мясціну арыгінальны помнік. Пашпарт сівое даўніны, своеасаблівая згадка: тут у час паходу мелі прытулак ваяры караля Стэфана Баторыя.

Непадалёку трое дзецюкоў цягнуць вялікае бервяно. Ад іх пачулі:

– Шмат гадоў запар сюды наязджалі нахабныя мацакі і з доўгімі жалезнымі прэнтамі паўсюдна корпаліся, глыбока капалі, а начавалі ў палатках, пілі, моцна спявалі, мацюгаліся. Багацце шукалі. Золата каралеўскае, бачыце, – хутарскі дзядзька ў кепачцы паказвае на паляну.

Падышоў новы апавядальнік у камізэльцы і гумавых ботах, ён даглядае чатырох белых козачак. Смяецца хітравата:

– Мясцовыя і знайшлі тыя скарбы. Набылі аўто, мэблю, дыванамі пекнымі сцены абчаплялі... Але вось дзіва: сюды п'янтосы з райцэнтра едуць, як пацяплее. А вось сабакі праклятае месца абмінаюць. Заезджыя бандзюгі хутарскога сабачку палкамі да смерці, ды на дрэва падчапілі.

### *Напамінкі*

Хутар паблізу вскі Вараны. Узорнакласічны, адмысловы, і дамок, і клуня, і хлеў, і абора, дужа дбайнага гаспадара набытак. Але няма каму пацешыцца, цішыня, бязлюддзе. У клуні пад страхой на відным месцы стары плецены куфар. Прыадчынілі вечка – кнігі, старыя, бывалешнія, але спарахнелыя. Ад вільгаці, ад часу, ад нядбайнасці. Гартаю чытанку-падручнік: «Гісторыя гасударства Расейскага», 1904 года выдання. Нейкая сіла неадольна трымае тут. І ладная студня, і азяроды. Вось адкуль, з хутарскіх прысадаў трэба было пачынаць «вясковы турызм», але, але... Хутарскія забудовы і, праўда, ладныя, моцныя. Аднак куды прэць баявыя калоны мурашоў? І цёмна ад іх. Ад хлява ды павярнулі ў хату. Забітыя дошкамі вокны, але шкло захавалася. Дзверы ў хату адчынены, хаця на прабоі вісіць ладны замок з польскім клеймам. І саломенны капялюш ад дажджу, на відным месцы, накінь і красуйся. Заходзім у хату, насцярожана азіраемся. Дубовыя лавы ўздоўж сцен.

Кірзавых ботаў з абсечанымі халявамі мо чортаў тузін. Якія абачлівыя. Наўмысна пад сякеру, каб не пакралі. Цапы на сцяне паржавелі, збанкі ў радок на стале і горы драўляных рамак. Для якое патрэбы? Для люстэрка, для малюнкаў, на продаж? Стос малюнкаў на лаве, выканаых у тэхніцы алеаграфіі. І на кожным пераважае культавы сюжэт. У вялікай місцы гара самаробных касцяных гузікаў, драўляныя грабянцы. А колькі ж тут непатрэбных нікому паштовак. Пад бэлькай замаркоціліся без справы сярпы. Пайшоў гаспадар у суседнюю вёску і да хаты не вярнуўся. А гаспадар, якіх пашукаць. У яго ж і свой жоран, вялікі ладны кубел, на донцы якога захавалася мука. Побач ступка з вясёлым таўкачом. Дзівімся самаробным смычкамі для скрыпкі, іх шмат на цвічку. На лаве кідаецца ў вочы вучнёўскі дзённік: Мікола Абдымаха – IV клас. Пахваліся, Міколка, як грыз навуку. Гісторыя – 3, немецкая мова – 3, а вось па рускай чытанцы – 2. Подпіс бацькоў – Абдымаха. Як не падзівіцца, што робіцца на гарышчы. Па драбінах адзін крок, другі. Робіцца вусцішна ад арміі мурашоў. Іх тысячы і тысячы, вялікіх, жоўтых. Ага, зразумела. Пчаліныя рамкі і кадушачка з пачарнелым засохлым мёдам. Але ці хопіць на ўсіх. Музейныя рупліўцы, вам не патрэбна самапрасніца? І ўсе запчасткі на месцы, цалюткая, спраўна. Не дачакаліся свайго майстровага свята і маткі суровых нітак, гібеюць... Дзіўная цішыня навокал. Міжволі пераходзім на шэпт, уражаным убачаным. Кіпела жыццё. Пакацілася ў нябыт, спарахнела, знікне назаўсёды. Абваліцца хата,зарасце падмурак кустоўем, крапівой, шыпшынай.



Кіруем далей. Праз пяць кіламетраў прывячае вёска Валасатка. Каплічка з ладным укрыжаваннем. Захавалася, бачыце, на бязлюддзі, дзе рэдка пройдзе чалавек альбо прарыпіць параконка. Легкавікам няма разгону, бездараж, не пераехаць забалочаная мясціна да восені. Адкрываем дашчатыя дзверы пабудовы, чытаем па-беларуску: «Злітуйся над намі, пані!» А далей па-руску: «От ниспосланой холерной смерти». І зноў пабеларуску: «Ратуй ад халеры». І год – 1848. Хутарское пасяленне, што мясцілася паблізу, згарэла, застаўся адзін падмурак. А капліцку з укрыжаваннем людзі зберагілі, которую пару даглядаюць. І свежы рушнічок на Вялікдзень пачэпяць.

Вырашылі прайсці пешшу некалькі кіламетраў і не памыліліся – любата. Безліч гнёздаў берагавых ластавак на пясчаным абрыве высокага берага. На узвышшы, бліжэй да абдымкаў сонца, прыгожыя кучаравенькія яблынькі. І кожны міжволі працягвае руку, бо як не пасмакаваць пунсовы яблычак – галіны ломяцца. Дружна смакуем і адразу ж выплюнулі – горкія-горкія. Адзічэла яблынька. На абрыве ледзь трымаецца пахіленая вольха. Яшчэ адна навальніца з бадзёрым ветрам – і вольха загіне... На фотку просіцца гожы краявід з кучыстымі воблакамі.

Адсюль выкручыстая сцежка ніба запрашае на Тумілаўскія клады. Здалёку заўважаем адмысловыя каваныя крыжы. А на каменных надмагільных камянях чытаюцца счарнелыя ад часу насечкі – літары. М. Г. Т. Як хочаш, так і разумей. Крок, другі, трэці і надпіс: «Ад радных умершаму». Трасянка не дае спакою і памерлым. Шмат ссохлых, даўно мёртвых дрэваў з дзіўнымі шыльдачкамі. Час не пашкадаваў іх. Лёгка выцягваюцца са спарахнелага дрэва доўгія каваныя цвікі. А ім жа па паўтары сотні гадоў. І тут не абышлося без шукальнікаў скарбаў.

– Хадзіў па навакольных мясцінах дзіўны барадач з хатулём за плячыма, нібыта ён калекцыянер са сталіцы, для музея рупіўся. І не з голымі рукамі шастаў. Адпілоўваў каваныя крыжы, аздобы з фігуркамі Езуса Хрыста, адзіраў таблічкі з надпісамі. Разварушваў і спарахнелыя пні, усё нешта шукаў. Начаваў паблізу, у дзіўным мяшку спаў, запаліўшы цяпельца, і пры святле ліхтарыка чытаў кніжку, – прыгадвала кабета з Тумілоўкі.

З вёсачкі Плітніца ў свет гаманкі кірунеш – Езус Хрыстус табе добрай дарогі пажадае. А як у родную вёсачку вяртаешся – той усміхаецца радасна. Такое вось дзіўнае ўражанне ад арыгінальнага ўкрыжавання на раздарожжы Плітніцы. Народны рамантычны стыль – мужыцкі пан Езус, простае работы, але з душой зроблены, адметна, непаўторна, ні з якім іншым не зблытаеш.

### *Сустрэча*

Ад кожнае вёсачкі, якія нам патрапляюцца, тры сцежкі разбягаюцца. Хочаш – на Докшыцы, а не – дык на Глыбокае. Можаш і на Варшаву, альбы імпэт і грошы, дый конь. А мы рушылі на Плітніцу. Прывеціў на раздарожжы пастух Ягор Хведаравіч. З харошай пугай у руках, дый з часопісам «Огонек» і шчырым жаданнем пагаварыць за жыццё:

– О, каб я мог пра ўсе расказаць, што перажыў, тыдня пэўна б не хапіла, а мае б кароўкі да Друі дабеглі б... Мне ж дзесятку ўляпілі і ведаеш за што? Пабажыся, што анікому! Нейкая вясковая сука данесла, бытта я сцвярджаў у вузкім коле сваіх хаўруснікаў, што ў Сталіна крывыя вусы! Мала гэтага, чуеш? Правы больш левага. У мяне большай бяды не было, каб браць клопат пра вусы крывасмока... І кінулі мяне аж на Калыму, у Сусуман. Паўгода дабіраліся, да залатых капальняў, крывавай юшкай сплёўваючы. А мяне да коней прымацавалі, начальства на іх гойсала. Спраўнага аўса не шкадавалі, а турэмнікі ад галадухі пухлі. І сачылі падлюкі, каб сабе ў рот ні зярнятка. За жменьку аўса Панаса з Украіны расстралялі там жа, за стайняй.

Фота аўтара



# Вачыма нашых назіральнікаў

Тыдзень таму адбыліся выбары ў Азербайджане. Афіцыйныя вынікі выбараў: 77% прагаласавала за Ільхама Аліева, сына былога кіраўніка краіны, 12% — за лідэра апазіцыйнай партыі «Мусават» Ісу Гамбара. У Азербайджане ў якасці назіральнікаў былі беларускія прадстаўнікі. Уражаннямі мы папрасілі падзяліцца старшыню рады праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алеся Бяляцкага.**

**– Спадар Бяляцкі, свет абышлі кадры збіцця дэманстрантаў у Баку. Няўжо сапраўды ўсё было настолькі жорстка ці СМІ драматызавалі сітуацыю?**

– Сапраўды ўсё было менавіта так. Магчыма, яшчэ больш жорстка, чым паказвалі па тэлебачанні. Камеры не маглі ўсяго зняць. Сведкам некаторых падзеяў быў я асабіста. Наша місія, якая працавала пад эгідай АБСЕ, мела прадстаўнікоў з 17 краінаў. З Аўстрыі, Амерыкі, Турцыі. Усяго было каля 200 асобаў. Я знаходзіўся ў Баку.

Мэта дэманстрантаў была выйсці на плошчу Незалежнасці. Гэта іх даўняя мара, бо на працягу дзесяцігоддзяў ім не дазвалялі там праводзіць акцыі. І гэтым разам ім забаранілі праведзенне мітынгу, але людзі здолелі прарваць міліцэйскі кардон. З гэтага пачалося супрацьстаянне. Камяні ляцелі як у бок міліцыі, так і ў бок дэманстрантаў.

Я бачыў на ўласныя вочы, як міліцыянты кідаліся камянямі, збівалі дэманстрантаў драўлянымі брусамі, ужывалі ўсе падручныя сродкі. Бойка была без правілаў. Зараз вядома, што гэта прывяло да смяротных выпадкаў. Ніхто дакладна не ведае колькасці загінуўшых, бо ўлады хаваюць гэтую лічбу, але апазіцыя кажа пра шэсць ахвяраў.

**– Атрымоўваецца, што вы былі ў цэнтры падзеяў. Якое ваша самае моцнае ўражанне?**

– Я быў на плошчы Незалежнасці, калі там засталася невялікая колькасць людзей, абкружаная з усіх бакоў АМАПам. Людзей травілі газам і збівалі дубінкамі. На маіх вачах жорстка збілі аднаго азербайджанскага журналіста, які высока трымаў сваю прэс-карту, але гэта яму не дапамагло. Ён ледзь дабег да нашай групы назіральнікаў і зваліўся, страціўшы прытомнасць. Калі яго прыводзілі ў пачуццё, у нашым накірунку пачалася атака аднаго з «лятучых аддзелаў». Мой бэдж і павязка назіральніка ад АБСЕ ратавалі нашу групу ад татальнага збіцця.



**– Чым, на вашу думку, былі выкліканыя такія дзеянні?**

– Тымі масавымі фальсіфікацыямі, якія адбываліся на выбарах. У дзень выбараў быў разгромлены штаб кандыдата ад апазіцыі Ісы Гамбара. Выбары былі татальна сфальсіфікаваныя, і прадстаўнікі палітычных партый гэта бачылі і спрабавалі супрацьстаяць. Падчас выбараў на трох участках акругі, дзе я праводзіў назіранне, сябры дэмакратычных партый, што ўваходзілі ў выбарчыя камісіі, былі проста збітыя і выкінутыя з участка да канца галасавання.

**– Гэта рабілі прадстаўнікі ўлады ці міліцыі?**

– Яны былі збітыя сябрамі камісій, якія прадстаўлялі кіруючую партыю. Іх была большасць. Звычайна гэта старшыня камісіі і яго намеснікі. Усё гэта адбывалася на вачах у выбаршчыкаў і назіральнікаў. Толькі два чалавекі з нашай дэлегацыі назіралі ў Баку, астатнія раз'ехаліся па ўсёй краіне і бачылі не менш грубыя парушэнні.

**– Як складзена заканадаўства аб выбарах Азербайджана?**

– Выбарчая працэдура ў законе прапісана даволі дэмакратычна. Іх закон у гэтым плане значна лепшы за наш. Там не прадугледжана папярэдняе галасаванне і выбары праходзяць у адзін дзень. Сябры апазіцыйных партый мелі сваё прадстаўніцтва ў камісіях. Пра гэта мы можам толькі марыць. Назіральнікі мелі магчымасць сачыць за працэсам падліку галасоў. Але, тым не менш, выбары паказалі, што любы закон улады могуць паварнуць на сваю карысць. Той вопыт, які мы там набылі, мы будзем актыўна выкарыстоўваць у нас, каб выкрываць фальсіфікацыі. Для нас гэта была вельмі карысная паездка.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Беатыфікацыя Маці Тэрэзы



Папа Рымскі Іаан Павел II прылічыў да ліку дабрашчасных каталіцкую падзвіжніцу Маці Тэрэзу – заснавальніцу Ордэна міласэрнасці.

Згодна з рашэннем Святога прастола, з гэтага часу 5 верасня, дзень смерці падзвіжніцы, у календары Рымска-Каталіцкай Царквы абвешчаны Днём Маці Тэрэзы.

Маці Тэрэза Калькуцкая атрымала сусветную вядомасць як заступніца і абаронца бедных і няшчасных. Філіі створанага ёй ордэна дзейнічаюць шмат у якіх краінах свету, і манахіні апякуюць цяжкахворых. Маці Тэрэза нарадзілася ў Албаніі ў 1910 годзе, але амаль усё жыццё пражыла ў Індыі, дзе заснавала шэраг каталіцкіх дабрачынных арганізацый. Антываенная дзейнасць высока ўзняла аўтарытэт Маці Тэрэзы, і ў 1979 годзе калькуцкая манахіня была ўганаравана Нобелеўскай прэміяй міру. Яна ўваходзіць у лік асобаў, якія паўплывалі на сусветную грамадскую свядомасць XX стагоддзя. Сканала Маці Тэрэза ў Калькуце ў 1997 годзе.

Праз два гады пасля яе смерці з ініцыятывы папы Іаана Паўла II Ватыкан распачаў працэдуру канaнізацыі. У 2002 годзе Ватыкан афіцыйна прызнаў здзейсненым Маці Тэрэзай цуд – пазбаўленне ад раку 30-гадовай жанчыны-мусульманкі (яўлены публічна цуд – неабходная ўмова беатыфікацыі).

У сувязі з урачыстасцямі ватыканскія музеі заставаліся адчыненымі да 22 гадзін, і ўвесь нядзельны даход ад іх наведвання публікай быў перададзены дабрачынным арганізацыям Маці Тэрэзы.

# Тайна Чынгізхана: казах? мангол? кітайскі імператар?

***Звычны стэрэатып пра мангольскае паходжанне славутага войкаводца пастаўлены пад моцны сумнеў***

З набліжэннем юбілейнай даты – 850-годдзя з дня нараджэння Чынгізхана – сярод казахскіх і кітайскіх гісторыкаў распалілася дыскусія аб этнічнай прыналежнасці стваральніка вялізнай імперыі, які быў прызнаны ЮНЕСКО «найвялікшым войскаводцай двух тысячагоддзяў». У Алма-Аце аб'яўлена аб запланаванай канферэнцыі «Чынгізхан і казахская дзяржаўнасць» з удзелам вучоных з Кітая, Ірана, Расіі, Манголіі, Казахстана ды іншых краін.

Арганізатары маюць намер давесці, што Чынгізхан быў казах. На думку казахскіх і некаторых іншых вучоных, «наймысная фальсіфікацыя гістарычных фактаў пачалася з часоў панавання Івана Грознага». Прычынай фальсіфікацыі шмат хто з вучоных называе «спробу сцерці з памяці рускага народа факт заняволення іхных продкаў «дзікімі ордамі».

Па афіцыйных звестках, Чынгізхан (сапраўднае імя – Цемучын) нарадзіўся на тэрыторыі сучаснай Манголіі ў 1155 годзе ў родзе кіят. Як вядома, у 1206 годзе падчас курултая (агульнага сходу ачольнікаў роду) Цемучына абвясцілі ханам і далі яму новае імя – Чынгізхан (хан Усходу). Прымаючы пад увагу, што ўдзельнікамі курултая былі казахскія роды кіят, меркіт, жалаір і аргын, вучоныя сцвярджаюць, што Чынгізхан быў менавіта казахам. Пры гэтым сапраўды ўсе вышэйназваныя роды лічацца казахскімі, але выхадцаў з гэтых плямёнаў прынята называць «казахамі мангольскага паходжання».

«Манголы наогул ніякага дачынення да Чынгізхана не маюць, бо на той тэрыторыі ў той час яны не жылі, таму сам факт падзелу казахаў на казахаў мангольскага паходжання і казахскага паходжання нонсэнс, – кажа галоўны арганізатар канферэнцыі прафесар Кайрат Закір'янаў. – Такія гісторыкі, як Карамзін, садзейнічалі, каб падобны падзел лічыўся правільным».

Яшчэ адным сур'ёзным доказам таго, што Чынгізхан – казах, вучоныя лічаць, што практычна ўсе чынгізіды (прамыя нашчадкі Чынгізхана) былі казахамі, якія кіравалі казахскай дзяржавай аж да пачатку дваццатага стагоддзя. Адсюль бярэ пачатак панясце «Белай косці», праслойкі арыстакратаў, якая існавала ў сацыяльнай іерархіі казахскага грамадства.

Пра сур`ёзнасць намераў «вярнуць» сабе Чынгізхана сведчыць факт прыцягнення да гэтай кампаніі высокіх урадоўцаў. Экс-прэм'ер-міністр Казахстана Імангалі Тасмагамбетаў у часе, калі займаў пасаду другой асобы ў краіне, распарадзіўся зрабіць копію каменя Кюльтэгіна

Камень Кюльтэгіна – вядомая каменная скульптура, якая існуе на тэрыторыі сучаснай Манголіі. Вядомы гэты камень найперш тым, што на ім высечаны звесткі аб вялікіх подзвігах уйгурскага вяжра Кюльтэгіна. Надпіс зроблены на казахскай мове уйгурскай пісьменнасцю і мае значную гістарычную каштоўнасць. Копія скульптуры знаходзіцца ў сталіцы Казахстана – Астане, у будынку Нацыянальнага універсітэта імя Льва Гумілёва. Такім чынам, можна канстатаваць, што казахская эліта ўзялася за справу «вяртання» этнасу ягонага героя з поўным разуменнем сур'ёзнасці гэтага пытання.

Адначасна з Казахстанам пытанне змены афіцыйнага генеалагічнага дрэва Чынгізхана хвалюе і Кітай. Бадай што галоўным сведчаннем гэтага можна лічыць узвядзенне ў Пекіне маўзалея Чынгізхану. У дадатак да іншага, «узрушыцель сусвету» быў афіцыйна ўключаны ў гаяновы рэестр вялікіх кітайскіх імператараў.

Цяжка сказаць, да чаго ў выніку прывядуць высілкі казахскіх гісторыкаў і культуролагаў, якія лічаць Чынгізхана казахам. Але ясна, што ў краіне гэтае пытанне патрабуе набыць амаль што ідэалагічную аснову. Сродкі масавай інфармацыі па прыцягу апошніх гадоў запоўнены дыспутамі на тэму Чынгізхана. Больш за тое, Чынгізхану прыпісваецца захаванне казахскага этнасу, бо менавіта ён, сцвярджаюць вучоныя, сабраў казахаў і перасяліў з тэрыторыі Манголіі тыды, дзе і знаходзіцца сёння Казахстан. Такім чынам, выходзіць, што казахская дзяржаўнасць стала фарміравацца менавіта па ідзі Чынгізхана ў пачатку XIII стагоддзя, а не ў сярэдзіне XVI, як лічылася раней. А гэта ўжо не жарты.

Канферэнцыя ў Алма-Аце – гэта вельмі паказальны крок, які сведчыць, што адстойваць «свайго» «ўзрушыцеля сусвету» будуць сур'ёзна.

**Ербол ЖУМАГУЛАЎ**



Змест дыспута «Чынгізхан і казахская дзяржаўнасць», пра які згадваецца ў артыкуле, выходзіць далёка за межы ўдакладнення этнічнага паходжання Чынгізхана – правадыра манголаў ці казахаў, альбо, у тэрмінах Л.Гумілёва, пасіянарыя, які ўзняў стэпавых качэўнікаў у паход за 5 тысяч кіламетраў для сустрэчы цывілізацый. У нашай свядомасці імя Чынгізхана злучана, найперш дзякуючы школьнай адукацыі, са стварэннем вялізнай паразітычнай імперыі, з захопніцкімі войнамі і захопніцкай ідэалогіяй, з мангола-татарскім панаваннем чынгізідаў на рускіх землях, з разбурэннем Кіева і г. д. Гуманітарны змест спадчыны Чынгізхана – ніякі, мілітарыйны, наадварот, вялізны. Страты цывілізацый, на якія абрынулася яго конніца, уражваюць памерамі. Наогул, што гэта такое – «выдатны войскаводзец», які руйнуе захопленыя гарады і вырзае іх насельніцтва. Усе гістарычныя ўдакладненні, зразумела, рэч карысная, бо яны развейваюць туман магічнага бачання істотных гістарычных падзей. Пабочныя вынікі такіх удакладненняў таксама няшкодныя для аздараўлення свядомасці. Змена характарыстык, якія вынікаюць з пераасэнсаванняў, – прыкладам, было не «мангола-татарскае», а «казахскае іга», прымушае ўважліва ставіцца да гістарычнай спадчыны. Доўгая заняволенасць народаў на ўсход ад Волгі абарочваецца зараз пошукамі геройчных асобаў і дзяржаўных падмуркаў дзеля ідэалагічнага абгрунтавання сваёй роўнасці. Калі бураты ў Бурацкім драматычным тэатры глядзяць спектакль «Чынгізхан», якога лічаць сваім суродзічам, то гэта дае ім падставы адмоўна рэагаваць на прапановы растварыць іх у нейкім безаблічным адміністрацыйным узбуйненні. Чатырыста гадоў дзяржаўнасці, якія павінны ўлічвацца ў казахскай гісторыі з прычыны казахскай крыві Чынгізхана, – сур'ёзны матэрыял для нацыянальнага самаўсведамлення. Кітайскае рашэнне лічыць Чынгізхана не захопнікам, а афіцыйным імператарам таксама дае ўрок паважнага асэнсавання сваёй даўніны.

# Забытыя жаўнеры

Юры ГРЫБОЎСКІ

***Ураджэнцы Беларусі, якія загінулі і памерлі падчас службы ў польскіх узброеных сілах (1939–1946)***

Працяг. Пачатак у №№ 13–15

## 2-гі Польскі корпус (1942–1946 г.)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Лубоўскі Антон | 20.11.1913 Лаша (Гродна) | Ст. стралец | 3.7.1944 Лярэта |
| Лудка Людавік | 19.8.1911 Відзейкі (Ваўкавыск) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Лужвінскі Уладзіслаў | 12.8.1909 Пістун (Косава) | Паручнік | 16.9.1943 Газа |
| Лукашэвіч Антон | 7.6.1908 Грыневічы (Ваўкавыск) | Ст. улан | 4.9.1942 Каір |
| Лукашэвіч Эміль | 10.8.1925 Тоцін (Баранавічы) | Улан | 20.7.1944 Лярэта |
| Лукевіч Аляксандр | 16.6.1920 Рудкі (Нясвіж) | Стралец | 11.3.1944 Монтэ Касіна |
| Лутовіч Іван | 13.2.1912 Вілейка | Паручнік | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Луцка Антон | 19.8.1911 Грабаў (Лунінец) | Стралец | 6.3.1946 Балонія |
| Любчык Уладзіслаў | 13.12.1913 Галавачы (Нясвіж) | Кананер | 21.2.1944 Александрыя |
| Лянчэўскі Станіслаў | 18.6.1915 Малышкі (Паставы) | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Лясюк Франц | 15.11.1914 Скокі (Брэст) | Улан | 29.5.1945 Балонія |
| Лятковіч Іосіф | 4.8.1910 Гудагай | Стралец | 6.1.1945 Касамасіма |
| Ляўко Адам | 15.4.1912 Рокшычы (Вілейка) | Стралец | 24.4.1946 Бары |
| Ляўковіч Станіслаў | 10.5.1910 Іванава (Дзісна) | Стралец | 11.7.1944 Лярэта |
| Ляшковіч Пётр | 29.6.1912 Залозава (Вілейка) | Ст. стралец | 8.6.1945 Балонія |
| Ляшчэвіч Антон | 1.11.1922 Вялікае Поле (Вілейка) | Ст. стралец | 6.7.1944 Монтэ Касіна |
| Ляшчэвіч Канстанцін | ? 1912 Ляшчынента (Вілейка) | Стралец | 6.7.1944 Лярэта |
| Мажаеў Адольф | 22.7.1923 Высокае (Столін) | Стралец | 21.7.1944 Касамасіма |
| Мазец Станіслаў | 1.11.1910 Станелевічы (Ваўкавыск) | Стралец | 28.4.1944 Монтэ Касіна |
| Маздзер Вацлаў | 4.4.1919 Дзевятаўка (Гродна) | Улан | 4.12.1944 Балонія |
| Макетыновіч Эдуард | 5.2.1910 Паставы | Звязовы | 3.7.1944 Лярэта |
| Маліноўскі Казімір | 20.4.1913 Свіслач | Сяржант | 28.10.1944 Касамасіма |
| Малмыга Аляксандр | 22.2.1913 Новыя Паддруды (Шчучын) | Стралец | 23.11.1944 Балонія |
| Маляўскі Іван | ? 1911 Асьменава (Наваградак) | Ст. стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Мамончык Рыгор | 2.12.1923 Жуховічы (Стаўпцы) | Стралец | 9.4.1945 Балонія |
| Мантуш Пётр | 2.4.1919 Зянеўшчына | Капрал | 12.4.1945 Балонія |
| Мантэгерд-Лойба Генрык | 31.5.1915 Гараўцы (Дзісна) | Падпаручнік | 30.6.1944 Касамасіма |
| Марковіч Іосіф | 15.3.1910 Гарані (Браслаў) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Мароз Пётр | 25.6.1896 Пасіка (Іванава) | Капрал | 28.3.1943 Khanaqin |
| Маркоўскі Антон | 21.1.1924 Скрыплёва (Валожын) | Ст. стралец | 9.8.1944 Лярэта |
| Марскоўскі Караль | 6.1.1908 Шарai (Валожын) | Стралец | 28.7.1945 Балонія |
| Мартуль Станіслаў | 1.1.(9.3.)1927 Паўловічы | (Дзісна) Стралец | 13.5.1944 Монтэ Касіна |
| Мархалюк Антон | 3.6.1915 Студзенікі (Наваградак) | Бамбардзір | 5.11.1944 Пэрч |
| Мархот Рамуальд | 7.12.1924 Мір | Кананер | 15.1.1945 Касамасіма |
| Марчук Сігізмунт | 15.9.1909 Ласевічы (Ліда) | Звязовы | 13.11.1944 Балонія |
| Масевіч Антон | 16.1.1909 Новікі (Ашмяны) | Звязовы | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Масінкевіч Іосіф | 12.5.1904 Шыноўшчына (Паставы) | Бамбардзір | 21.4.1946 Балонія |
| Маслоўскі Яўген | 10.3.1924 Брэст | Кананер | 12.7.1946 Касамасіма |
| Масюта Пётр | 12.4.1918 Зылічы (Гродна) | Стралец | 20.3.1943 Khanaqin |
| Матуліс Станіслаў | 24.6.1904 Плотніца (Лунінец) | Ст. стралец | 12. 5.1944 Монтэ Касіна |
| Матушак Роберт | 2(8) 1.1908 Пінск | Капрал | 14. 5.1944 Монтэ Касіна |
| Матылёнак Сцяпан | 12.1901 Папоўшчына (Браслаў) | Стралец | 9.7.1944 Лярэта |
| Мах Уладзіслаў | 14.6.1924 Гняздзілава (Дзісна) | Стралец | 9.8.1944 Лярэта |
| Мацейчык Часлаў | 17.8.1912 Цімохі (Ваўкавыск) | Капрал | 2.9.1945 Балонія |
| Мацееўскі Сігізмунт | 8.4.1924 Мотын (Наваградак) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Мацкевіч Мар'ян | 1.1(28.6.)1905 Юлбянава (Дзісна) | Капрал | 28.6.1946 Балонія |
| Маціяс Аляксандр | 12.8.1913 Мажаі (Дзісна) | Сапёр | 19.5.1944 Монтэ Касіна |
| Машара Іван | 23.3.19(?) Вялікае Сяло (Дзісна) | Сапёр | 19.7.1944 Лярэта |
| Медух Пётр | 11.8.1912 Галбея (Паставы) | Сапёр | 7.8.1945 Лярэта |
| Мелешка Іосіф | 15.3.1905 Словікі (Ваўкавыск) | Стралец | 12.8.1946 Балонія |
| Мельнік Клемент | 22.11.1889 Ужондаў (Іванава) | Падпалкоўнік | 3.2.1943 Пэтэрмарытцбург (Паўдн. Афрыка) |
| Мецюшоў Якуб | 11.11.1910 Медуны (Браслаў) | Стралец | 11.7.1944 Лярэта |
| Мігус Іосіф | 15.3.1901 Цялцічы (Брэст) | Ст. артылерыст | 24.12.1943 Усх. Кантара |
| Міжвінскі Юры | 21.2.1923 Ксаверчын (Дзісна) | Падхаружы | 12.6.1944 Лярэта |
| Мізула Браніслаў | 29.7.1914 Нехужды (Вілейка) | Звязовы | 10.9.1945 Балонія |
| Міклашэвіч Аркадзь | 15.11.1922 Жлабоўцы (Гродна) | Улан | 27.7.1944 Лярэта |
| Міколіч Часлаў | 7.6.1908 Баранавічы | Звязовы | 29.9.1944 Касамасіма |
| Мікула Іосіф | 12.1912 Вял. Волька (Пінск) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Мікуцкі Альфонс | 21.9.1912 Мікуты(Шчучын) | Ст. улан | 12.12.1944 Балонія |
| Мілеўскі Лявон | 19.6.1920 Навасёлкі (Нясвіж) | Ст. сапёр | 27.8.1946 Балонія |
| Мілеўскі Сымон | 6.4.1914 Крышын (Брэст) | Кананер | 5.11.1942 Khanaqin |
| Мілка Станіслаў | 20.5.1915 Гожа (Гродна) | Бамбардзір | 30.10.1943 Газа |
| Міранчык Мечыслаў | 18.2.1920 Германовічы (Дзісна) | Стралец | 17.3.1943 загінуў пры тарпедаванні судна «Empress of Canada» |
| Міцькоўскі Юры | 5.7.1925 Завостравічы (Нясвіж) | Стралец | 19.5.1944 Монтэ Касіна |
| Міхалеўскі Лявон | 20.2.1905 Сакалец (Браслаў) | Капітан | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Міхта Аляксей | 15.3.1917 Маленькава (Кобрын) | Кананер | 12.6.1945 Балонія |
| Мурашка Дамінік | 29.8.1909 Перажыры (Маладзечна) | Капрал | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Мурашка Іван | 31.3.1906 Лібава (Латвія) | Ст. стралец | 17.11.1944 Балонія |
| Мусевіч Антон | ? 1911 Кобрын | Стралец | 16.10.1944 Балонія |
| Мышко Віктар | 25.12.1908 Шміткі (Дзісна) | Стралец | 15.5.1944 Монтэ Касіна |
| Мушко Пётр | 30.5.1919 Мышкі-Дунілавічы | Кананер | 5.4.1944 Монтэ Касіна |
| Мышко Станіслаў | 5.8.1919 Ліда | Стралец | 17.3.1943 загінуў пры тарпедаванні судна «Empress of Canada» |
| Мучко Сцяпан | 26.5.1915 Затоскі (Наваградак) | Ст. стралец | 2.3.1945 Балонія |
| Мэйсак Мікалай | 25.2.1921 Алянец (Маладзечна) | Ст. стралец | 21.4.1945 Балонія |
| Мядзьведскі Баляслаў | 26.11.1901 Бачкова (Шчучын) | Сапёр | 17.7.1944 Paterniano |
| Мядзьведскі Лявон | 19.7.1921 Ліпоўкі (Дзісна) | Кананер | 22.11.1944 Балонія |
| Навіцкі Лёнгін | 15.4.1910 Гулі (Паставы) | Капрал | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Навіцкі Франц | 18.11.1903 Аўдзевічы (Ваўкавыск) | Звязовы | 9.6.1946 Касамасіма |
| Наплоха Аркадзь | 30.12.1924 Малая Плотніца (Пінск) | Стралец | 6.7.1944 Лярэта |
| Ніканові Юры | 3.10.1910 Камёнка (Шчучын) | Бамбардзір | 5.7.1944 Лярэта |
| Нос Іван | 10.3.1917 Малая Абрына (Стаўпцы) | Сапёр | 12.11.1944 Балонія |
| Падвальскі Мікалай | 9.1.1921 Канавалы (Браслаў) | Улан | 17.7.1944 Лярэта |
| Пажарскі Пётр | 14.8.1909 Запалаўшчына (Браслаў) | Стралец | 18.10.1944 Балонія |
| Пазняк Франц | 19.9.1912 Атрубак (Дзісна) | Капрал | 21.4.1945 Балонія |
| Палацкі Юльян | 16.3.1912 Ракаў | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Пальман Юльян | 1.9.1922 Ігнатаўцы (Ваўкавыск) | Стралец | 7.8.1944 Рамлех |
| Папельскі Канстанцін | 6.4.1910 Клецк | Стралец | 3.4.1944 Монтэ Касіна |
| Парфяновіч Габрыэль | 8.4.1910 Осава (Дзісна) | Стралец | 17.8.1945 Балонія |
| Паршукіч Сцяпан | ? 1904 Пары (Пінск) | Стралец | 15.8.1944 Усх. Кантара |
| Пастуховіч Піліп | 11.10.1920 Перажыны (Маладзечна) | Стралец | 22.7.1944 Лярэта |
| Паўловіч Аўксенты | 12.1.1901 Жабчыцы (Пінск) | Ст. стралец | 24.8.1944 Лярэта |
| Паўлюкоўскі Канстанцін | 15.10.1904 Чашэйкі (Валожын) | Ст. стралец | 6.9.1942 Рамлех |
| Пашкоўскі Іосіф | 8.12.1909 Куры (Ліда) | Ст. стралец | 27.12.1945 Балонія |
| Пашкоўскі Сцяпан | 10.3(12.2) 1924 Стары Двор | Шэраговец | 12.8.1946 Балонія |
| Пашкоўскі Уладзімір | 12.3.1907 Дубіна (Валожын) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Пачакоўскі Баляслаў | 6.9.1909 Янушкевічы (Валожын) | Сяржант | 4.5.1944 Монтэ Касіна |
| Пачобут Аляксей | ? 1910 Асаўляны (Ваўкавыск) | Звязовы | 22.1.1945 Балонія |
| Пацэнка Часлаў | 10.6.(7) 1905 Родзевічы (Гродна) | Стралец | 30.6.1943 Khanaqin |
| Пекарт Вячаслаў | 2.12.1923 Гродна | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Пекарскі Віталь | ? 1900 Кушляны (Ашмяны) | Сапёр | 9.5.1946 Балонія |
| Пекарскі Уладзімір | 15.5.1909 Мінск | Падхаружы | 11.3.1944 Касамасіма |
| Петрашкевіч Уладзіслаў | 27.11.1907 Вілейка | Капрал | 9.8.1944 Лярэта |
| Петрушэвіч Міхаіл | 15.4.1923 Відзы | Улан | 29.8.1944 Лярэта |
| Пешур Іван | 17.10.1914 Забрамка (Ашмяны) | Капрал | 29.6.1944 Лярэта |
| Пехацінскі Мар'ян | 17.1.1924 Забур'е (Брэст) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Пінкоўскі Вацлаў | 15.6.1918 Жабінка (Кобрын) | Улан | 07.8.1944 Лярэта |
| Пінчук Уладзіслаў | 2.2.1900 Баяры (Шчучын) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Піртан Антон | 4.7.1915 Плюсы (Браслаў) | Ст. стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Плаўскі Іосіф | 20.2.1904 Глебаўцы (Шчучын) | Артылерыст | 31.3.1945 Балонія |
| Порта Міхаіл | 1.9.1904 Мінск | Падхаружы | 4.6.1944 Касамасіма |
| Прэткель Станіслаў | 29.6.1920 Мёры | ? | 9.8.1944 Лярэта |
| Пракоп Браніслаў | 20.6.1916 Свераны (Паставы) | Стралец | 9.4.1945 Балонія |
| Пракапюк Максім | 1.1.1922 Брадзятын (Брэст) | Улан | 26.4.1945 Касамасіма |
| Праляскоўскі Вільгельм | 3.1.1906 Запалякі (Маладзечна) | Капітан | 28.11.1945 Балонія |
| Протас Мікалай | ? 1915 Гавезна (Нясвіж) | Стралец | 18.5.1944 Монтэ Касіна |
| Пташынскі Юльян | ? 1912 Эйшышкі (Ліда) | Стралец | 7.7.1944 Лярэта |
| Пудла Генрык | 10.11.1923 Няхневічы (Наваградак) | Капрал | 13.11.1944 Балонія |
| Пупка Казімір | 15.12.1911 Мінск | Ст. стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Путырскі Уладзімір | 6.12.1911 Калодкі (Вілейка) | Бамбардзір | 9.11.1944 Балонія |
| Пушкевіч Іосіф | 18.6.1926 Вілейка | Стралец | 14.8.1945 Балонія |
| Пушко Васіль | 1.10.1910 Загалы (Пружаны) | Падпаручнік | 17.5.194 Монтэ Касіна |
| Пяркоўскі Станіслаў | 4.10.1906 Мілева (Шчучын) | Стралец | 17.10.1942 Рамлех |
| Пяткевіч Баляслаў | 25.9.1911 Цудзенішкі (Ашмяны) | Сяржант | 10.7.1944 Касамасіма |
| Пяткевіч Вацлаў | 20.5.1920 Салавіха (Паставы) | Бамбардзір | 23.6.1944 Монтэ Касіна |
| Пятровіч Браніслаў | 1.8.1917 Гернава (Дзісна) | Стралец | 18.10.1944 Балонія |
| Пятроўскі Уладзіслаў | 25.9.1904 Пяшховічы (Баранавічы) | Звязовы | 12.6.1944 Монтэ Касіна |
| Рабцэвіч Васіль | 10.1.1915 Баркі (Лунінец) | Звязовы | 1.7.1944 Лярэта |
| Рады Багдан | 8.9.1926 Кобрын | Улан | 19.5.1944 Монтэ Касіна |
| Рагель Матэўш | 8.2.1912 Шакоўшчына (Валожын) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Райка Іосіф | 12.3.1900 Ізтокі (Ліда) | Ст. стралец | 4.12.1944 Балонія |
| Рамза Хведар | 15.6.1910 Барсукі (Браслаў) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Рапей Станіслаў | 15.12.1915 Русачкі (Шчучын) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Радкевіч Сулейман | 16.7.1923 Наваградак | Улан | 27.6.1944 Лярэта |
| Радовіч Уладзіслаў | 1.10.1905 Вял. Ольшы (Паставы) | Кананер | 25.7.1943 Habbaniya |
| Раман Войцах | 26.4.1910 Камень Наваградскі | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Рамановіч Аляксей | 17.3.1909 Ферня (Брэст) | Стралец | 6.8.1944 Лярэта |
| Раманоўскі Мікалай | 15.3.1919 Амошкі (Вілейка) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Раткевіч Іван | 12.4.1910 Галінцы (Валожын) | Стралец | 10.4.1945 Балонія |
| Раўба Іосіф | 26.9.1910 Качановічы (Нясвіж) | Улан | 13.5.1944 Монтэ Касіна |
| Раўба Станіслаў | 10.1.1924 Раўбы (Шчучын) | Ст. улан | 6.9.1944 Лярэта |
| Рачыла Станіслаў | 13.4.1924 Пузеневічы (Стаўпцы) | Стралец | 9.8.1944 Лярэта |
| Рокач Аляксей | 1.3.1922 Асташын (Наваградак) | Стралец | 19.4.1945 Балонія |
| Рум Уладзімір | 1.8.1910 Парапечыцы (Ліда) | Стралец | 11.6.1944 Усходняя Кантара |
| Румінскі Пётр | 20.6.1912 Малая Дайноўка (Валожын) | Стралец | 5.2.1945 Балонія |
| Рунгэ Атон | ? 1913 Ізабелін (Ваўкавыск) | Звязовы | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Русецкі Павел | 1.1.1922 Семакава (Стаўпцы) | Стралец | 2.4.1945 Балонія |
| Русіновіч Іосіф | 20.12.1906 Агароднікі (Гродна) | Стралец | 6.7.1944 Лярэта |
| Рыбштат Уладзіслаў | 14.2.1909 Граева (Шчучын) | Падпаручнік | 26.2.1945 Brisighella |
| Рытвінскі Аляксандр | 27.8.1911 Завостравічы (Нясвіж) | Ст. стралец | 15.11.1944 Балонія |
| Рэзановіч Валянцін | 8.12.1925 Кашара-Альманка (Столін) | Кананер | 18.2.1946 Балонія |
| Сабалеўскі Іосіф | 14.8.1923 Лужа (Стаўпцы) | Капрал | 8.8.1944 Лярэта |
| Сабчак Сцяпан | 26.12.1913 Пінск | Звязовы | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Сабыніч Аляксандр | 29.2.1916 Заазёр'е (Дзісна) | Стралец | 2.7.1944 Лярэта |
| Савіцкі Мечыслаў | 2.9.1917 Смыч (Паставы) | Звязовы | 9.8.1944 Лярэта |
| Савіцкі Якуб | 18.10.1906 Варацэвічы (Драгічын) | Стралец | 16.5.1944 Касамасіма |
| Садоўскі Андрэй | 20.12.1916 Гадлінішкі (Ашмяны) | Улан | 3.9.1945 Лярэта |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Садоўскі Павел | 15.5.1918 Радашковічы (Маладзечна) | Стралец | 4.7.1943 Khanaqin |
| Садоўскі Сяргей | 10.12.1915 Талуі (Маладзечна) | Кананер | 2.8.1944 Лярэта |
| Сайкоўскі Мікалай | ? 1914 Жарабцы (Браслаў) | Кананер | 23.12.1944 Балонія |
| Саковіч Уладзіслаў | 26.7.1920 Мінск | Стралец | 18.3.1943 Khanaqin |
| Саковіч Франц | 08.1919 Ашмяны | Стралец | 17.11.1944 Балонія |
| Сакута Ваўранец | 16.6.1900 Угляны (Пружаны) | Ст. сапёр | 19.5.1944 Монтэ Касіна |
| Салей Міхаіл | 8.8.1907 Рагачы (Гродна) | Капрал | 22.9.1944 Лярэта |
| Самелка Станіслаў | 1.4.1923 Будоўля (Гродна) | Стралец | 15.4.1945 Балонія |
| Самулевіч Уладзімір | 14.3.1912 Лявонавічы (Ваўкавыск) | Стралец | 2.9.1944 Лярэта |
| Сантоцкі Іван | 19.3.1908 Вялікія Сантакі (Ліда) | Капрал | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Сарва Збігнеў | 28.6.1924 Дзісна | Капрал | 10.7.1944 Лярэта |
| Сарока Міхаіл | 1.1.1923 Раткевічы (Вілейка) | Ст. стралец | 18.2.1946 Касамасіма |
| Саўчыц Хведар | 15.7.1910 Мачыцы (Вілейка) | Сапёр | 29.10.1944 Балонія |
| Сахарчук Часлаў | 15.5.1918 Антопаль (Кобрын) | Стралец | 4.12.1944 Балонія |
| Свістун Вацлаў | 28.12.1922 Ляхавічы | Улан | 16.8.1944 Лярэта |
| Сеганкевіч Аляксандр | 10.10.1912 Глінішчына (Паставы) | Ст. стралец | 9.10.1945 Балонія |
| Селява Іосіф | 6.3.1917 Мінск | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Семашкевіч Часлаў | 11.4.1923 Крывічы (Вілейка) | Ст. стралец | 30.8.1944 Лярэта |
| Сечка Юры | 6.11.1909 Шубін (Стаўпцы) | Звязовы | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Святошчык Аляксей | 12(3)3.1922 Красіева (Пінск) | Стралец | 13.5.1946 Балонія |
| Сівіцкі Канстанцін | 25.5.1916 Маласць (Дзісна) | Ст. стралец | 14.4.1945 Балонія |
| Сівіцкі Сігізмунт | 2.7.1911 Сіўцы (Вілейка) | Капрал | 16.7.1944 Лярэта |
| Сівошка Аляксандр | 14.6.1911 Забdroddзе (Баранавічы) | Капрал | 2.4.1945 Касамасіма |
| Сідаровіч Аляксандр | 10.12.1910 Лунін (Лунінец) | Сапёр | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Сідарэнка Вацлаў | 10.2.1919 Гулічы (Баранавічы) | Ст. стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Сілко Аляксандр | 10.9.1908 Мал.Варабовічы | Стралец | 6.7.1944 Лярэта |
| Сініцкі Альберт | 3.5.1925 Пятрулі (Ашмяны) | Кананер | 20.4.1945 Балонія |
| Сінкоўскі Казімір | 21.7.1912 Залескі Млынок (Пінск) | Звязовы | 9.5.1944 Монтэ Касіна |
| Скайва Станіслаў | 25.8.1904 Прабошцішкі (Ашмяны) | Капрал | 2.7.1944 Лярэта |
| Скварада Іван | 14.9.1919 Курэвічы (Навагрудак) | Стралец | 23.12.1944 Балонія |
| Скорб Іосіф | 7.7.1922 Земяпішы (Шчучын) | Стралец | 17.7.1944 Лярэта |
| Скурыновіч Іосіф | 1.1.1903 Даргішкі (Ашмяны) | Стралец | 20.6.1943 Khanaqin |
| Слапік Браніслаў | 15.7.1900 Задварняны (Шчучын) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Слуцкі Аляксандр | 03.1908 Маркава (Маладзечна) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Смалонскі Пётр | 18.3.1925 Сычавічы (Маладзечна) | Стралец | 27.11.1942 Тэль-аль-Кебір |
| Смоліч Баляслаў | 9.9.1908 Дзямідавічы (Нясвіж) | Звязовы | 31.7.1944 Лярэта |
| Смурага Канстанцін | 10.10.1914 Хоцкавічы-Біскупчы | Ст. стралец | 21.9.1943 Рамлех |
| Снопка Аляксандр | 24.12.1914 Міневічы (Гродна) | Стралец | 16.7.1944 Лярэта |
| Спікевіч Герман | 14.6.1909 Лемянэвічы (Пінск) | Капрал | 17.7.1944 Монтэ Касіна |
| Спявак Мечыслаў | 29.7.1923 Брэст | Ст. стралец | 10.8.1944 Лярэта |
| Станкевіч Антон | 1.5.1914 Порычы (Гродна) | Звязовы | 5.3.1944 Тэль-аль-Кебір |
| Станкевіч Іван | 6.8.1912 Гарнова (Пінск) | Стралец | 15.11.1942 Khanaqin |
| Станкевіч Іосіф | 1.1.1910 Чарнявічы (Валожын) | Капрал | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Станкевіч Уладзіслаў | 1.12.1896 Мінск | Ст. сяржант | 21.8.1943 Khanaqin |
| Станішэўскі Іван | 1.12.1912 Граева (Ваўкавыск) | Капрал | 5.7.1944 Лярэта |
| Станулевіч Станіслаў | 16.1.1907 Водаль (Ліда) | Ст. улан | 6.7.1944 Лярэта |
| Стасяловіч Вацлаў | 15.3.1919 Люташ (Валожын) | Стралец | 17.6.1944 Лярэта |
| Стасяловіч Вацлаў | 8.8.1919 Юковічы (Валожын) | Стралец | 9.2.1945 Балонія |
| Сташэўскі Станіслаў | 10.11.1924 Гавя (Ліда) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Страк Яўген | 6.1.1920 Лунінец | Кананер | 4.10.1945 Балонія |
| Стрык Сцяпан | 9.9.1908 Мілаваны (Слонім) | Звязовы | 26.8.1944 Лярэта |
| Стэльмачонак Іван | 23.4.1917 Слободка (Браслаў) | Кананер | 7.6.1944 Касамасіма |
| Стэрыновіч Мечыслаў | 1.1.1906 Белуцішкі (Браслаў) | Сяржант | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Сувальскі Аляксей | 1.11.1915 Струга (Гродна) | Стралец | 3.7.1944 Лярэта |
| Судакевіч Пётр | 21.7.1916 Івянец | Ст. сапёр | 2.9.1945 Касамасіма |
| Сульжыц Хведар | 16.8.1911 Савічы (Баранавічы) | Ст. стралец | 5.7.1944 Лярэта |
| Супрановіч Пётр | 10.10.1901 Рабунь (Вілейка) | Ст. стралец | 21.11.1944 Балонія |
| Суравец Франц | 11.5.1908 Кавалі (Ашмяны) | Стралец | 16.4.1945 Балонія |
| Суркант Віктар | 5.4.1907 Людвіня (Ліда) | Ст. сапёр | 21.4.1946 Балонія |
| Сурма Пётр | 2.9.1906 Іменін (Кобрын) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Сямашка Адольф | 15.9.1908 Русанаўцы (Шчучын) | Стралец | 28.5.1945 Балонія |
| Сямашка Эразм | ? 1913 Рачкоўшчына (Паставы) | Стралец | 9.8.1944 Лярэта |
| Сяўрук Іосіф | 28.1.1906 Дубішчы (Баранавічы) | Капрал | 20.5.1944 Монтэ Касіна |
| Сяўрук Эдуард | 17.9.1917 Навінкоўшчына (Валожын) | Стралец | 16.4.1945 Балонія |
| Такарэвіч Хведар | 17.5.1924 Мацевічы (Маладзечна) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Тамашэвіч Іван | 2.11.1910 Карэнды (Ашмяны) | Стралец | 29.8.1943 Khanaqin |
| Таркайла Іван | 22.7.1920 Бартнікі (Баранавічы) | Стралец | 21.4.1945 Балонія |
| Татароўскі Станіслаў | 3.3.1899 Слонім | Ст. сяржант | 7.7.1944 Лярэта |
| Татарыновіч Іван | 15.5.1918 Асосы (Баранавічы) | Сапёр | 28.10.1944 Касамасіма |
| Ткачык Уладзіслаў | 17.6.1923 Ракітна (Гродна) | Улан | 17.10.1943 Рамлех |
| Томчак Аляксей | 2.3.1911 Баброўнікі (Гродна) | Сапёр | 24.1.1945 Балонія |
| Троцкі Іван | 26.8.1916 Трокі (Маладзечна) | Ст. стралец | 15.10.1945 Балонія |
| Трусіла Іван | 1.1.1921 Шкордзі (Шчучын) | Стралец | 28.4.1944 Монтэ Касіна |
| Тумаш Станіслаў | 10.5.1911 Таўмашы (Дзісна) | Стралец | 28.10.1943 Рамлех |
| Туміловіч Іван | 5.2.1904 Сверэнкава (Стаўпцы) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Тыханьчук Іван | 17.7.1910 Камень (Пінск) | Звязовы | 14.11.1944 Балонія |
| Уласік Іосіф | ? 1920 Рум (Валожын) | Кананер | 19.10.1944 Балонія |
| Унгур Антон | 11.11.1907 Хвасты (Ліда) | Кананер | 24.6.1944 Лярэта |
| Урбановіч Васіль | 15.5.1907 Малькавец (Лунінец) | Ст. стралец | 13.6.1946 Касамасіма |
| Урбановіч Іосіф | 1.1.1923 Бараўцы (Баранавічы) | Стралец | 18.3.1945 Балонія |
| Урона Яўген | 4.11.1923 Ганцавічы | Кананер | 26.11.1944 Балонія |
| Урублеўскі Іосіф | 20.5.1911 Случ (Шчучын) | Звязовы | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Усік Міхаіл | 3.3.1910 Зародзічы (Маладзечна) | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Уцік Вінцэнт | 15.7.1918 Баркі (Ваўкавыск) | Стралец | 20.6.1946 Балонія |
| Ушак Сігізмунт | 14.11.1907 Антонішкі (Браслаў) | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Учкароніс Адам | 1.1.1901 Дайнава (Ліда) | Стралец | 2.5.1944 Монтэ Касіна |
| Хадакоўскі Іван | 29.5.1914 Лапічаў (Столін) | Стралец | 31.7.1944 Лярэта |
| Хадаронак Пётр | 1.10.1918 Уклі (Браслаў) | Бамбардзір | 7.4.1945 Балонія |
| Халецкі Сцяпан | 26.12.1904 Ляўшова (Ваўкавыск) | Стралец | 10.7.1944 Лярэта |
| Халовіч Вінцэнт | 15.1.1901 Гердуцішкі (Маладзечна) | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Хвайніцкі Антон | 21.2.1910 Гатовічы (Ліда) | Стралец | 10.5.1944 Монтэ Касіна |
| Хілкевіч-Палякевіч Ст. | 2.2.1906 Лунін (Лунінец) | Звязовы | 31.7.1945 Балонія |
| Хіневіч Іван | 2.4.1920 Слабодка (Стаўпцы) | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Хлябовіч Антон | 13.6.1899 Волпа (Гродна) | Стралец | 10.11.1942 Khanaqin |
| Хмара Яўген | 6.1.1923 Кавалі (Баранавічы) | Кананер | 27.9.1942 Geneifa |



**Чытачоў, у якіх узніклі пытанні ў сувязі з пазначанымі ў спісе асобамі, ці якія могуць падзяліцца дадатковай інфармацыяй на гэтую тэму, просім звяртацца да аўтара публікацыі на адрас: 220007, Мінск, вул. Акадэмічная, 1. Інстытут гісторыі НАН РБ, аддзел вайсковай гісторыі. Юрыю Грыбоўскаму**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Хмель Мікалай | 26.12.1916 Новая вёска (Нясвіж) | Улан | 26.6.1944 Усходняя Кантара |
| Хомчык Міхаіл | 16.5.1915 Лапічы (Гродна) | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Хурса Пётр | 8.3.1915 Мілевічы (Слонім) | Улан | 30.8.1944 Балонія |
| Шадзейка Эдуард | 18.3.1907 Лужкі (Паставы) | Капрал | 30.10.1944 Усходняя Кантара |
| Шакель Уладзіслаў | 08.1907 Заблоцішкі (Браслаў) | Стралец | 30.10.1944 Балонія |
| Шалтан Аляксандр | 13.5.1910 Мядзьведзева (Дзісна) | Звязовы | 12.4.1945 Балонія |
| Шапіра Алаіз | 23.3.1914 Навагрудак | Бамбардзір | 18.5.1944 Монтэ Касіна |
| Шапуцька Нікадзім | 15.1.1914 Трабы (Валожын) | Бамбардзір | 5.8.1946 Балонія |
| Шаранговіч Яўген | 17.12.1909 Хаценьчыцы (Вілейка) | Стралец | 3.8.1943 Багдад |
| Шарко Піліп | 17.8.1911 Бабровічы (Валожын) | Стралец | 25.10.1944 Балонія |
| Шарэйка Максім | 09.1912 Плянта (Ваўкавыск) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Шастак Іван | 10.10.1921 Гарачкі (Гродна) | Капрал | 9.8.1944 Лярэта |
| Шастакоўскі Ігнацы | 10.12.1924 Янапаль (Ваўкавыск) | Стралец | 5.11.1944 Балонія |
| Шаюк Аляксандр | ? 1913 Шведы (Вілейка) | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Шкель Іван | 7.9.1912 Лескоўка (Вілейка) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Шмаро Вацлаў | 8.10.1907 Агароднікі (Ліда) | Сяржант | 26.8.1944 Лярэта |
| Шокель Іван | 15.12.1912 Пястуны (Браслаў) | Стралец | 21.7.1943 Khanaqin |
| Шрэдэр Лявон | 12.12.1911 Відзы | Падхаружы | 20.11.1942 Khanaqin |
| Шулейка Антон | 15.9(11)1906 Беліца (Ліда) | Стралец | 23.7.1944 Лярэта |
| Шуліневіч Іван | 14.2.1911 Докшыцы | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Шурмей Уладзіслаў | 26.6.1919 Крупава (Ліда) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Шыдлоўскі Казімір | ? 1899 Сядзейкі (Гродна) | Кананер | 15.10.1942 Khanaqin |
| Шыдлоўскі Фелікс | 2.10.1912 Вішнева (Валожын) | Звязовы | 28.7.1943 Khanaqin |
| Шыманскі Рычард | 24.3.1924 Адамполь (Навагрудак) | Стралец | 6.7.1944 Лярэта |
| Шымценя Валянцін | 20.4.1914 Туховічы (Баранавічы) | Стралец | 9.8.1944 Лярэта |
| Шырма Васіль | 20.8.1908 Казьмераўка (Гродна) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Шэйнюк Баляслаў | 27.7.1920 Брэст | Падпаручнік | 17.7.1944 Лярэта |
| Шэмёт Казімір | 16.2.1915 Градзіцы(Гродна) | Кананер | 7.5.1942 Рамлех |
| Шэмёт Казімір | 1.6.1897 Коськаў (Заслаўе) | Кананер | 1942, памёр у 23 шатландскім шпіталі |
| Шэрмановіч Іосіф | 20.9.1902 Лунна (Гродна) | Звязовы | 9.7.1944 Лярэта |
| Чабан Мечыслаў | 14.3.1920 Руда Ліпчанская (Шчучын) | Сапёр | 19.5.1944 Монтэ Касіна |
| Чабановіч Сігізмунт | 6.5.1908 Вялікія Навіны (Стаўпцы) | Капрал | 15.5.1944 Монтэ Касіна |
| Чабатарэвіч Альгерд | 28.5.1914 Даўгаўпілс | Звязовы | 30.5.1944 Монтэ Касіна |
| Чаплінскі Збігнеў | 13.11.1923 Гродна | Капрал | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Чабоцька Іван | 2.2.1924 Круцiславічы (Навагрудак) | Ст. стралец | 23.6.1944 Лярэта |
| Чарлонак Станіслаў | 29.6.1905 Барталамеевічы (Дзісна) | Сапёр | 29.9.1943 Khanaqin |
| Чарнавус Бернард | 29.1.1909 Казічы (Ліда) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Чарняк Вінцэнт | ? 1904 Мантоня (Ліда) | Стралец | 4.7.1944 Лярэта |
| Чарняўскі Віктар | 21.5.1921 Ярмакоўшчына (Брэст) | Стралец | 4.10.1942 Khanaqin |
| Чугаеўскі Міхаіл | 20.9.1919 Гарнічы (Пінск) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Чудзялоўскі Уладзіслаў | 10.2.1921 Малы Угрын (Слонім) | Стралец | 19.4.1945 Балонія |
| Чырко Канстанцін | 5.11.1917 Бабровічы (Косава) | ? | 4.10.1944 Лярэта |
| Царык Іван | 10.11.1906 Юнцэвічы (Вілейка) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Цаюн Аляксандр | 15.4.1922 Мазурка (Валожын) | Сапёр | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Цвірка Мечыслаў | 10.6.1926 Кухчыцы (Нясвіж) | Кананер | 17.11.1944 Балонія |
| Цвірка-Гадыцкі Антон | 1.1.1895 Вялікі Карач (Нясвіж) | Харужы | 8.8.1943 Khanaqin |
| Ціхановіч Станіслаў | 15.6.1918 Лясна (Баранавічы) | Стралец | 4.7.1944 Лярэта |
| Цыноўскі Уладзіслаў | 27.5.1906 Берчаўцы (Ліда) | Сяржант | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Цюла Казімір | 20.9.1903 Сваяцічы (Баранавічы) | Капрал | 16.10.1943 Khanaqin |
| Фафіўс Казімір | 25.9.1924 Ізін (Пінск) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Феляксоўскі Станіслаў | 2.11.1922 Асавец (Маладзечна) | Стралец | 2.8.1944 Фэрмо |
| Філіпчык Іосіф | 14.11.1909 Лунінец | Звязовы | 17.7.1944 Лярэта |
| Фільмановіч Багдан | 6.5.1917 Наваполь (Дзісна) | Кананер | 15.6.1942 Рамлех |
| Франкевіч Павел | 1.2.1901 Канічка (Навагрудак) | Ст. стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Эйсмант Баляслаў | 8.8.1906 Малыя Ейсманты (Гродна) | Капітан | 27.8.1944 Лярэта |
| Экерт Франц | 14.5.1908 Муравана (Гродна) | Кананер | 23.1.1943 Khanaqin (Ірак) |
| Юзафоўскі Багдан | 28(21) 1.1917 Бабруйск | Ротмістр | 18.8.1944 Лярэта |
| Юралевіч Антон | 16.1.1906 Залессе (Ліда) | Звязовы | 21.8.1944 Лярэта |
| Юран Сцяпан | 2.10.1908 Думарчыкі (Браслаў) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Юргелевіч Уладзіслаў | 25.6.1920 Малахі (Валожын) | Кананер | 28.4.1944 Монтэ Касіна |
| Юрэвіч Вінцэнт | 22.1.1893 Віцебск | Капітан | 31.12.1943 Рамлех |
| Юшкевіч Павел | 22.8.1920 Гродна | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Юшкевіч Сцяпан | 18.3.1902 Лагішын (Пінск) | Ст. стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Юшкевіч Юльян | 21.5.1922 Лаўры (Ваўкавыск) | Ст. стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Юхневіч-Бербаш Мікалай | 16.5(1)1918 Бербашы (Стаўпцы) | ? | 12.11.1944 Балонія |
| Юхновіч Іосіф | 4.11.1902 Літвінавічы (Брэст) | Ст. стралец | 28.9.1942 Khanaqin |
| Яворскі Антон | 1.9.1904 Волька (Лунінец) | Звязовы | 16.8.1945 Балонія |
| Язьвінскі Часлаў | 10.2.1915 Слаўкава (Нясвіж) | Ст. стралец | 1.7.1944 Лярэта |
| Якімчык Яўхім | ? 1911 Кашухі (Ваўкавыск) | Стралец | 13.5.1944 Монтэ Касіна |
| Якубоўскі Якуб | 20.5.1923 Навагрудак | Улан | 14.4.1945 Балонія |
| Якубоўскі Якуб | 28.3.1901 Навагрудак | Звязовы | 19.9.1944 Перч |
| Янкоўскі Станіслаў | 9.3.1914 Багданаў (Валожын) | Звязовы | 13.11.1944 Балонія |
| Яновіч Сцяпан | 5.1.1915 Трыбухт-Друі (Браслаў) | Стралец | 30.4.1945 Пэрч (Шатландыя) |
| Ярэмік Юры | ? 1902 Свішаны (Дзісна) | Стралец | 14.7.1944 Усх.Кантара |
| Ясевіч Уладзіслаў | 13.4.1923 Каньчакі (Вілейка) | Кананер | 16.9.1944 Лярэта |
| Ясінскі Юры | 27.8.1926 Лунінец | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Яўтух Васіль | 21.8.1921 Радчыцк (Столін) | Сапёр | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Яцкевіч Марк | 27.8.1912 Пасекі (Ваўкавыск) | Капрал | 22.10.1944 Балонія |
| Яцэвіч Герык | 15.10.1913 Браставіца (Гродна) | Падпаручнік | 28.2.1946 Касамасіма |
| Яшкевіч Антон | 3.3.1904 Забалаць (Ліда) | Капрал | 28.8.1944 Лярэта |

Працяг будзе

# Як шукаць мужа?

Ружы, цукеркі, позіркі, якія працінаюць каханага, як стрэлы Купідона, – у нашым наскрозь гандлярскім свеце рамантычнасць і пачуццёвасць прыходзіцца прыстасоўваць да правілаў бязбожнага гандлю. Калі не з фінансавых меркаванняў, дык хоць бы з біялагічных: бо калі стрэлкі гадзінніка, які паказвае узрост, дабіраюцца да 35, то «ў яе» застаецца мала часу. Трэба тэрмінова шукаць мужчыну, каб ажаніць на сабе за вельмі кароткі час.



Хуткі шлюб, такі ж хуткі, як «хуткая дапамога», рэальны, толькі калі весці гульню па правілах бізнесу. Менавіта – брэнд, упакоўка, маркетынг. Таксама як пральныя парашкі, безалкагольныя напіткі і снікерсы, 35-гадовыя жанчыны, якія шукаюць мужа, павінны ўмець паднесці сябе (нявесту) як самы лепшы «прадукт» на рынку, прасоўваць сябе пры дапамозе апытанняў з мэтай вывучэння густу і схільнасцяў спажыўца (жаніха), будаваць свой імідж нават не як тавар, а як лагатып, марку.

Менавіта гэтаму вучыць Рэйчал Грынвальд, выпускніца знакамітай Гарвардскай школы бізнесу, у сваёй кнізе «Пошук мужа пасля 25: выкарыстанне таго, чаму я навучылася ў Гарвардскай школе бізнесу», у якой апісвае 15 фундаментальных крокаў, неабходных для таго, каб знайсці сабе спадарожніка жыцця.

У кнізе, якая імгненна стала бестселерам, дарэмна шукаць цытаты вядомых псіхіятраў, сацыёлагаў, рэлігійных дзеячаў, а таксама сацыялагічныя і філасофскія аналізы адносна даўніны і адносна таго, як шмат часу было пакладзена на кар'еру, чаму «яе» заўсёды прывабляліі «не тыя мужчыны» і гэтак далей. «Мая праграма, – кажа Грынвальд, – гэта дзеянне».

А таму – наперад. Для пачатку трэба акрэсліць сваю мэту і дзейнічаць скаардынавана, паколькі хістанне ў розных напрамках не прыводзіць да пажаданага выніку. Усе дзеянні павінны быць часткай хразумелай і сістэмнай стратэгічнай праграмы. «Гэта і ёсць аснова», – упэўнівае Грынвальд і прыводзіць у прыклад аркестр, у якім могуць іграць усе інструменты, але пакуль дырыжор не пачне дырыжыраваць, музыкі не атрымаецца. Прачытаўшы гэтую кнігу, піша яна, вы навучыцеся рэкламаваць сябе як брэнд, болей кантактаваць з мужчынамі і шмат чаму іншаму.

Першы крок праграмы яна назвала «маркетынгам» – трэба максімальна скарыстоўваць усе магчымасці для сустрэч з мужчынамі. Замест таго, каб атрымоўваць газету на хатні адрас, лепш пайсці пачытаць яе дзе-небудзь у грамадскім месцы. Нельга заставацца дома, калі ёсць магчымасць куды-небудзь пайсці. «Я не ведаю, дзе знаходзіцца ваш будучы муж, але я дакладна ведаю, што ён не ў вас дома», – пераканаўча гаворыць Грынвальд. Хадзіце на вечарынкі, сустрэчы, у розныя гурткі, карацей кажучы, у тыя месцы, дзе можна сустрэць мужчыну і весці сваю гульню.

Адначасна трэба заняцца «ўпакоўкай», гэта значыць апранацца і выглядаць так, каб выклікаць цікавасць у спажыўца-мужчыны. Наступны крок – імідж. «Жанчына без іміджу – гэта як джынсы без маркі», – гаворыць Грынвальд і заклікае браць прыклад з Coca-Cola ці Nike, якія прадаюць, хутчэй, не тавары, а ідэю і філасофію.

Праз квартал працы трэба падвесці і прааналізаваць вынікі. Калі нічога дасягнуць не ўдалося, то неабходна распрацаваць новую тактыку.

Яшчэ жанчыне прыйдзецца ўлічыць, што «Праграма» можа суправаджацца сур'ёзнымі выдаткамі. Таму Грынвальд рэкамендуе завесці асобны банкаўскі рахунак, на які трэба залічваць 10 ці нават 20 працэнтаў даходаў. Усё разам дасць гарантыю знайсці мужа на працягу года, максімум – за 18 месяцаў.

Адна з галоўных перашкодаў – наяўнасць вялікай колькасці «канкурэнтнага тавару». З гэтай прычыны, кожная жанчына, распрацоўваючы сваю асабістую «праграму 15 фундаментальных крокаў», павінна сцерагчыся тых модных і таму банальных рашэнняў, якія зробяць яе падобнай на тысячы канкурэнтак. Пераможа тая асоба, якая не стала клонам нейкага стандартнага вобразу.

**Ірына МАТАЛЬСКАЯ**

## Нечаканкі



**На ваенным парадзе ў Дзень Нацыі ў Мадрыдзе паўнапраўным удзельнікам адбівае крок баран. Ён традыцыйна служыць талісманам Іспанскага Легіёна і заўжды праходзіць урачыстым маршам разам з салдатамі на ўсіх святочных парадах**

# Насуперак вандалам

У «Садзе рэлігійнай і культурнай талерантнасці» у польскім горадзе Пушчыкаве з'явілася зменшаная копія скульптуры Буды, якая была знішчана талібамі ў Афганістане ў 2001 годзе. Як паведаміла агенцтва ПАП, копію стварыў скульптар-аматар з Познані Анджэй Бернацкі. Гаспадар «Сада рэлігійнай і культурнай талерантнасці» Аркадзь-Радаслаў Фідлер сказаў, што усталяванне гэтай скульптуры з'яўляецца «пратэстам супраць знішчэння культурных каштоўнасцяў ва ўсім свеце».

Сульптура Буды ў даліне Бам'ян у Афганістане, знішчаная сучаснымі варварамі з гармат, была створана 1700 гадоў таму. Яе вышыня была 53 метры.

**Вольга САВІНІЧ**

# Янычары ў Беларусі

Заканчэнне. Пач. на стар. 10

Пры гэтым прэм'ер-капельмайстар пачынаў мелодыю на пішчалцы, пасля чаго іншыя музыкі, «зразумеўшы, што гэта за мелодыя», адказвалі яму на іншых інструментах паводле адпаведнага такту. *«Пры гэтым пішчыкі так моцна дзьмулі ў свае дудкі, што іх шчокі раздзімаліся, як бохан хлеба і вочы наверх вылазілі»*. Кітовіч адзначыў, што ўсё гэта **«не мела аніякай музычнай гармоніі, толькі нейкі піск і грукат, здалёку нават і прыемны, але паблізу жахлівы. Заканчвалі свой канцэрт спачатку талеркі і барабаны, а потым адразу ўсе пішчалкі і катлы»**.

Музыканты янычарскіх капэлаў набіраліся з розных сацыяльных групаў. Але ўсе яны былі мясцовага, беларускага паходжання.

### Слуцкія янычары

Магнаты Беларусі ў сваіх прыватных войсках таксама стваралі янычарскія харугвы. Так, у Гераніма Фларыяна Радзівіла ў гарнізоне яго прыватнаўладальніцкага горада Бяла (Бяла-Падлясная ў Брэсцкім павеце) у 1749 г. у янычарскай харугве былі 1 афіцэр, 4 унтэр-афіцэры, 24 габаісты (сурмачы), 22 шэрагоўцы (гемайны). У гарнізоне свайго прыватнаўладальніцкага горада Слуцка Геранім Фларыян Радзівіл у 1751 г. меў таксама янычарскую харугву, якая налічвала тады 136 чалавек на чале з 1 харунжым і 2 сяржантамі. У 1752 г. у гэтай харугве было ўжо 150 чалавек. На чале янычарскай харугвы ў Слуцку былі 3 харунжыя, а ў яе склад уваходзілі 2 сяржанты, 1 фур'ер (займаўся гаспадаркай і расквартараваннем жаўнераў), 6 капралаў, 1 фельчар, 24 музыкі янычарскай капэлы і 113 шэрагоўцаў (гемайнаў). У табелі слуцкага гарнізону ад 1 траўня 1753 г. янычарская харугва ўжо згадваецца як лейб-кампанія янычараў са 151 чалавека. Геранім Фларыян Радзівіл надаў ёй, як бачым, больш ганаровую назву роты (кампаніі), якая асабіста яго ахоўвала. Назва была ўвогуле прынята пры еўрапейскіх дварах, а ў расійскай імператрыцы Елізаветы Пятроўны была тая лейб-кампанія (адна з рот Прэабражэнскага палка, якая прывяла яе да ўлады падчас палацавага перавароту 1741 г.). Трэба адзначыць, што Геранім Фларыян Радзівіл захапляўся парадкамі ў прускай арміі караля Фрыдрыха II. Таму і ў янычарскай харугве, нягледзячы на яе знешнюю вайсковую форму, вайсковыя званні (акрамя афіцэрскіх) гучалі па-нямецку. Праўда, у адным з дакументаў за 1753 г. сяржанты ў гэтай янычарскай харугве названы па-турэцку – **чаусы**.

Да канца жыцця Гераніма Радзівіла (памёр у траўні 1760 г.) у Слуцку знаходзілася янычарская лейб-кампанія. Склад яе вагаўся ад 113 да 139 чалавек. На чале яе ў 1752 г. стаяў ротмістр дэ Кюстын і 3 харунжыя. У складзе лейб-кампаніі былі 3 чаусы – Ясінскі, Кубіцкі і Вайткевіч, 1 фур'ер, капралы, віцэ-капралы і шэрагоўцы. Унтэр-афіцэры былі ад 30 да 52 гадоў, двое шляхцічаў, адзін мешчанін. 6 капралаў мелі ад 22 да 32 гадоў; двое іх былі са шляхты, 4 – з мяшчанаў. Шэрагоўцы былі ад 19 да 41 года (адзін меў 60 гадоў); з іх было 6



шляхціцаў, 1 зямянін (блізкі па сацыяльнаму статусу да шляхты), 61 мешчанін (48 са Слуцка, 9 з Бялы, 4 з іншых гарадоў), 1 градмяшчанін ( з прадмесця ля Бялы), 1 галандзец і 29 «простай кандыцыі» (з сялян). 41 шэрагавец быў жанаты. Паводле веравызнання, 6 янычараў у слуцкім гарнізоне былі праваслаўнымі, 30 рыма-каталікамі і 24 – уніятамі.

У 1760 г. янычарскай ротай камандаваў ротмістр Плінтцнер, паручнікам быў Здановіч, харунжымі Чапрацкі і Яркоўскі. У складзе роты было 7 унтэр-афіцэраў: 1 падхарунжы, 2 чаусы, 1 фур'ер, 4 капралы. Шэрагоўцаў было 92, а да таго яшчэ 20 чалавек у янычарскай капэле.

Пры янычарскай харугве ў слуцкім гарнізоне была і свая янычарская капэла. У 1752 г. у яе складзе налічвалася 24 асобы на чале з магістрам (кіраўніком), 71-гадовым шляхціцам Адамам Сабалеўскім. Музыкі мелі ад 21 да 31 года (толькі двое былі старэйшымі - мелі 47 і 61 год). Сярод музыкаў гэтай капэлы было 4 шляхціцы, 9 мяшчан з Бялы, 6 мяшчан з Польшчы, Чэхіі і іншых краёў, 4 селяніны. У 1753 г. у складзе гэтай капэлы налічвалася 9 барабаншчыкаў, 2 «тулумбаннікі», 9 сурмачоў, 2 музыкі, што гралі на пішчалках. Сярод музыкаў былі шляхта, мяшчане са Слуцка і Бялы і іншыя. У 1760 г. у складзе янычарскай капэлы ў Слуцку былі 1 майстар (кіраўнік), 1 падмайстар, 1 рэгіментс-добаш (барабаншчык) і 17 сурмачоў і добашаў.

### Нясвіжскія янычары

Пасля смерці бяздзетнага Гераніма Радзівіла яго латыфундыі з гарадамі, мястэчкамі, вёскамі і гарнізонамі перайшлі да яго старэйшага брата Міхаіла Казіміра (Рыбанькі), ардыната нясвіжскага. Паколькі яго асноўнай рэзідэнцыяй быў Нясвіж і там знаходзіўся свой гарнізон магнацкага войска, то гарнізон Слуцка быў значна скарочаны, і янычарскай роты ў яго складзе ўжо не было. Роту янычараў спачатку перавялі ў Нясвіж, а ў верасні 1760 г. у Бялу. У сувязі з далейшымі палітычнымі падзеямі новы нясвіжскі ардынат (з 1762 г.) Караль Станіслаў Радзівіл (Пане Каханку), сын Міхаіла Казіміра, у 1763 г. перавёў янычарскую роту з Бялы ў Нясвіж. У 1768 г. у Нясвіжы ўжо знаходзіўся батальён янычараў (былая харугва) з 323 чалавек на чале з падпалкоўнікам Плінтцнерам. У батальёне ўжо было 12 афіцэраў і янычарская капэла з 21 чалавека. У 1769 г. батальён зноў быў пераведзены ў Бялу, а яго камандзір быў ўжо палкоўнікам (у сваім войску сам Радзівіл надаваў званні). Палкоўнічы ранг камандзіра падкрэсліваў ганаровы статус батальёна.

Караль Станіслаў Радзівіл далучыўся да Барскай канфедэрацыі ў 1768 г. Пад націскам расійскіх войскаў, якія ваявалі супраць канфедэратаў, спачатку Радзівіл адступіў са сваімі атрадамі ў Бялу, а потым і ўвогуле за мяжу. Яго прыватнае войска (іншая назва міліцыя) было распушчана, у тым ліку і янычарскі батальён. Пасля вяртання Радзівіла з эміграцыі янычарская харугва ў складзе яго значна скарочанага войска ўжо не была ўзноўлена.

Новы Час
Галоўны рэдактар **Алена АНІСІМ**

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдактар нумару **Канстанцін Тарасаў**
Камп'ютэрная вёрстка **Андрэй Дзегцяроў**
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 1919
Падпісана да друку 24.10.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
**Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11**